*Васіль Тамарыч*

# Вольны горад

Раман

Мінск
«Медысонт»
2020

УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)-4
Т17

**Тамарыч, Васіль**
Т17 Вольны горад : раман / Васіль Тамарыч. — Мінск : Медысонт, 2020. — 216 с.
ISBN 978-985-7228-63-8.

Сонца толькі пачало ўзыходзіць, калі Вандроўнік ступіў на дарогу, якая вядзе да Вольнага горада. Ён выйшаў з лесу і накіраваўся да месца, пра якое чуў увесь свет, але ў існаванне якога верылі далёка не ўсе. Стаць жыхаром Вольнага горада было не складана. Калі чалавек быў добрасумленны, без прымхаў і меў прафесію ці жадаў авалодаць якой-небудзь, ён заўсёды атрымліваў запрашэнне. Менавіта на гэтых трох простых рэчах трымалася месца, якое ўвесь час прываблівала да сябе шмат людзей. Вандроўнік таксама хацеў стаць часткай гэтага чароўнага грамадства, дзе кожны дапамагаў адзін аднаму і дзе самай вялікай каштоўнасцю было сумленне…

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)-4**

**ISBN 978-985-7228-63-8**

# Раздзел I

## Пра тое, як Вандроўнік прыйшоў у Вольны горад

Сонца толькі пачало ўзыходзіць, калі Вандроўнік ступіў на дарогу, якая вядзе да Вольнага горада. Ён выйшаў з лесу і накіраваўся да месца, пра якое чуў увесь свет, але ў існаванне якога верылі далёка не ўсе. Сонечныя праменьчыкі скакалі па дахах, адбіваючыся ад іх і асвятляючы наваколле. Дахі дамоў, як і ўвесь горад, былі настолькі чыстыя, што здавалася, нібы яны знаходзяцца пад велізарным купалам святла.

Вакол гарадскіх муроў месціўся вялікі лагер, дзе часова жылі тыя, хто імкнуўся трапіць унутр. Такі каранцін даваў магчымасць адсяваць злачынцаў, дзякуючы чаму ў горадзе ніколі не было зладзеяў і ніхто нікому наўмысна не чыніў шкоды. У гэтым лагеры людзі займаліся сваімі справамі, яны паказвалі сваё стаўленне да працы і адзін да аднаго. Увесь час за імі сачылі паслы Магістра, упаўнаважаныя выдаваць запрашэнні для тых, хто праходзіў праверку.

Стаць жыхаром Вольнага горада было не складана. Калі чалавек быў добрасумленны, без прымхаў і меў прафесію

ці жадаў авалодаць якой-небудзь, ён заўсёды атрымліваў запрашэнне. Менавіта на гэтых трох простых рэчах трымалася месца, якое ўвесь час прываблівала да сябе шмат людзей. Вандроўнік таксама хацеў стаць часткай гэтага чароўнага грамадства, дзе кожны дапамагаў адзін аднаму і дзе самай вялікай каштоўнасцю было сумленне.

Падыходзячы да лагера, ён заўважыў, як на ўзбочыне сядзіць няголены кашлаты чалавек у вельмі дрэннай вопратцы. Вандроўніку стала цікава, чаму каля месца, якое дае шанец на добрае жыццё кожнаму, хто таго жадае, бавіць час такі чалавек? Чаму ён не імкнецца трапіць унутр? Ці, можа, ён злодзей?

Гэтая думка трохі напужала Вандроўніка. Спачатку ён вырашыў прайсці міма, але, зазірнуўшы ў вочы Валацугі, убачыў у іх пяшчоту.

— Чаму ты сядзіш тут? Ці не было б лепей жыць у лагеры, а потым трапіць у горад? — запытаўся Вандроўнік.

— А ці не дасі ты мне кавалак хлеба? — пачуў ён у адказ.

Вандроўнік ведаў з гісторый, якія распавядалі ў яго краіне, пра тое, што ў лагеры заўсёды дастаткова ежы. Яе прыносілі з горада, каб карміць тых, хто чакаў запрашэння. У самім горадзе ніколі не было праблем з харчамі. Ён стаяў на велічэзным узгорку, а вакол была раўніна, дзе працавалі фермы, якія цалкам забяспечвалі насельніцтва. На поўначы раўніна знаходзілася пад ахоўвай непраходных гор. Дзякуючы рэчцы, што сцякала з іх, першыя жыхары Вольнага горада зрабілі штучнае возера і напоўнілі яго рознай рыбай. Высокі мур абараняў раўніну і горад на захадзе, усходзе і поўдні. Побач з ім быў вырыты роў з вадой, які таксама выконваў абарончую функцыю. Вада ў роў паступала праз канал аднаго з горных ручаёў. Трапіць у горад можна было толькі праз тры адкідныя мосты, найвялікшы з якіх быў на поўдні і вёў да Галоўнай брамы. Вольны горад

знаходзіўся ў даліне Сініх гор — самых высокіх у свеце, яны былі часткай краю, што належаў Заснавальніку горада. Адшукаць гэтае месца было вельмі складана. Высокія горы і няветлівы лес рабілі шмат перашкод тым, хто марыў пра Вольны горад. Але самыя ўпартыя, хто больш за астатніх прагнуў свабоды, былі шчодра адораныя за свае намаганні.

Часам у лагер заходзілі падарожнікі і таксама частаваліся тутэйшымі стравамі. Ежу прапаноўвалі нават тым, хто не меў аніякіх шанцаў трапіць унутр. Некаторыя з гэтых асоб заставаліся ў лагеры, злоўжываючы дабрачыннасцю, але амаль усе, хто страчваў надзею стаць жыхаром Вольнага горада, сыходзілі ў пошуках іншых магчымасцяў. Таму Вандроўніка здзівіла просьба Валацугі, але ён усё роўна дастаў з торбы хлеб, адламаў кавалак і працягнуў яго, сказаўшы:

— Вядома ж!

— А ці не ведаў ты, што сцягі былых стагоддзяў, нібы злы прывід, лунаюць над Вольным горадам?

Гэта была не тая падзяка, на якую разлічваў Вандроўнік.

Ён паглядзеў на горад, які добра было відаць нават здалёк. Цэнтр, або, як яго тут называлі, Таўн, быў размешчаны на самай вышыні ўзгорка. Адну з веж упрыгожваў сцяг, складзены з чатырох колераў: жоўтага, чорнага, белага і чырвонага. Кожны колер увасабляў сабой частку свету і людзей, якія прыйшлі адтуль. Жоўты сімвалізаваў усход, чорны — поўдзень, чырвоны — захад, белы — поўнач. Усе разам — адзінства. Але крыху ніжэй было відаць яшчэ чатыры сцягі. Не такія вялікія, як галоўны, яны падзялілі горад на чатыры часткі, ці, як іх тут называлі, бора. Адпаведна, над усходнім бора лунаў жоўты сцяг, над паўднёвым — чорны, над заходнім — чырвоны, над паўночным — белы.

Вандроўнік ведаў пра адзіны рознакаляровы сцяг і пра тое, як жыхары горада ганарацца ім, але ніколі не чуў пра астатнія. Прадчуваючы наступнае пытанне, Валацуга сказаў:

— Так, гэтых сцягоў Раз'яднання ніколі не было, пакуль Заснавальнік не сышоў з горада.

— Чаму ён сышоў? — спытаў крыху азадачаны Вандроўнік.

— Калі горад паўстаў, Заснавальнік стварыў Раду, якая сочыць за тым, каб жыхары жылі згодна са Статутам. Таксама Рада ўпаўнаважана вырашаць спрэчкі і выганяць тых, хто наўмысна робіць шкоду, але за час існавання горада такіх выпадкаў не было.

Валацуга з цікавасцю паглядзеў на кавалак хлеба і працягнуў:

— Магістрам Рады, яе старшынёй, стаў самы надзейны сябар Заснавальніка, які цалкам падзяляў яго погляды і дапамог яму скласці Статут. Магістр вырашае вялікія спрэчкі, дае парады і ўхваляе запрашэнні для новых жыхароў. Яго галоўныя памочнікі — чатыры канцлеры, кожны з якіх прадстаўляе адну з частак свету: чорную, белую, жоўтую і чырвоную. Канцлеры займаюцца невялікімі спрэчкамі, цікавяцца праблемамі людзей і даюць ім парады. Таксама Магістру дапамагаюць шэсцьдзесят шэсць паслоў, якія маюць шмат дробных абавязкаў. Штогод, праз месяц пасля Жніва, насельніцтва горада вырашае, добра выконвае Рада сваю працу ці не.

Магістр заўсёды задавальняў жыхароў, склад жа канцлераў змянілі падчас апошняга Вольнага схода, што і прывяло да пачатку непрыемных змен. Першая Рада была ўпэўнена ў тым, што за трыццаць тры гады існавання горада яго жыхары сфармавалі адзіны народ, якому больш не патрэбны канцлеры. Замест іх павінны былі з'явіцца

майстры — галоўныя прадстаўнікі кожнай прафесіі, якія б і склалі новую Раду, мэтай якой было б яшчэ больш шчыльнае супрацоўніцтва ўсіх адзінак грамадства. Гэтая рэформа, прадугледжаная Статутам, павінна была стаць падмуркам для наступнага этапу ў жыцці Вольнага горада, але нечакана частка насельнікаў абурыліся. Пад ціскам сенатараў, якія прадстаўлялі яе інтарэсы, Вольны сход вырашыў адхіліць прапанову і зняць з пасады старых канцлераў. Новыя ж, як выявілася пазней, моцна залежаць ад малакольскасных, але ўплывовых патрыярхальных груповак. Заснавальнік быў вельмі засмучаны гэтымі падзеямі.

— А якую ролю Заснавальнік пакінуў сабе? — Вандроўнік перапыніў Валацугу.

— Ён, як і ўсе, жыў і працаваў на карысць горада. Яго асноўным заняткам было кіраўніцтва Тэатрам гумару.

— Чаму ён адмовіўся ад улады?

— Людзі кажуць, што Заснавальнік не жадаў заставацца галоўным, бо баяўся, што пасля яго смерці купка фанатыкаў створыць секту, якая праз нейкі час пачне прасоўваць свае інтарэсы і рабаваць людзей. Ён не жадаў быць часткай сцэнара, які і так ўжо шмат разоў шкодзіў чалавецтву, таму і аддаў уладу тым, да каго меў давер і ён, і насельніцтва горада, якое, як я ўжо казаў, мае права штогод выбіраць тых, хто складае Раду.

Валацуга зноў паглядзеў на кавалак хлеба, атрыманы ад Вандроўніка, разламаў яго і пачаставаў птушачак, якія скакалі побач. Праз імгненне да яго падляцела яшчэ з дзясятак маленькіх істот. Раздаўшы ўсе крошкі, ён працягнуў:

— Трыццаць тры гады Вольны горад быў месцам, што цалкам адпавядала сваёй назве. Быў вольным ад прымхаў і сквапнасці, але некаторыя людзі, нават жывучы ў самым лепшым краі ў свеце, пачалі прагнуць таго, ад чаго яны калісьці ўцяклі, бо памятаюць толькі добрыя моман-

ты старога жыцця і забываюць дрэнныя, нават калі моцна пакутавалі праз іх. Так на вуліцах з’явіліся стужкі белага, жоўтага, чорнага і чырвонага колераў. Людзі пачалі насіць іх, нагадваючы астатнім пра тое, адкуль яны прыйшлі. Ніхто не ведае, як узнікла гэтая традыцыя. Яна занепакоіла Заснавальніка.

У Статуце было зазначана, што адзіным сімвалам горада з’яўляецца рознакаляровы сцяг і што толькі яго выяву можна выкарыстоўваць публічна. Любыя сімвалы старога жыцця маглі ўпрыгожваць жытло знутры, але не звонку. У сваім доме чалавек меў права насіць любыя стужкі, маліцца любым багам, размаўляць на любой мове, мець тыя сімвалы, якія прыносяць яму асалоду. Выключэннем быў Вялікі кірмаш, які ладзіўся чатыры разы на год. На працягу тыдня прадстаўнікі адной з частак свету распавядалі астатнім пра свае традыцыі. Ствараючы Статут, Заснавальнік разумеў, што нельга цалкам забараняць старыя традыцыі, бо ніводзін чалавек не павінен страчваць свае карані, але менавіта традыцыйныя погляды розных народаў, якія часам супярэчаць адзін аднаму, не даюць гэтым народам магчымасці дамовіцца, што прыводзіць да непаразуменняў і дрэнных падзей. Падмуркам жа сапраўднага Вольнага горада з’яўляецца адзінства. Менавіта праз гэта Заснавальнік вырашыў абмежаваць распаўсюд старых традыцый, але вылучыў у календары час для Вялікага кірмашу, падчас якога адны ганарыліся сваімі традыцыямі, а другія захапляліся імі.

Тыя, хто атрымліваў запрашэнне, ведаюць пра гэты артыкул, як і пра ўсе астатнія, бо ў лагеры праводзяцца сходы, дзе паслы Магістра распавядаюць пра Статут і нават даюць копіі тым слухачам, якія здольны чытаць. Калі чалавек пагаджаецца і прымае запрашэнне, яго апошнімі словамі, перад тым як стаць часткай новага грамадства,

з'яўляюцца: «Я абяцаю выконваць правілы Статута, абяцаю абараняць іх, і калі я наўмысна парушу іх, то няхай мяне прагоняць з Вольнага горада».

Але артыкулы Статута можна змяніць, чым і скарысталіся новыя канцлеры. Чорны і Жоўты больш за ўсіх сумавалі па старых звычаях. Яны пераканалі астатніх, што забарона публічна карыстацца традыцыйнымі сімваламі парушае свабоду жыхароў горада. Стары Магістр быў у разгубленнасці, але падтрымаў адмену артыкула, бо ўсё яшчэ быў упэўнены ў тым, што за час існавання Вольнага горада яго насельніцтва стала адзіным і ў большасці сваёй не зверне ўвагі на змену. Ён думаў, што толькі самыя косныя прадстаўнікі грамадства і тыя, хто далучыўся да яго нядаўна, будуць рады адмене. Але ён таксама верыў, што навічкі, пражыўшы некаторы час у горадзе, хутка зразумеюць усю моц адзінства.

На жаль, гэта было не так. Усё больш жыхароў пачалі насіць аднакаляровыя стужкі, размаўляць на старой мове і не разумець адзін аднаго. Бачачы гэта, Заснавальнік сышоў. За ім пачалі сыходзіць і першыя незадаволеныя новай Радай. Неўзабаве горад падзяліўся на бора, над якімі залуналі сцягі Раз'яднання. Тыя ж, хто ўсё яшчэ не страціў веру ў адзінства, засталіся жыць у Таўне.

— Але чаму Статут забараняў размаўляць на родных мовах, хіба гэта дрэнна? — Вандроўнік утаропіўся на Валацугу.

— Не, але гэта не мае сэнсу, калі людзі будуюць новае грамадства. Яны павінны размаўляць на адной мове, каб разумець адзін аднаго. Ужыванне родных моў было абмежаванае. Іх нельга было выкарыстоўваць на вуліцы, на працы, у розных актах ці падчас агульных мерапрыемстваў. Але ў школе ўсе вывучалі не толькі Адзіную мову, але і родныя. Кнігі пісаліся на Адзінай мове, а потым пе-

ракладаліся на ўсе астатнія. Газеты выходзілі Адзінай мовай, але самыя цікавыя артыкулы таксама перакладаліся. Некаторыя спектаклі ў тэатрах рабіліся на родных мовах. Але публічна ўсе былі павінны размаўляць афіцыйнай, інакш прадстаўнікі розных частак свету ніколі б не паразумеліся. Цяпер жа Адзіную мову вывучаюць толькі ў школах Таўна, куды сышлі тыя, хто не хоча жыць пад сцягамі Раз'яднання. Вакол цэнтра ўтварыліся бора, дзе рэдка можна пачуць Адзіную мову, дзе некаторыя прынцыпова не размаўляюць з тымі, хто не ведае іх роднай мовы. У бора пачалі друкавацца кнігі, якія не перакладаюць, а гэта значыць, што прадстаўнікі іншых частак свету, магчыма, ніколі не даведаюцца пра іх змест, ніколі не прачытаюць і не атрымаюць асалоду ад новых гісторый. Але маглі б гэта зрабіць, калі б іншыя не былі б такія вузкалобыя.

Вандроўнік не ведаў, што сказаць. Перамінаючыся з нагі на нагу, ён глядзеў на Вольны горад і не мог паверыць, што спазніўся, што больш няма таго месца, пра якое пляткарыць увесь свет. Нягледзячы на гэта, яму ўсё роўна было цікава трапіць унутр. Нібы адчуўшы гэта, Валацуга працягнуў:

— Але не спрэчкі вакол сімвалаў і мовы сталі пачаткам масавага сыходу з горада.

— Масавага? — Вандроўнік перавёў позірк на суразмоўніка.

— Так. У Вольным горадзе ніколі не было грошай, пакуль шахцёры, якія здабывалі камяні для будоўлі, не знайшлі ў гарах золата.

— Як жа людзі жылі без грошай? — Вандроўнік чуў пра гэтую адметнасць Вольнага горада, але не мог уявіць яе.

— Усё вельмі проста. Кожны добрасумленна выконваў сваю працу. Калі фермеру трэба было падкаваць каня, ён ішоў да каваля. Калі кавалю патрэбна была ежа, ён ішоў на

ферму. Ніхто ніколі нічога не назапашваў, таму што ўсім заўсёды ўсяго хапала. Былі спецыяльныя свіраны са збожжам, але ўсе ведалі, што гэта запас на выпадак неўраджаю. Кожны жыхар працаваў плённа, таму ў горадзе ніколі не было крадзяжоў, бо рэчаў і ежы хапала нават тым, хто жыве ў лагеры.

— Я заўсёды быў упэўнены ў тым, што фермер працуе нашмат больш і цяжэй, чым пісьменнік ці той жа каваль.

Валацуга не пераканаў Вандроўніка.

— Так. Але калі ў пісьменніка не было натхнення, ён ішоў на ферму і дапамагаў яе гаспадару, бо ведаў, што без яго ежы не пражыве. Тое самае рабіў і каваль, калі ў яго не было замоў. Узімку, калі ў фермераў было няшмат працы, надыходзіў іх час дапамагаць астатнім. Артыкул аб узаемадапамозе быў прапісаны ў Статуце, але людзі і самі хутка зразумелі, што ў іх ёсць магчымасць мець усё, што патрэбна, калі проста сумленна выконваць сваю працу і добра ставіцца адзін да аднаго.

— А ці быў у іх адпачынак? — Вандроўнік усё яшчэ падазрона ставіўся да безграшовай сістэмы.

— Безумоўна! Кожны сам сабе выбіраў два дні адпачынку на тыдзень. Нават фермеры, пра якіх ты так клапоцішся, бо ім заўсёды дапамагалі.

— Няўжо ніхто і ніколі не спрабаваў гультаяваць?

— Такія выпадкі здараліся ў першы год існавання горада, але з дапамогай старых канцлераў спрэчкі хутка і мірна вырашаліся. Людзі разумелі, што сумленная праца — не высокі кошт за магчымасць жыць у Вольным горадзе.

— Часам здараецца так, што чалавеку больш не цікавая прафесія, якую ён калісьці абраў. Няўжо ён вымушаны пакутаваць да канца сваіх дзён ці сыходзіць з горада?

Валацуга зарагатаў, але заўважыў, што распуджваў птушак, якія дагэтуль дзяўблі хлеб. Хутка ён зноў зрабіўся сур'ёзным:

— Я табе ўжо казаў, што кожны сам выбірае сабе прафесію і можа навучыцца новай, калі захоча гэта зрабіць. Яшчэ колькі месяцаў таму ў Вольным горадзе не было галоўных, тут кожны займаўся тым, што яму больш пасуе. Адначасова кожны працаваў сам на сябе і на грамадства. Тут ніхто нікога не мог прымусіць штосьці зрабіць, бо ў такім выпадку тыран павінен быў бы сысці з горада. Нават Магістр і канцлеры не былі галоўныя, а проста выконвалі свае абавязкі і дапамагалі астатнім, калі гэта патрабавалася.

— Што здарылася, калі знайшлі золата?

— Сквапнасць авалодала розумамі новых канцлераў. Аднойчы яны вырашылі, што некаторыя прафесіі больш ганаровыя, чым іншыя, таму людзі, якія імі валодаюць, павінны мець больш. Але гэтую думку было цяжка давесці да народа, які трацiну стагоддзя жыў згодна з прынцыпам, што ўсе прафесіі роўныя. Аднак Рада ўсё адно заснавала манетны двор, якім і пачала кіраваць. З'явіліся грошы. Рэформу абумовілі тым, што калі чалавек хоча назапашваць рэчы і багацце, то ён павінен мець такую магчымасць. Але навошта назапашваць рэчы ў месцы, дзе ёсць усё, што патрэбна? — Валацуга паглядзеў на зямлю, задуменна паматаў галавою і праз імгненне працягнуў: — Групоўкі, якія ў свой час дапамаглі новым канцлерам абрацца ў Раду, падтрымалі іх і на гэты раз. Яны хутка пераканалі значную большасць жыхароў у тым, што рэформа прынясе вялікую карысць. Тыя, хто насамрэч разумеў, да чаго прывядзе новы закон, пачалі масава сыходзіць з горада. Першыя вынікі змены ўжо бачны. Канцлеры вырашылі, што іх праца з'яўляецца самай ганаровай, таму менавіта яны і павінны атрымліваць самыя высокія заробкі.

— Чаму тыя, хто быў супраць, сышлі, а не змагаліся? Чаму гэтак жа зрабіў Заснавальнік?

— Мабыць, таму што гэта лавіна, якую ўжо не спыніць.

Сумнымі вачыма Валацуга пранізліва паглядзеў на Вандроўніка.

— А што, калі новы закон аб грошах не такі і дрэнны?

— Дзякуючы яму ў горадзе хутка з'явіліся зайздрасць і нянавісць. Учора — сябар, сёння — вораг.

— Але мне ўсё роўна цікава паглядзець на Вольны горад нават у такім стане.

— Тады падрыхтуй сваю кішэнь, бо кожны раз, калі ты будзеш апускаць у яе заробак, Рада дастане адтуль дзесяціну на так званыя патрэбы горада. Гэта яшчэ адзін новы артыкул у Статуце — плаці, калі хочаш жыць у Вольным горадзе. А калі не — сыходзь!

Вандроўнік разгубіўся. Ён зразумеў, што больш няма таго месца, якое ўвесь час абмяркоўваюць у далёкіх корчмах яго роднага краю. Смутак ахапіў яго. Валацуга заўважыў змену ў настроі суразмоўніка і вырашыў яго трохі падбадзёрыць:

— У цябе яшчэ ёсць шанец пабачыць рэшткі Вольнага горада. Таўн імкнецца жыць так, як гэта было да абрання новай Рады. Але золата пачало разбэшчваць і некаторых яго жыхароў. Таму, калі ты яшчэ не згубіў надзею адчуць сябе вольным, спяшайся, бо хутка і сэрца горада напоўніцца атрутай!

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш, ты ж проста жабрак? — прамовіў трохі раззлаваны Вандроўнік.

— Я слухаю, што кажуць людзі. Я бачу твары тых, хто сыходзіць, і тых, хто атрымлівае запрашэнне, а таксама тых, хто іх выдае. З часам яны ўсе змяніліся.

— Чаму ты сам не хочаш трапіць у горад?

— Я жыў у гэтых лясах яшчэ тады, калі горада тут не было. Жыхары лясоў ніколі не здрадзяць. Яны ніколі не будуць сквапныя. Яны назаўсёды застануцца шчырымі.

Вандроўнік адламаў вялікі кавалак хлеба і працягнуў яго Валацугу, у вачах якога ён разгледзеў ўдзячнасць. Збянтэжаны хлопец пайшоў да лагера, дзе правёў некалькі тыдняў. Там яму распавялі пра Статут і пра новыя артыкулы, пра гісторыю горада і пра тое, што гэта самае цудоўнае месца ў свеце, якое з кожным днём робіцца ўсё лепшым і лепшым. Вандроўнік давёў да паслоў Магістра, што з'яўляецца добрым цясляром і што ў яго няма прымхаў. Таксама ён авалодаў базавымі ведамі па Адзінай мове, хоць гэта ўжо было не абавязкова.

У дзень, калі Вандроўнік даваў абяцанне паважаць Статут і выконваць яго артыкулы, ішоў моцны дождж. Падзея адбывалася на Паўднёвым масце, каля Галоўнай брамы, таму ад залевы было немагчыма схавацца. Цяжка было распазнаць нават твары людзей, якія стаялі побач і таксама абяцалі паважаць Статут. Таму Вандроўнік засяродзіўся на паслах Магістра, вымаўляючы словы як мага гучней, каб тыя пачулі іх. Пасля прамовы вартаўнікі адчынілі Галоўную браму перад новымі жыхарамі Вольнага горада.

Зайшоўшы ўнутр, Вандроўнік пачаў аглядацца. Ён заўважыў, як з натоўпу навічкоў, якія, нягледзячы на дрэннае надвор'е, адразу накіраваліся ў горад, аддзялілася постаць. Яна падалася Вандроўніку знаёмай. Адзіночка рушыў у напрамку шынка, што месціўся непадалёк ад брамы. Шынок быў спецыяльна пабудаваны для таго, каб новыя жыхары маглі адразу даведацца пра апошнія навіны, пра самыя запатрабаваныя прафесіі і пра тое, дзе лепей уладкавацца. Але даволі часта яны міналі яго і ішлі ў горад ці на фермы. Таксама ў гэтым шынку бавілі час вартаўнікі. Калі незнаёмец павярнуўся і сеў побач з уваходам, Вандроўнік не паверыў сваім вачам і хутка падышоў да яго:

— Вось мы зноў сустрэліся, — аксамітавы голас Валацугі цяжка было пераблытаць з якім іншым.

# Раздзел II

## Пра тое, як Магістр выступіў супраць падатку на бяздзетнасць

Пасяджэнні Рады праходзілі ў Таўне ў Старым палацы, але ў будучыні гэта павінна было змяніцца. Кожны канцлер будаваў у сваім бора асобную рэзідэнцыю, у якой планаваў жыць разам са слугамі і праводзіць кожнае чацвёртае пасяджэнне. Першапачаткова Магістр і старыя канцлеры дамовіліся пабудаваць Палац Волі ў самым цэнтры горада. Гэты будынак, зроблены з цэглы рознага колеру, павінен быў стаць сімвалам адзінства. Але пасля абрання новых канцлераў яго будаўніцтва хутка спынілася. Кожны з іх сакрэтна загадаў некаторым рабочым ужываць больш цэглы таго колеру, які сімвалізаваў частку свету, адкуль яны прыйшлі. Праз гэта ўзнікалі спрэчкі, таму новыя канцлеры вырашылі адмовіцца ад будаўніцтва Палаца Волі ў Таўне і аддалі загад, каб у кожным бора з'явілася асобная рэзідэнцыя. Дзякуючы падаткам яны маглі сабе гэта дазволіць. Увогуле, лічылі, што ўсе падаткі павінны ісці на

забеспячэнне патрэб кіраўнікоў Рады, бо менавіта іх праца самая важная і гэта ў першую чаргу ім насельніцтва абавязана дзякаваць за дабрабыт.

Не забываліся канцлеры і пра ўласных памагатых, якія з'явіліся ў іх пасля грашовай рэформы. У свеце заўсёды будуць людзі, гатовыя рабіць любую, нават самую брудную працу, абы толькі задаволіць тых, хто мае ўладу. Але адданасць такіх асоб трымаецца выключна на грошах і залежыць ад таго, наколькі добра ідуць справы ў гаспадара. Як толькі ўдача здраджвае яму, следам за ёй здраджваюць і тыя, хто яшчэ ўчора прысягаў на вернасць і цалаваў ногі.

Старому Магістру было цяжка змагацца з новымі канцлерамі. Да яго рэдка прыслухоўваліся і амаль заўсёды выкарыстоўвалі змены настрою, якія з цягам часу рабіліся ўсё менш кантраляванымі. Ніводны лекар Вольнага горада не ведаў, як дапамагчы Магістру, настрой якога залежаў ад надвор'я. Першая Рада ніколі не вырашала сур'ёзных пытанняў, калі ішоў дождж ці снег. У такія дні твар Магістра рабіўся шэрым, нібы тыя хмары, што прыносілі дрэннае надвор'е. Раней жа, нават падчас урагану, Магістр не быў такі суворы, як зараз, калі сонца проста хавалася за аблокі. Ніхто не ведаў, чаму гэта адбываецца. Нават сам Магістр, які ў добрыя дні намагаўся зразумець, што з ім не так. З кожнай новай навальніцай жудасная немач усё больш і больш апаноўвала найлепшага сябра Заснавальніка.

Белы канцлер быў апошні, хто прыехаў на пасяджэнне Рады. Ён спазніўся. Моцны дождж ужо скончыўся, і на небе з'явілася сонца.

— Усё, можна пераносіць пасяджэнне! — незадаволена сказаў Чырвоны канцлер.

— Навошта? Стары наўрад ці адчувае сябе добра пасля такой навальніцы, — Жоўты быў упэўнены, што клапаціцца няма пра што.

— Але ж гэтае сонца! Глядзі, на небе ўвогуле няма аблокаў. Халера з імі! — працягваў Чырвоны.

— Не хвалюйся, мы зможам пераканаць яго. — Чорны канцлер паспрабаваў супакоіць калегу. — Мне падаецца, стары канчаткова з'ехаў з глузду. Бо калі ён не пакутуе ад самой хваробы, дык робіць гэта праз тое, што не ведае, як яе вылечыць.

— Добра, паглядзім. Давайце пачынаць, — Жоўты зрабіў знак Беламу, каб той паклікаў Магістра ў Галоўную залу Старога палаца.

Праз некалькі хвілін Магістр і Белы канцлер былі на месцы. Астатнія адразу заўважылі, што самы стары прадстаўнік Рады зноў у добрым гуморы. Чырвоны канцлер з дакорам паглядзеў на Белага, які вінавата апусціў вочы.

— Якое пытанне разглядаем сёння? — запытаў Магістр, першым заняўшы месца за круглым сталом.

Канцлеры з невялікай ахвотай занялі астатнія. Усе ведалі, што з Магістрам вельмі цяжка спрачацца, калі ў яго добры настрой, але пераносіць пасяджэнне ніхто не хацеў, бо апошнім часам справы горада ўсё менш клапацілі канцлераў і лішні раз збірацца ў Таўне ў іх не было ніякага жадання. Новыя артыкулы, якія яны планавалі хутка ўвесці ў Статут, павінны былі яшчэ больш палегчыць іх жыццё. Першая рэформа, якую трэба было разгледзець, — падатак для тых, хто не мае дзяцей. Людзі пачалі масава сыходзіць пасля таго, як былі ўведзены грошы. Гэта ж прывяло да таго, што ўпершыню за ўсю гісторыю Вольнага горада яго насельніцтва не павялічвалася, а скарачалася. Канцлеры не знайшлі лепшага варыянта, чым прапанаваць увесці новы падатак, які б заахвоціў тых, у каго няма дзяцей, жыць не толькі дзеля сябе, але і дзеля «вялікай будучыні вольнага грамадства». Менавіта так гэта было пазначана ў артыкуле. Бяздзетных было шмат, таму канцлеры, акра-

мя Чорнага, былі ўпэўнены ў тым, што новы артыкул прынясе карысць як гораду, так і Радзе. У першым выпадку горад пачне поўніцца новымі жыхарамі, якім да таго ж не трэба будзе прыстасоўвацца да тутэйшых умоў. У другім — у казне з'явяцца дадатковыя сродкі дзякуючы падатку, які заплоцяць тыя, хто не хоча мець дзяцей.

Спачатку гэты варыянт спадабаўся не ўсім канцлерам. Супраць былі Чорны і Белы, але пад націскам Жоўтага і Чырвонага, а таксама патрыярхальных колаў, чые галасы з кожным днём гучалі ўсё грамчэй і грамчэй, першыя два мусілі саступіць. Аднак Чорны па-ранейшаму лічыў памылкай увядзенне гэтага падатку.

Зараз заставалася толькі пераканаць Магістра, але ў дадзены момант ён быў супраць новага радыкальнага закона:

— Вы несяце нейкую лухту, — сказаў Магістр, пасля таго як Жоўты канцлер распавёў яму пра тое, якім мае быць артыкул «Аб паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў Вольным горадзе».

— Прабачце, але ў нас няма іншага выхаду! — Чырвоны канцлер выступіў у падтрымку закона.

— Чаму? — Магістр са здзіўленнем паглядзеў на Чырвонага.

— Гэта адзіны варыянт, які цалкам задавальняе Вольны горад. У любым выпадку, нашае грамадства атрымае карысць. Калі не пабольшае колькасць насельніцтва, дык пабуйнее казна.

На твары Жоўтага канцлера ўзнікла лёгкая ўсмешка, але яна адразу знікла, калі Магістр працягнуў настойваць на сваім:

— Ёсць і трэці варыянт.

— Які? — разам вымавілі галоўныя ініцыятары прапановы.

— Горад страціць яшчэ больш насельніцтва, бо незадаволеныя новым артыкулам жыхары таксама сыдуць, — адказ Магістра дакладна трапіў у самае балючае месца прапанаванай рэформы.

Канцлеры і самі разумелі, што новы артыкул прыйдзецца даспадобы далёка не ўсім жыхарам, але іх гэта не вельмі турбавала, бо да наступнага Вольнага схода, на якім насельніцтва вырашыць, каго пакінуць на пасадзе, а каго замяніць, было яшчэ шмат часу. Хутка канцлеры планавалі ўхваліць шэраг законаў, якія абмежавалі б уладу Вольнага схода, а пасля скасавалі б і пасаду Магістра, які хоць і не чыніў вялікіх перашкод новым прадстаўнікам Рады, але ўсё роўна час ад часу не пагаджаўся з імі.

Каб закон быў прыняты, за яго павінны прагаласаваць усе сябры Рады. Перамовы працягваліся, калі хтосьці выступаў супраць. У Статуце пазначалася, што новыя артыкулы прымаюцца аднагалосна, бо яны павінны задавальняць усіх. Ад самага пачатку Статут грунтаваўся на прынцыпах кампрамісу і адзінства, але гэта не падабалася новым канцлерам і тым, хто іх падтрымліваў.

— Наўрад ці мы страцім больш, чым атрымаем, — на гэты раз ужо ўсходні канцлер паспрабаваў пераканаць Магістра.

— Магчыма, але мы страцім добрых людзей, якія б маглі плённа працаваць на карысць Вольнага горада. І што...

— На карысць Вольнага горада?! — выбухнуў Чырвоны, перапыніўшы Магістра. — Такія людзі заўсёды дбаюць толькі пра сябе, і яны ніколі не ўлічвалі і не будуць улічваць інтарэсы грамадства!

— Але грамадства Вольнага горада жыло вельмі добра на працягу трох дзесяцігоддзяў, пакуль не з'явіліся вы са сваімі ліхаманкавымі прапановамі! — Магістр таксама не стрымаўся.

— Панове, калі ласка, не трэба сварыцца. — Да размовы нечакана далучыўся Чорны канцлер, які згодна з папярэдняй дамовай з іншымі канцлерамі павінен быў ціха назіраць за пасяджэннем. — Мы ніколі не паразумеемся, калі будзем лаяць адзін аднаго.

Жоўтаму канцлеру вельмі не спадабалася, што Чорны паспрабаваў знізіць ціск на Магістра. Ён сувора паглядзеў на яго і перапыніў, сказаўшы спакойным, але ўпэўненым голасам:

— Шаноўны Магістр, здаецца, ты запамятаваў, што менавіта народ Вольнага горада зняў з пасады старых канцлераў і абраў новых. Табе ж Вольны сход вырашыў даць яшчэ адзін шанец. Дык вось, не страць яго. Народ хоча змен, і мы прапаноўваем іх. Калі ты будзеш увесь час перашкаджаць нам, то, хутчэй за ўсё, пасля Жніва, пасаду Магістра зойме іншы чалавек.

Стары пахмурнеў. Ён прыгадаў легенду, якую яму калісьці распавёў яго найлепшы сябар. Аб прароку і яго дзесяці вучнях, якія пасля смерці настаўніка доўга не маглі вырашыць, што рабіць далей. Тры з іх прагнулі таго, каб увесь свет даведаўся пра неверагодныя ідэі прарока. Яны прапанавалі пайсці ў розных кірунках і распавесці людзям пра месію.

Два былі супраць і казалі, што яны ўсе разам павінны скочыць з гары. Калі пра іх ахвяру даведаюцца людзі, яны ўбачаць, што ідэі прарока вартыя нават таго, каб развітацца з жыццём. І на месцы ахвярапрынашэння збудуюць храм, які і стане пачаткам новай рэлігіі.

Астатнія пяць паслядоўнікаў не мелі ўласнага меркавання. Яны прыслухоўваліся да абодвух бакоў і ўрэшце выбралі тых, хто прапанаваў скочыць з гары. Ім казалі, што ахвяра зробіць іх святымі, што яны назаўжды зоймуць пачэснае месца ў пантэоне новай рэлігіі, якая ў хуткім часе

будзе панаваць ва ўсім свеце. Дайшло да таго, што ім пабяцалі вечнае жыццё, але не распавялі пра тое, калі і дзе яно мае быць. Як і не распавялі пра тое, праз каго людзі даведаюцца пра ідэі прарока. Але гэтыя абяцанні захапілі тых, кто вагаўся. Яны нават і не заўважылі, што ўсё гэта ніяк не адпавядае вучэнню прарока. Але ім ужо было ўсё роўна, бо ўвесь час яны толькі і чулі пра пашану, якую хутка атрымаюць. І гэтага ім было дастаткова.

Паслядоўнікі ж, якія выступалі за распаўсюд ідэй, не маглі прапанаваць сваім сябрам нічога падобнага. Яны, наадварот, казалі, што абраны імі шлях будзе цяжкі, што ніхто не можа гарантаваць, што ўсё скончыцца ўдала, але калі іх задума атрымаецца, людзі даведаюцца пра самыя неверагодныя ідэі, якія назаўжды зменяць лёс усяго чалавецтва. Гэтая прапанова не была прывабная для тых, хто вагаўся.

Усё скончылася тым, што два паслядоўнікі, якія спачатку былі ў меншасці, дзякуючы ўпартасці і нядзейсным абяцанням атрымалі падтрымку большасці, якая вагалася. Да іх далучыўся і адзін паслядоўнік, які спачатку выступаў за распаўсюд ідэй. Ён лічыў, што большасць не можа памыляцца, таму і перайшоў на іншы бок.

Аднойчы восем вучняў, якія вырашылі скочыць з гары, склікалі людзей, што павінны былі назіраць за ахвярапрынашэннем. Разявакам, якія прыйшлі падзівіцца на гэта, далі тастамент з асноўнымі ідэямі прарока, пасля чаго адзін за адным восем паслядоўнікаў скочылі з гары, разбіўшыся насмерць. Разявакі прачыталі тастамент, але амаль нічога не зразумелі, бо тое, што было ў ім напісана, аказалася вельмі складаным для іх розуму. На жаль, у той момант побач не засталося нікога, хто б мог растлумачыць ім ідэі прарока. Хутка гэты тастамент апынуўся ў адной з публічных прыбіральняў непадалёк ад месца, дзе адбылося ахвярапрынашэнне.

У той жа час апошнія два паслядоўнікі збіраліся ў паломніцтва, аднак адзін з іх вырашыў, што нічога не атрымаецца, бо пары чалавек недастаткова, каб здзейсніць задуманае. Ён пажадаў поспехаў свайму сябру і застаўся ў родным краі. У выніку толькі адзін паслядоўнік адважыўся распавесці свету пра неверагодныя ідэі прарока. Але яго высілкаў было недастаткова.

На жаль, часам здараецца так, што перамагаюць не самыя шчырыя і лепшыя, а тыя, хто маняць і нават не ведаюць, што робяць. Але апошнія цвёрда перакананы ў сваёй слушнасці, і гэта прываблівае людзей.

Магістр быў упэўнены, што гэтаксама адбылося і падчас апошняга Вольнага схода. Гучней і напорысцей за ўсіх выказваліся тыя, хто быў за захаванне пасады канцлераў і супраць з’яўлення інстытута майстроў. Сенатары ад патрыярхальных груповак запалохалі астатніх, кажучы, што змены зруйнуюць грамадства, што Вольны горад ператворыцца ў невядомую пачвару і што лепей адмовіцца ад рэформы, якую прапанавалі старыя канцлеры. Замест гэтага яны паабяцалі захаваць дабрабыт, якому насамрэч нічога не пагражала, а таксама заўпэўнілі ў тым, што жыць у горадзе стане яшчэ лепш, але ніхто з іх не распавёў, як гэтага дамагчыся.

Удзельнікі Вольнага схода, напалоханыя страшэннымі прароцтвамі і адурманеныя абяцанкамі, былі ўжо не ў стане прыслухоўвацца да тых, хто марыў стварыць адзіны народ і ведаў, як гэта зрабіць, не адбіраючы ў людзей іх традыцыі і не адсякаючы іх карані. Такім чынам, большасць тых, хто вагаўся, перайшлі на бок патрыярхальных вылучэнцаў. Потым да іх далучыліся і тыя, хто заўсёды ідзе за большасцю. Таксама дапамагло і тое, што частка сенатараў, якія выступалі за старых канцлераў, пакінулі Вольны сход яшчэ да галасавання, бо не былі гатовыя да працяглых перамоў.

Таму Магістр разумеў, што гэта не жыхары знялі з пасады старых канцлераў, а жах сенатараў перад пераменамі, а таксама іх хцівасць. Тыя ж ідэі, якія прапанавалі новыя канцлеры, насамрэч былі рэтраградныя, таму іх і падтрымалі патрыярхальныя групоўкі. А што тычыцца пасады Магістра, то гэта была адзіная саступка, на якую пайшлі пераможцы, бо, па-першае, яны і так атрымалі значную большасць у Радзе, а па-другое, лічылі, што хворага непрыяцеля будзе прасцей асіліць, чым здаровага паплечніка, калі той раптоўна вырашыць дзейнічаць самастойна.

— А што рабіць з людзьмі сталага ўзросту, у якіх няма дзяцей і якія больш не здатны іх мець? Вы ім не зробіце ласку, калі прымусіце плаціць гэты падатак, — Магістр быў непахісны.

— Хай сыходзяць, калі не хочуць плаціць. Грамадству ад іх усё роўна няма ніякай карысці. Толькі праблемы з доглядам, — злосна адказаў Чырвоны канцлер.

— Я адмаўляюся верыць у тое, што зараз пачуў! — Магістр зноў не стрымаўся.

Спрэчкі цягнуліся да вечара. На дварэ ўжо было цёмна, але ніхто не хацеў саступаць. Раптам Жоўты канцлер пачуў, як нешта пачало ціхенька біць у вакно. Ён падышоў бліжэй і заўважыў, што гэта былі кроплі. На твары канцлера зноў заззяла ўсмешка. Астатнія заўважылі гэта, прыпынілі размову і адразу пачулі гукі дажджу. Аблічча Магістра змянілася ўмомант. Ён пацягнуўся да паперы, на якой быў напісаны новы артыкул «Аб паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў Вольным горадзе», паставіў подпіс і, нічога не кажучы, пакінуў Галоўную залу.

— Пасяджэнне скончана, — усміхаючыся сказаў Жоўты канцлер.

# Раздзел III

## Пра тое, як Красуня заспявала сваю першую сумную песню

Аўстэрыя «Шалёны напой» знаходзілася на ўскрайку Таўна непадалёк ад Чырвонага бора. Гэтую назву яна атрымала дзякуючы дзіўнаму напою, які ва ўсім горадзе гатавала выключна Гаспадыня, жонка Карчмара, разам з якім яны сумесна валодалі знакамітым заезным домам. Напой быў настолькі моцны, што нават самыя дужыя дрывасекі і шахцёры валіліся пасля трэцяга кубка. Звычайным наведвальнікам было дастаткова і аднаго, каб потым увесь вечар спяваць песні. Галоўнаю ж асаблівасцю Шалёнага напою была не яго моц, а вельмі прыемны смак, занадта мяккі для такога напітку. Таму людзі, якія каштавалі яго ўпершыню, нечакана для сябе хутка рабіліся п'янымі. Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, гаспадар рэдканаліваў больш за адзін кубак. Абмяжоўваць гасцей даводзілася не часта, бо мясцовыя жыхары не мелі схільнасці да алкаголю.

У гэтай аўстэрыі працавала Красуня. Вельмі прывабная паненка з даўгімі рудымі валасамі, вялікімі зялёнымі, нібы ізумруд, вачамі, малочнай скурай і паставай пясочнага гадзінніка. Яна была тутэйшая. Нарадзілася ў сям'і музыкаў, якія прыйшлі ў Вольны горад аднымі з першых. Дзесяць гадоў сям'я жыла шчаслівa, але цяжкая хвароба спачатку забрала маці, а потым і бацьку дзяўчыны. Яе прытулілі сябры бацькоў, якія і былі гаспадарамі «Шалёнага напою». Яны ведалі, што Красуня любіць спяваць, таму заўсёды ўхвалялі яе схільнасць да музыкі. Здольнасці дзяўчыны дазвалялі ёй пайсці вучыцца ў Акадэмію мастацтваў, але яна вырашыла застацца ў карчме, каб дапамагаць тым, хто калісьці даў ёй прытулак. У гаспадароў аўстэрыі не было дзяцей, таму яны вельмі ўзрадаваліся, калі даведаліся, што Красуня застаецца. Ранкам і ўдзень удзячная паненка працавала на кухні і разносіла ежу гасцям. Увечары разам з сяброўкамі яна спявала ў аўстэрыі і час ад часу іграла на скрыпцы і мандаліне. Гэтыя імпрэзы таксама былі адметнай рысай «Шалёнага напою».

Пачуўшы на кірмашы пекараў, які ладзіўся штогод перад надыходам маразоў, непрыемныя чуткі, Красуня паспяшалася дахаты, каб распавесці пра іх родным. Зайшоўшы ў аўстэрыю, дзяўчына, трохі стаміўшыся ад хуткай хады, спачатку прысела на лаву, каб адпачыць. Але яна была так узбуджана, што неўзабаве паднялася і рушыла на кухню, дзе адразу ж застала Карчмара і яго жонку, якая, пільна ўглядаючыся ў пачырванелы твар прыёмнай дачкі, запыталася:

— Што здарылася, кветачка? Хіба ты дрэнна адчуваеш сябе?

— Не ведаю. — Дзяўчына ўзяла збан з вадой і зрабіла некалькі вялікіх глыткоў. — Зараз на кірмашы казалі, што Рада амаль падрыхтавала новы артыкул, згодна з якім усе

бяздзетныя будуць абавязаны плаціць падатак, а калі яны адмовяцца, то іх выганяць з горада.

— Добра, што ў нас ёсць ты. Ці ўлічваюцца толькі родныя дзеці? — не падумаўшы, адказаў Карчмар, які заўсёды імкнуўся разважаць пазітыўна. Ён хутка зразумеў сваю памылку. — Але, вядома ж, справа не ў гэтым...

Яго пастаянна добры настрой быў абумоўлены жыццём у Вольным горадзе. Толькі тут Карчмар нарэшце адчуў сябе свабодным чалавекам. Толькі тут ніхто не звяртаў увагі на тое, што ён паўкроўка. Толькі тут ён стаў па-сапраўднаму шчаслівым. Бацька Карчмара быў прадстаўніком Чорнай часткі свету, маці — Жоўтай. Па-за мурамі Вольнага горада людзі рэдка станоўча ставяцца да такіх шлюбаў і да дзяцей, якія нараджаюцца ў іх. Гэтыя дзеці амаль увесь час вымушаны пакутаваць, трываючы здзекі тых, хто лічыць сябе паўнавартасным. Доўгі час Карчмар вандраваў па свеце, спачатку разам з бацькамі, потым адзін. Нарэшце ён сустрэў дзяўчыну, якой было ўсё роўна, хто ён па паходжанні. Яна закахалася ў яго сумныя вочы, але адчувала, што аднойчы яны напоўняцца радасцю. І мела рацыю. Гэта адбылося ў дзень, калі Карчмар трапіў у Вольны горад. Ён з сябе ланцугі невуцтва, якімі звязала яго старое грамадства і ад якіх ён цярпеў усё сваё папярэдняе жыццё. Менавіта яго будучая жонка аднойчы прапанавала адшукаць край, дзе жывуць людзі, у якіх няма прымхаў і дзе ўсе добра ставяцца адзін да аднаго. І яны разам знайшлі гэтае месца.

Карчмар быў супрацьлегласцю жонкі. Нізенькі, шчупленькі, з папялястымі кучаравымі валасамі і ледзь прыметнай сівізной, з чорнымі вачамі і доўгай трохвугольнай барадой. Часам здавалася, што ён у паўтара раза меншы за сваю жонку. Яна была вельмі прыгожай пышнай ка-

бетай з блакітнымі вачамі, светла-русымі валасамі і на галаву вышэйшая за яго.

Ён заўсёды размаўляў лагодна, а яна так звонка, што аж кубкі падскоквалі. Ён ва ўсім намагаўся адшукаць нешта добрае, а яна ўвесь час была гатовая да непрыемнасцяў. Ён лічыў, што галоўным здабыткам у яго жыцці з'яўляецца яна, а яна — што ён. Разам яны добра дапаўнялі адно аднаго, а калі і сварыліся, то толькі на хвілю.

— Так, не ў гэтым! — працягнула Красуня. — Няўжо Радзе мала таго, што яна ўжо мае? Навошта ёй здзекавацца з людзей?

Дзяўчына заплакала.

— Гэта ўсё плёткі! — Гаспадыня ужо даўно чула пра тое, што канцлеры рыхтуюць новы артыкул, але нават яна — са сваім адпрыродным скептыцызмам — не верыла ў тое, што такое магчыма. — Калі гэтая прапанова насамрэч існуе, тады яна з'яўляецца сапраўдным ўзорам неразважлівасці.

— Яшчэ год таму ў Вольным горадзе не было ніякіх падаткаў, а ўжо сёння мы рыхтуемся да чарговага, — на імгненне ў вачах Карчмара зноў узнікла тая самота, ад якой ён калісьці пазбавіўся.

Гаспадыня заўважыла гэта, і яе сэрца пачало біцца хутчэй. Яна ўзяла збан, з якога толькі што адпіла Красуня, і таксама зрабіла некалькі глыткоў. Цішыня навісла над людзьмі, якія ўпершыню за доўгі час адчулі непакой за свой лёс. І справа была не ў самім падатку — аўстэрыя прыносіла добрыя грошы, — а ў тым, што гэты закон абмяжоўваў свабоду людзей, прымушаў іх рабіць тое, чаго яны не хочуць. Ці рабі, ці плаці, ці сыходзь. Гэта супярэчыла духу сапраўднага Вольнага горада, духу людзей, якія разумелі, што далей можа быць толькі горш.

Красуня ачомалася першай:

— Татачка, мамачка, можна я сёння не буду дапамагаць вам? — менавіта так дзяўчына называла Карчмара і яго жонку, бо была вельмі ўдзячная і бачыла, што ім падабаецца, калі яна іх так называе.

— Вядома ж, кветачка. Калі будзе настрой, спускайся ўвечары да нас. Сёння прыйдуць твае сяброўкі, можа, паспявайце ды зайграйце чаго, — у голасе прыёмнай маці было столькі пяшчоты, што ёй можна было б ахінуць увесь свет.

Гаспадыня ведала, што Красуні вельмі падабаецца спяваць і што толькі гэта верне ўсмешку на яе прыгожы тварык. Дзяўчына выйшла з кухні і паднялася на трэці паверх, дзе былі пакоі гаспадароў. Увечары да яе прыйшлі сяброўкі, і калі ў карчме сабралося шмат гасцей, яны разам спусціліся ў залу, каб выканаць новую песню.

Доўгі час наш карабель
Плыў у спакойным моры,
Але хмары надышлі
І прынеслі гора.

Неба чорным залілося,
Хвалі ашалелі,
Навальніца раскалола
Свет на дзве арэлі,

Што хістаюць нас па моры,
Не шкадуюць моцы,
Як паненак у танцы круцяць
Што ёсць духу хлопцы.

Да цябе, пані надзея,
Наш зварот адчаю,
Нам жыццё патрэбна, чуеш!
Разгані ты зграю

Чорных хмар, якія шнырацъ
У пошуках ахвяры,
Хмар, гатовых усіх знішчыць,
Зруйнаваць усе мары.

Ад цябе, пані надзея,
Літасці чакаем,
Гэта наш апошні вокліч,
З ім і паміраем...

Красуня ўпершыню ў сваім жыцці праспявала сумную песню.

# Раздзел IV

## Пра тое, як Вандроўнік і Валацуга агледалі Вольны горад

— Што ты тут робіш? Ты ж не хацеў жыць у горадзе, — сказаў здзіўлены Вандроўнік, зразумеўшы, што перад ім насамрэч сядзіць Валацуга.

— Я такога ніколі не казаў, — зарагатаў той.

— Ты казаў, што лепей жыць у лесе разам са звярамі!

— Так, у лесе лепей, — пагадзіўся Валацуга, — але я нічога не казаў пра тое, што не хачу жыць у горадзе. Я пабачыў цябе — чалавека, які, даведаўшыся пра тое, што Вольны горад у агоніі, усё роўна вырашыў трапіць унутр. Мне стала цікава: няўжо гэтае месца настолькі цудоўнае, што, нават паміраючы, яно прыцягвае людзей? Я вырашыў атрымаць запрашэнне. І вось я тут, разам з табою.

Вандроўнік прыгадаў, што Валацуга насамрэч нічога не казаў пра тое, што ён не хоча жыць у горадзе. Ён таксама падумаў, што калі яны адразу сустрэліся, то чаму б не трымацца адзін аднаго?

— Калі лёс наканаваў нам зноў сустрэцца, і мы разам трапілі ў горад, то, можа, і разам будзем даследаваць яго? — нібы даведаўшыся пра думкі Вандроўніка, запытаў Валацуга.

— Добра, — трохі нерашуча адказаў здзіўлены Вандроўнік, па спіне якога прабег халодны пот.

— Тады давай зойдзем у шынок, даведаемся пра навіны і пачакаем, пакуль скончыцца дождж.

Валацуга падняўся з ганка і ўвайшоў у шынок. Унутры сядзелі ўсяго некалькі вартаўнікоў, якія жвава пра штосьці спрачаліся. Гаспадар стаяў за прылаўкам. Лянiва праціраючы кубак, ён неадрыўна глядзеў на стракоткае полымя ў печы.

— Вітаю! — громка прамовіў Валацуга.

Вартаўнікі прыпыніліся на імгненне, але адразу ж працягнулі спрачацца. Гаспадар паставіў нашараваны кубак на паліцу і з зацікаўленасцю агледзеў Валацугу, які дагэтуль быў нయголены, кашлаты і апрануты ў лядашчае адзенне.

— Моцны дождж, але хутка павінен скончыцца, — сказаў гаспадар. — Вам піва ці чаго мацнейшага, каб сагрэцца? Бачу, вы добра прамоклі.

— Аж да касцей, — паскардзіўся Вандроўнік.

— Мы, пан, усяму рады будзем. Але лепей гарачай гарбаты, бо насамрэч алкаголь не грэе, — з усмешкай сказаў Валацуга.

— І паесці б чаго, калі ласка, — дадаў Вандроўнік.

Нешта буркнуўшы, гаспадар пайшоў на кухню аддаваць загады.

Калі ў Вольным горадзе пачалі чаканіць манеты, паўстала пытанне, як быць новым жыхарам, у якіх няма грошай. Тады Рада зрабіла дадатак да артыкула, дзе пастанавіла, што на працягу першых дзесяці дзён, карыстаючыся запрашэннем, на якім пазначана дата прыбыцця, на-

вічкі маюць права атрымаць пазыку на неабходныя рэчы і паслугі. Вэксалі павінны быць сплачаны цягам першага года. Калі чалавек гэтага не зробіць, то мусіць сысці.

Вандроўнік і Валацуга хутка атрымалі гарбату. Чакаючы ежы, яны вырашылі задаць гаспадару некалькі пытанняў.

— Ці не ведаеш, дзе будзе лепей уладкавацца цясляру? — пачаў Вандроўнік.

— Лепей за ўсё ў Жоўтым бора. Там не хапае цесляроў, таму заробак павінен быць высокі, бо канкурэнцыя малая. Але мясцовы канцлер наўрад ці будзе табе рады, бо ты, як я бачу, прыйшоў з іншай часткі свету, а ва ўсіх бора не вельмі ветліва ставяцца ды чужынцаў, таму лепей паспрабуй уладкавацца ў Таўне — там паважаюць усіх.

— Дзякуй! А дзе можна прыпыніцца?

— Ёсць шмат добрых месцаў, але больш за ўсё мне падабаецца аўстэрыя «Шалёны напой». Там смачна гатуюць, няшмат бяруць за пакой і штовечар ладзяць імпрэзы. А калі пабачыш жонку Карчмара, дык увогуле вырашыш ніколі не сыходзіць адтуль!

— Таксама ў Таўне?

— Так, недалёка ад Чырвонага бора, — нечакана адказаў Валацуга.

— А ты адкуль ведаеш? — запытаў Вандроўнік.

— Пра «Шалёны напой» ведаюць нават у лагеры. Я здзіўлены тым, што ты не чуў пра гэты заезны дом і пра прыгожую дзяўчыну, якая там спявае.

— Так, спявае яна цудоўна, — сцвердзіў гаспадар.

— Буду мець на ўвазе, — сказаў Вандроўнік

— А ў цябе якая прафесія? Чым зарабляеш на жыццё? — запытаўся ў Валацугі гаспадар.

— Я планую вывучыцца на акцёра. У лагеры казалі, што ў вас тут цікавыя тэатры і нават ёсць школа падрыхтоўкі. Вось туды і пайду.

— З такой пысай толькі ў акцёры і ісці, — ціха ўбок, каб не пачулі, вымавіў гаспадар, якому Валацуга адразу здаўся нейкім дзіўным.

— А хіба ты не стары, каб ісці вучыцца на акцёра? — смеючыся запытаў Вандроўнік.

— Для вучэння любы час добры, — сур'ёзна адказаў Валацуга. — Асабліва калі жадаеш атрымаць тую прафесію, пра якую марыў усё жыццё.

— Прабач, твая праўда.

У гэты момант кухарка прынесла ежу. Пакаштаваўшы мясцовых страваў, атрымаўшы вэксаль і падзякаваўшы гаспадару, Вандроўнік з Валацугам вырашылі ісці ў горад. Дождж скончыўся, таму больш нічога не перашкаджала ім зрабіць гэта.

Паміж горадам, які стаяў на велічэзным узгорку, і мурам, які абараняў яго, былі палі, дзе працавалі фермеры. Вялікія і малыя гаспадаркі разам забяспечвалі горад усім патрэбным. Кожная ферма выконвала сваю працу і ніколі не перашкаджала астатнім. Той, хто гадаваў коней, нават і не думаў пра тое, каб пачаць сеяць пшаніцу. Менавіта тут, сярод фермераў, захавалася сапраўднае адзінства. Абранне новых канцлераў і прынятыя імі законы ніяк не адбіліся на стасунках людзей, якія жылі на раўніне. Некаторыя жыхары Вольнага горада перасяляліся на фермы, бо толькі тут яны адчувалі сябе, як і раней, свабоднымі. Фермеры заўсёды былі ветлівыя і ніколі не адмаўлялі тым, хто звяртаўся да іх: ні новым жыхарам, ні расчараваным жыццём на ўзгорку. Фермеры ведалі, што калі яны павернуцца спінай адзін да аднаго і пачнуць размяжоўваць раўніну на бора, гэта скончыцца хаосам, што прынясе шмат шкоды краю, які яны шчыра любяць.

Каб трапіць у Таўн, трэба прайсці праз адзін з бора. Бліжэйшым з іх, калі чалавек заходзіць у горад праз Галоўную

браму, з'яўляецца Чорны — дзе жывуць самыя абыякавыя людзі. Але і тут можна знайсці тых, хто з-пад ілба глядзіць на чужынцаў.

Вандроўнік прыйшоў з Поўначы, Валацуга ж быў весь зарослы, таму на яго проста дзівіліся, не разумеючы, адкуль ён. Толькі адзін дзікаваты мінак утаропіўся на іх і сказаў:

— Белы і чырвоны. Вы нібы месяц, што ўвесь час змяняе свой колер. Халодны і гарачы.

— Мёртвы і жывы, — дадаў Валацуга, зазірнуўшы ў вочы мінаку.

Той цёхнуў, нібы птушка, потым спужаўся і пабег прэч.

Гэты чалавек меў рацыю. Валацуга быў прадстаўніком Захаду. Але кудлатая барада і кашлатыя валасы амаль цалкам закрывалі твар, робячы яго непазнавальным.

Вандроўнік і Валацуга хутка дабраліся да «Шалёнага напою». За прылаўкам іх сустрэў Карчмар. Ён праверыў запрашэнні і выпісаў кожнаму вэксаль на дзесяць дзён, які складаўся з трох частак: пакой, ежа і пітво. Гэта быў стандартны дакумент. Гаспадары ўсіх заезных дамоў выдавалі яго новым жыхарам, якія толькі што прыйшлі ў горад. Калі чалавек з'язжаў праз пяць ці сем дзён, але пры гэтым заставаўся ў Вольным горадзе, ён усё роўна павінен быў аплаціць вэксаль цалкам, за ўсе дзесяць дзён. Такім чынам гаспадары шынкоў, корчмаў і аўстэрый абараняліі сябе ад магчымых страт.

Вечарэла. Вандроўнік дужа стаміўся, таму вырашыў легчы спаць не паснедаўшы. Ён заплюшчыў вочы, але заснуў не адразу, а толькі тады, калі ў вакно пачаў біцца дождж, зайграўшы адну са сваіх мелодый. У той момант гэта быў павольны накцюрн, які адправіў хлопца ў падарожжа па краіне сноў...

...Валацуга прачнуўся першым. Ён выйшаў са свайго пакоя і пагрукаў у дзверы Вандроўніка.

— Калі ласка! — прамовіў той сонным голасам.

— Добрай раніцы! — сказаў Валацуга, зайшоўшы ў пакой. — Калі мы пойдзем глядзець горад? Мне вельмі хочацца пабачыць Палац Волі, які стаіць у самым цэнтры Таўна. Я чуў шмат розных гісторый пра гэты будынак, таму было б добра, калі б мы пачалі агляд менавіта з яго. Ты не супраць?

— Не супраць, але ў мяне так бурчыць у жываце, што нават птушкі, што спявалі пад вакном, не вытрымалі і паразляталіся.

— І не кажы! Мае таксама!

Вандроўнік і Валацуга засмяяліся. Гэта быў той самы момант, калі паміж людзьмі пачынае зараджацца сяброўства, але самі яны гэтага нават і не разумеюць.

— Тады трэба паклікаць Карчмара! — рашуча сказаў Вандроўнік.

— У цэнтры павінен быць кірмаш. Каб не губляць час, мы можам набыць там што-небудзь. Паснедаем падчас агляду.

— Яшчэ адзін вэксаль?

— Ён будзе маім.

— Цікава, — Вандроўнік паглядзеў угору. — Чалавек, які некалькі тыдняў таму нават і не думаў пра жыццё ў Вольным горадзе, зараз спяшаецца ўбачыць яго славутасці.

— Цікаўнасць не загана, — з усмешкай адказаў Валацуга. — Хадзем!

— Добра-добра, — пасміхнуўся Вандроўнік. — Як будзе заўгодна вашай міласці.

Валацугу аж скаланула ад такога жарту, але Вандроўнік не заўважыў гэтага, бо ў той момант усе яго думкі былі толькі пра тое, каб хутчэй дабрацца да кірмашу.

Пісьменнаму чалавеку было цяжка згубіцца ў Таўне. Паўсюль стаялі слупкі з таблічкамі, на якіх прыгожым

выразным почыркам было пазначана, дзе і што знаходзіцца. Таму Валацуга і Вандроўнік неўзабаве знайшлі Палац Волі. Агромністы, пабудаваны толькі напалову, ён усё роўна меў велічны выгляд. Спалучэнне цэглы розных колераў зачароўвала. Тыя, хто бачыў палац упершыню, не маглі адвесці погляд ад будынка, які мог стаць сімвалам адзінства, але так і не стаў ім.

— Кажуць, што галоўная зала ў гэтым палацы павінна была называцца Залай Згоды, — сказаў Валацуга, перавёўшы позірк на Вандроўніка. — Старая Рада хацела, каб яе сцены ўпрыгожвалі шыльды, зробленыя ў выглядзе шчытоў, кожная з якіх увасабляла б адну з прафесій. Калі б з'явілася новая прафесія, яе шыльду дадавалі б да астатніх.

— Але чаму старая Рада хацела ўвесці пасады майстроў замест канцлераў? Няўжо гэта прынесла б большую карысць? — запытаўся Вандроўнік.

— Безумоўна! На жаль, нават у Вольным горадзе, як ты бачыш, кожны народ ставіць сябе папераддзе ўсіх. У кожнага народа ёсць прадстаўнікі ўсіх прафесій, таму народы лічаць, што могуць пражыць адзін без аднаго. Старая Рада была ўпэўнена, што за трыццаць тры гады жыхары Вольнага горада пераадолелі гэтую хваробу. Што людзі са ўсіх частак свету пачалі ўспрымаць сябе як адзіны народ з вялікай колькасцю каранёў. Гэта азначала, што канцлеры, якія ў першую чаргу былі прадстаўнікамі таго ці іншага народа, больш не патрэбны. Што спрэчкі павінны вырашаць прафесіяналы. Калі паміж будаўнікамі і шахцёрамі ўзнікалі б пытанні, майстры, якія добра ведаюць сваю справу і якім давяраюць усе, а не толькі тыя, хто прыйшоў з Захаду ці Усходу, адказалі б на іх значна лепш, чым канцлеры. Да абрання новых канцлераў у Вольным горадзе прадстаўнікі той ці іншай прафесіі ніколі не лічылі сябе самымі важнымі ці самымі лепшымі.

— Няўжо дойліды не лічаць, што іх павінны шанаваць больш за тых, кто пасвіць кароў?

— Які ў гэтым сэнс? Кожная прафесія важная. Павага не павінна залежаць ад таго, чым займаецца чалавек, галоўнае — як ён выконвае сваю працу. У добрасумленнага фермера будзе шмат малака і мяса, а будынак кепскага дойліда хутка абваліцца і пакалечыць ці заб'е тых, хто ў ім знаходзіцца. Трэба ганарыцца ўсімі прафесіямі. Калі чалавек дрэнна сябе адчувае, яму дапамагае лекар. Калі яму патрэбна жытло, ён клічыць будаўнікоў. Калі ён хоча адпачыць, то ідзе ў карчму і слухае музыку, хтосьці ж аддае перавагу тэатру і акцёрам. Калі чалавек хоча, каб яго дзіця навучылася грамаце, ён вядзе малога ў школу да настаўнікаў. Вучоныя даюць нам новыя веды. Мастакі — новыя творы, якімі мы захапляемся. Пісьменнікі — новыя кнігі, якія мы чытаем. Фермеры даюць нам ежу, без якой мы памерлі б. Кожны, хто робіць сваю працу плённа і добрасумленна, дае штосьці патрэбнае нам усім. Нават распусніцы даюць асалоду тым, хто не ведае, як без яе існаваць.

— Ты нічога не сказаў пра жаўнераў.

— Для іх не знайшлося месца ў Вольным горадзе.

— А хто тады будзе бараніць яго?

— Той горад, які ты зараз бачыш перад сабой, ужо не варта бараніць.

— А той, што быў раней?

— Яго галоўнымі каштоўнасцямі з'яўляліся сумленне і адзінства. Але гэта не тое, чаго прагнуць заваёўнікі.

— А што наконт вартаўнікоў? Яны ж таксама жаўнеры.

— Яны сочаць за парадкам каля брам і мура, а не забіваюць.

— А як жа золата, якое знайшлі ў гарах? Няўжо ворагі не прагнуць і яго?

— Калі разумны знойдзе скарб, пра гэта ніхто не даведаецца. Калі дурань — яго абрабуюць.

Навісла цішыня, якую парушыла бурчанне ў жываце Вандроўніка.

— Нешта мы зусім забыліся пра нашыя страўнікі. Ідзі пашукай кірмаш, ён павінен быць недзе побач, і вяртайся сюды. Я яшчэ трохі хачу падзівіцца на палац. І не хвалюйся, гэты вэксаль я потым цалкам пакрыю, — сказаў Валацуга.

Вандроўнік пайшоў у напрамку, які яму падказаў слупок з таблічкамі. І сапраўды, кірмаш быў непадалёк, за аднымі з вялікіх дамоў, якія стаялі вакол недабудаванага Палаца Волі. Там Вандроўнік набыў рознай здобы, але ўзнікла невялікая праблема. Крамніца не ўмела пісаць, таму штораз, калі трэба было запоўніць вэксаль, яна клікала сваю сяброўку, каб тая дапамагла ёй.

Частка насельнікаў Вольнага горада былі непісьменныя. Але гэта тычылася толькі старэйшага пакалення, бо ўсе дзеці з сямі да чатырнаццаці гадоў хадзілі ў школу. Пасля яе заканчэння яны выбіралі прафесію, якой хацелі авалодаць, і працягвалі навучанне ці ў майстэрнях, ці ў адмысловых установах, ці ў акадэміях.

Пакуль Вандроўнік чакаў вэксаля, да Валацугі пад’ехаў Белы канцлер, які заўважыў дзіўнага чалавека, што пільна разглядаў палац.

— Тут няма на што дзівіцца, — рэзка сказаў канцлер. — Гэтую недарэчнасць хутка зруйнуюць, а на яе месцы паўстанне прыгожая плошча.

Валацуга ніяк не пракаментаваў гэтыя словы, ён толькі паглядзеў на канцлера і ўсміхнуўся.

— Адкуль ты з’явіўся, такі дзіўны? — запытаўся ён Валацугу.

І зноў цішыня.

— Адказвай, калі да цябе звяртаецца прадстаўнік Рады!

Валацуга засмяяўся. Такія паводзіны пачалі раздражняць канцлера.

— Калі ты не адкажаш, я выганю цябе з горада!

Валацуга зарагатаў. Канцлер накіраваў каня ў яго бок. Дзівак паваліўся на брук, але гэта яго толькі больш заахвоціла. Ён пачаў рагатаць яшчэ гучней, ажно слёзы пырснулі на бараду. Распалены канцлер схапіўся за бізун, якім хваставў каня, і рассек Валацугу левую руку, якою той засланіў свой твар.

За гэтай сцэнай назіраў Вандроўнік. Ён нарэшце атрымаў вэксаль і вяртаўся да палаца. Кінуўшы на зямлю здобу, хлопец кінуўся на дапамогу свайму сябру.

# Раздзел V

## Пра тое, як Рада канчаткова ўхваліла падатак на бяздзетнасць

Подпіс Магістра яшчэ не гарантаваў таго, што закон будзе прыняты. Усе новыя артыкулы павінны зацвярджацца пячаткай Рады, якая знаходзіцца ў распараджэнні ўсё таго ж Магістра. Таму, калі ён, нічога не сказаўшы, пакінуў Галоўную залу, канцлеры вырашылі, што хутка трэба сустрэцца яшчэ раз. Яны не хацелі зацягваць з прыняццем закона і баяліся, што Магістр можа перадумаць. Урэшце чарговае пасяджэнне прызначылі на наступны дзень.

Пасля гэтага канцлеры яшчэ доўга спрачаліся, хто з іх мае завершыць справу. Ніводзін не жадаў зноў ехаць у Таўн. Белы і Чорны настойвалі на тым, што гэта была ініцыятыва Жоўтага і Чырвонага, таму менавіта яны павінны канчаткова вырашыць пытанне. Чырвоны казаў, што ідэя ўвесці падатак належыць Жоўтаму, а сам Чырвоны толькі падтрымаў яе.

Калі канцлерам надакучыла сварыцца і яны зразумелі, што ніхто не саступіць, прадстаўнікі Рады, галоўным абавязкам якіх было вырашэнне спрэчак у Вольным горадзе, дамовіліся кінуць жэрабя. Але як толькі Чырвоны канцлер даведаўся, што менавіта яму трэба будзе зноў ехаць у Таўн, спрэчка аднавілася.

Яна скончылася, калі праз хмары пачаў прабівацца месяц. Знясіленыя канцлеры нарэшце пагадзіліся разам давесці справу да канца. Пакідаючы Стары палац, яны нават не падалі адзін аднаму рукі.

На наступны дзень першым прыехаў Жоўты канцлер, і, пабачыўшы, што яшчэ нікога няма, ён пачаў сумнявацца ў тым, што астатнія выканаюць учорашнюю дамову. Але хутка пасля Жоўтага прыехаў Чырвоны, ён суха павітаўся і адразу накіраваўся ў Галоўную залу. За ім прыехаў і Чорны. Ён павольна падышоў да Жоўтага, даючы разумець, што настрой у яго па-ранейшаму кепскі. Яны моўчкі стаялі разам каля галоўнага ўваходу і чакалі Белага канцлера, які відавочна спазняўся. Цішыню парушыў Чырвоны. Яму надакучыла сядзець у адзіноце, і ён выйшаў на вуліцу, каб паглядзець, што адбываецца.

— Цудоўна! Калі гэты ашуканец хутка не з’явіцца, я пакіну пасяджэнне, бо гэта непавага да мяне і...

Чырвоны канцлер не скончыў, бо заўважыў, як Жоўты, які меў здольнасць трымацца спакойна, нечакана заскрыгатаў зубамі. Яго твар наліўся крывёй, а кулакі моцна сціснуліся. Ён павярнуўся і, робячы невялікую паўзу пасля кожнага слова, сказаў:

— Трэба пачынаць пасяджэнне, прывядзіце старога, у якім бы настроі ён ні быў.

Сыходзячы, ён кінуў гнеўны позірк на Чырвонага, даючы зразумець, што не збіраецца спрачацца. Калі Жоўты ўвайшоў унутр палаца, астатнія два канцлеры так і засталі-

ся стаяць. Кожны з іх думаў, што не павінен выконваць загад. Што яны такія самыя прадстаўнікі Рады, як і гэты нахабнік, які ўявіў сябе галоўным сярод роўных. Але яны абодва разумелі, што хтосьці мусіць саступіць.

— Я ўпэўнены, што ён звяртаўся да цябе, — першым не вытрымаў напружання Чорны канцлер. — Нават паглядзеў як на ворага.

— Хай сабе глядзіць як хоча! Я яму не нейкі там пасыльны. Можа і сам старога паклікаць, — узнервавана адказаў Чырвоны.

— Ну і халера з табой! — Чорны плюнуў пад ногі Чырвонаму. — Я сам паклічу.

Некаторы час Чырвоны ўглядаўся ў неба. Аблокі запаланілі ўвесь блакітны абшар. Хутчэй за ўсё, падумаў абражаны канцлер, настрой у Магістра будзе не самы лепшы, а гэта значыць, што пасяджэнне хутка скончыцца. Добра, калі так. Чырвоны не разумеў, навошта астатнія цацкаюцца са старым. Навошта чакаць наступнага Вольнага схода, каб скасаваць пасаду Магістра? А калі народ не пагодзіцца, што тады?

Чырвоны добра памятаў, як у яго родным краі вырашаліся палітычныя пытанні. Чалавек, які займае высокую пасаду, павінен разумець, што ў выпадку няўдачы, ён рызыкуе страціць усё, нават жыццё. Тады чаму ў Вольным горадзе павінна быць інакш? Нават у самым дрэнным месцы людзі плацяць высокі кошт за ўладу. Але тут, на гэтай благаслаўленнай зямлі, усё наадварот. Чаму ўлада тут не каштуе нічога, калі павінна быць у шмат разоў даражэйшая, чым у любой іншай краіне? Магістр ужо сапраўды стары, нават тыя, хто яго добра ведае, нічога не западозраць. «Дзіўна ўсё гэта», — падумаў Чырвоны канцлер і ўвайшоў унутр палаца.

У Галоўнай зале сабралася ўся Рада, за выключэннем прадстаўніка Паўночнага бора. Ніхто не ведаў, ці спаз-

няецца ён, ці проста вырашыў не прыязджаць. Магістр адчуваў сябе не вельмі добра, ён пакутаваў ад галаўнога болю, але Чорны канцлер запэўніў старога ў тым, што гэта неадкладная справа і вырашыць яе трэба як мага хутчэй. Канцлеры былі перакананыя, што Магістр хутка здасца і зацвердзіць артыкул пячаткай. Але знянацку яны пачулі:

— Я не ўхвалю гэты ганебны падатак.

— Чаму? — ад нечаканасці канцлеры ў адзін голас задалі пытанне.

— Відавочна, што гэты закон парушае асновы, на якіх быў пабудаваны Вольны горад, — рашуча адказаў Магістр.

— Навошта зноў спрачацца? Учора мы ўжо вырашылі, што гэта неабходны захад. Горад страчвае насельніцтва, і мы павінны штосьці зрабіць, — голас Жоўтага канцлера гучаў мякка, але ўпэўнена.

— Рабіце, але не прымушайце людзей.

— Мы не прымушаем, у іх будуць варыянты, — Чорны канцлер таксама пачаў ціснуць на Магістра.

— Тое, што вы прапаноўваеце, гэта не варыянты, гэта здзек!

— А ці не здзек — зноў марнаваць наш час?! — выбухнуў Чырвоны канцлер. — Табе, стары дурань, усё роўна ўжо хутка паміраць, давай пячатку!

Ад такой непавагі разгубіўся нават Жоўты канцлер, які больш за астатніх прасоўваў закон. Магістр падняўся за стала і падышоў да чалавека, які сваімі паводзінамі абразіў не толькі аднаго са стваральнікаў Статута, але і жыхароў Вольнага горада, якія вырашылі, што гэты чалавекварты таго, как быць іх прадстаўніком у Радзе. Магістр нагадаў яму пра гэта:

— Ты не тое што лёсы іншых не маеш права вырашаць, ты ўвогуле чалавекам звацца не павінен.

На гэтым спрэчка скончылася. Магістр зноў заняў сваё месца за сталом. Ён глядзеў на падлогу, сціскаючы рукамі галаву, якая бесперапынна балела на працягу ўсяго дня. Чорны канцлер таксама сядзеў за круглым сталом. Ён глядзеў на паперу, на якой быў напісаны новы адыёзны артыкул. Прадстаўнік Поўдня разумеў, што гэта не самы лепшы закон і што, магчыма, ён не прынясе карысці, але было відавочна, што калі не падтрымаць гэтую прапанову, у будучыні, хутчэй за ўсё, яго прапановы таксама не падтрымаюць. Чорны канцлер быў упэўнены, што гэта і ёсць сапраўдны кампраміс.

Чырвоны працягваў стаяць каля сцяны, яго трусіла ад злосці, ён прагнуў кінуцца да Магістра і задушыць яго голымі рукамі. Ён ледзьве стрымліваў сябе і стараўся не глядзець убок старога, які пакутаваў ад болю. Чырвоны быў упэўнены, што здзейсніць добрую справу, калі заб'е таго, дапаможа яму, нават выратуе, а таксама пазбавіць Раду ад упартага старшыні.

Жоўты канцлер падышоў да вакна. Ён не хацеў чакаць, калі Магістру стане яшчэ горш, каб той нарэшце паставіў пячатку, але і не ведаў, як яго ўгаварыць. Хутка павінны былі прыйсці маразы. У такі час стары адчуваў сябе вельмі дрэнна, аднак сёння ён здзівіў, і хто ведае, ці не здзівіць у будучыні? Раптоўна Жоўты ўбачыў, як на падворак Старога палаца ўляцеў Белы канцлер. Было відаць, што ён нечым узбуджаны. Белы саскочыў з каня і кінуўся ў дзверы. Хутка ён быў у Галоўнай зале.

— Прабачце за спазненне, але ў мяне дрэнныя навіны, — сказаў Белы канцлер, які, нібы завіруха, уварваўся ў Галоўную залу.

Усе, акрамя Магістра, з цікавасцю паглядзелі на яго. Стары па-ранейшаму сціскаў галаву рукамі, нават пачаў

рабіць гэта яшчэ мацней праз шум, які знянацку абрынуўся на яго.

— Калі вы яшчэ канчаткова не ўхвалілі новы падатак, то вось вам добрая нагода — у горадзе з'явіліся небяспечныя валацугі, якія пагражаюць нашаму грамадству!

— Што за дурасць? — пераадольваючы боль, запытаўся Магістр.

— Гэта не дурасць! — запярэчыў Белы канцлер, выціраючы пот з ілба. — Толькі што я мусіў адлупцаваць адну занадта дзіўную пачвару, якая з рогатам кінулася на мяне. У нашым горадзе кожны можа пагаліцца і набыць добрую вопратку, таму я не разумею, чаму гэты чалавек выглядае як апошні жабрак!

— Хіба таму, што зараз дзякуючы вам, сквапныя істоты, золата пачало вырашаць лёсы людзей і ўжо не кожны мае магчымасць апрануцца ў добрую вопратку? — моцны боль прымушаў Магістра быць абразлівым.

Белы канцлер зрабіў выгляд, што не пачуў гэтага:

— Я прыйшоў да высновы, што скарачэнне насельніцтва прывяло да таго, што запрашэнні пачалі выдаваць нават жабракам і валацугам, якія не маюць права жыць у цывілізаваным грамадстве!

— Сціхні ўжо! — Магістр нечакана і з такою злосцю грымнуў кулаком па стале, што Чорны канцлер, які сядзеў насупраць, аж падскочыў са стула. — Як ты можаш адначасова меркаваць пра чалавека па яго вопратцы і прылічваць сябе да цывілізаванага грамадства? Што за крывадушнасць?!

— Я настойваю! — не суніམаўся Белы канцлер. — Бо калі мы неадкладна не прымем належныя захады, Вольны горад хутка ператворыцца ў клааку. Хіба толькі шлёндраў застанецца паклікаць!

— Калі ласка, упадаць у крайнасці не трэба, і не табе, шаноўны, ганіць распуснiц, — як заўсёды спакойна, але ўпэўнена сказаў Жоўты канцлер. — Лепей раскажы, што здарылася з тым небаракам, ад якога ты бараніўся? І дзе ты яго сустрэў?

— Каля мярзотнага Палаца Волі. Як вы ведаеце, у доме насупраць я баўлю час з адной вельмі прывабнай кабетай. Але гэта не істотна. Калі я збіраўся ехаць на пасяджэнне, то заўважыў, як нехта захоплена глядзіць на самы агідны будынак у свеце. Мне стала цікава, і я пад'ехаў бліжэй. А потым здарылася тое, пра што я ўжо казаў. У выніку гэты вар'ят паваліўся на брук, але ўсё роўна рагатаў як шалёны. Потым я заўваўжыў, што яму на дапамогу спяшаецца нейкі хлопец, таксама сумнеўнага выгляду. Ён пакідаў на зямлю свае рэчы і пачаў лаяцца на мяне. Конь так спужаўся гэтых жабракоў, што панёсся прэч нібы апараны. Кажу вам, мы павінны... Не, чуеце мяне, паважаны Магістр, мы вымушаны, абавязаны зацвердзіць артыкул «Аб паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў Вольным горадзе»! Але гэта не ўсё! Каб заахвоціць бяздзетных выконваць свае абавязкі перад грамадствам, я прапаную павысіць падатак у тры разы!

Белы канцлер хлусіў, але лічыў, што так будзе лепей, бо быў упэўнены: нават самыя магутныя дзяржавы свету грунтуюцца на хлусні. Ён схапіў са стала аркуш, на якім быў напісаны новы закон і паклаў яго перад тварам Магістра. Той павольна падняўся, але боль быў настолькі моцны, што стары пахіснуўся і ўтрымаўся на нагах толькі дзякуючы сталу, на які паспеў абаперціся. Крыху пастаяўшы, ён выйшаў з пакоя.

— Калі ён хутка не вернецца, я сыду, і далей вы будзеце вырашаць гэтае пытанне без мяне, — злосна прамовіў Чырвоны канцлер. — Маю пазіцыю ўсе добра ведаюць. На-

дышоў час старому развітацца са светам. А калі вы гэтага яшчэ не зразумелі, то мне больш няма чаго тут рабіць!

— Пачакай трохі, — Жоўты канцлер паспрабаваў заспакоіць Чырвонага, — вось пабачыш, сёння мы зацвердзім гэты закон.

Праз некаторы час Магістр прынёс пячатку Рады. У яго вачах быў толькі сум. Ён усімі сіламі змагаўся са сваёй містычнай хваробай, але яна перамагала. Яго рукі дрыжэлі. Ці то ад болю, ці то ад безвыходнасці, ці то ад разумення, што гэтымі рукамі ён працягвае руйнаваць самае лепшае, што толькі было ў гісторыі чалавецтва.

Да зацверджанага артыкула трэба было зрабіць прамову. За яе падрыхтоўку адказваў Жоўты канцлер: хто закон прасунуў, той і мусіць яго прадставіць. Насамрэч прамова была напісаная загадзя, бо ніхто не сумняваўся, што хворы Магістр не вытрымае ціску. Але калі пасяджэнне скончылася, Жоўты канцлер вырашыў застацца, каб зрабіць некалькі выпраўленняў. Хутка яго новы тэкст будзе зачытаны ва ўсіх бора, у Таўне, на фермах, а таксама ў лагеры.

## Прамова да артыкула аб увядзенні падатку на бяздзетнасць

*Спадарства! Новыя прадстаўнікі Рады, якіх вы абралі падчас апошняга Вольнага схода, і шаноўны нязменны Магістр Вольнага горада, які заўсёды дбае пра жыхароў гэтага цудоўнага месца, працягваюць рэфармаваць Статут, ухваляючы артыкулы, якія непазбежна палепшаць дабрабыт нашага краю. Сёння мы рады прадставіць новы артыкул «Аб паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў Вольным горадзе».*

*Згодна з ім кожны жыхар горада, якому споўнілася 25 гадоў, павінен мець не менш за трох дзяцей. Гэта забяспечыць пераемнасць традыцый, а таксама павялічыць колькасць насельніцтва, якая зменшылася пасля масавага сыходу тых, хто на працягу шматлікіх гадоў карыстаўся ўсімі выгодамі гэтага чароўнага месца, а потым здрадзіў яму.*

*Той, хто не захоча выканаць гэты загад, будзе павінен сплаціць падатак альбо назаўжды пакінуць горад. Больш падрабязна аб новым артыкуле вы можаце даведацца ў заезных дамах, дзе будуць вывешаны аркушы з тэкстам закона. Непісьменныя людзі могуць звяртацца па дапамогу да гаспадароў заезных дамоў ці непасрэдна да канцлераў.*

*Таксама трэба адзначыць, што скарачэнне насельніцтва стала прычынай таго, што апошнім часам паслы Магістра былі вымушаны выдаваць больш запрашэнняў. На жаль, гэта прывяло да з'яўлення ў горадзе валацугаў і жабракоў. Таму, калі вы жадаеце, каб Вольны горад і надалей заставаўся вольным ад галечы, то сур'ёзна пастаўцеся да новага артыкула.*

Тым часам у Вольным горадзе жыў усяго адзін валацуга. Скалечаны канцлерам. За тое, што маўчаў.

# Раздзел VI

## Пра тое, як Красуня спявала пра каханне

— Учора ў нас пасяліўся вельмі дзіўны чалавек, — пачаў свой расказ Карчмар. — Я ніколі не бачыў у Вольным горадзе такіх людзей. Лядашчая вопратка, даўгія кашлатыя валасы і кудлатая сівая барада. На твары толькі вочы бачны!

— Сапраўды дзіва, — сказала Гаспадыня, якая рыхтавала кухню да працоўнага дня.

— Але ж гэта яшчэ не ўсё, — працягнуў Карчмар. — Разам з ім прыйшоў вельмі прыгожы хлопец. Відаць, з вашых, паўночных.

Карчмар ззаду падкраўся да жонкі і, усміхаючыся, раптоўна абняў яе. Ад нечаканасці яна выпусціла з рук кубак, які ўпаў на падлогу і разбіўся. Карчмар хацеў запусціць рукі ў выраз сукенкі, але Красуня, пачуўшы грукат, увайшла на кухню, таму ён мусіў хуценька адступіць.

— Што здарылася? — запыталася дзяўчына.

— Мужу захацелася пяшчоты, — з усмешкай адказала Гаспадыня, — хіба яму яе ўночы было замала.

Красуня трохі засаромелася:

— Добра, тады я пайду.

— Не, застанься, калі ласка. Тут твой бацька пра маладога прыгажуна нешта распавядае.

Дзяўчына яшчэ больш пачырванела. Але лёгкі румянец добра пасаваў яе бялюткаму абліччу. Карчмар адышоў ад жонкі і сеў каля крыху запэцканай чыгуннай пліты.

— Так, распавядаў. Учора да нас прыйшоў дзіўны чалавек, якога суправаджаў прыгожы хлопец: русыя валасы да плеч, блакітна-шэрыя вочы і пастава, нібы ў векавога дуба, — высокі і магутны. Прыйшлі незадоўга да пачатку імпрэзы. Выявілася, што новыя жыхары. Мо таму старэйшы так да валацугі падобны? Відаць, яшчэ не паспеў набыць добры выгляд. Атрымалі вэксаль і адразу схаваліся ў пакоях, нават не павячэралі. Сёння ўранку кудысьці хутка разам сышлі, не паснедаўшы. Вось цуд, сапраўды! Мо ў торбах іхных якая ежа была? Не ведаю.

— Маеш рацыю. Маладзейшы, відаць, насамрэч з паўночных, — сказала Гаспадыня. — У маім родным краі шмат волатаў жыве. З барадою быў ці паголены?

— Са шчаціннем, але дагледжаным, — адказаў Карчмар. — Дзіва нейкае! Адзін прыгожы, як прынцы, што далёкімі краінамі валодаюць, а другі страшэнны, нібы жабрак, які пад мостам апошнія дні дажывае. Вось бы даведацца: чаму яны разам туды-сюды гойсаюць?

— Дык кветачка наша даведацца можа, — з усмешкай сказала кабета, паглядзеўшы на Красуню. — Бо калі Рада ўхваліць падатак на бяздзетнасць, дачушцы трэба будзе мужа шукаць. А ты вось, кажаш, нібы прынц да нас нейкі завітаў. Трэба так зрабіць, каб ён пачаў да Красуні заляцацца. А што? У мяне на радзіме нават і сёння, хутчэй за ўсё, людзі шлюбам бяруцца не ад кахання вялікага, а таму што выгаду маюць.

Карчмар засмяяўся, бо зразумеў, што жонка жартуе наконт сватання. Але іх прыёмная дачка спалохалася і спахмурнела. Гаспадыня адчула гэтую змену настрою:

— Не хвалюйся, кветачка. Я жартую! Калі мы не будзем жартаваць з розных дурасцяў, тады і самі дурнямі зробімся. Цяжка ўявіць, каб бацькі пачалі прымушаць маладзёнаў ды дзяўчат шлюбам брацца ды дзяцей заводзіць. Але ўся гэтая справа вакол новага артыкула насамрэч вельмі сумная.

— І не кажы. Няўжо і ў Вольным горадзе з'явяцца шлюбы па дамоўленасці? — Нечакана гэтая думка расхвалявала Карчмара, таму, каб супакоіцца, ён узяў анучу, плюнуў на яе і пачаў церці запэцканы бок пліты. — Дзяўчаты нібы быдла бяспраўнае на рынку: падыходзь, прапаноўвай, набывай!

— О, як разгарачыўся! Быццам у ложку з жонкай тыдзень не ляжаў.

Добры настрой жанчыны зноў прымусіў Красуню трохі пачырванець.

— Але мо гэта ўсё плёткі? — Карчмар намагаўся сам сябе супакоіць. — Не можа быць, каб Магістр ухваліў гэты пачварны закон! Хіба стары канчаткова з глузду з'ехаў?

— Так, відаць, што страціў розум, — сцвярджальна сказала Гаспадыня. — Сёння на вуліцы чула, што Рада другі дзень запар пасяджэнне праводзіць. А калі такое было, каб новыя канцлеры ў Таўн ажно два разы на тыдзень ездзілі?

— Ніколі — адказаў Карчмар, цяжка ўздыхнуўшы.

— Вось і я кажу: ніколі.

— Я не буду бяспраўным быдлам! — рэзка прамовіла Красуня.

— Глядзі, дачку напужаў сваімі размовамі! — Гаспадыня з дакорам паглядзела на мужа.

— Не напужаў, бо я не збіраюся трываць розныя здзекі! І не дазволю, каб з астатніх здзекаваліся! — Бацькі яшчэ ніколі не бачылі сваю прыёмную дачку такой рашучай. — Калі хочаш,

каб шлюб па дамоўленасці быў, — тваё права. А калі хтосьці прымушае цябе зрабіць гэта, тады змагайся да апошняга, бо лепей загінуць, чым падпарадкавацца чужой волі!

— Дачушка, — голас Карчмара гучаў лагодна, — я разумею цябе, але часам жыццё можа моцна прыпячы. Я шмат дзе быў і шмат што бачыў. Я абышоў усе часткі свету і ведаю, што нідзе няма той свабоды, якая ёсць у Вольным горадзе. Нават калі Рада зацвердзіць гэты новы ганебны артыкул, усё адно не будзе лепшага месца, чым край, дзе ты нарадзілася. Таму, можа, лепей заплюшчыць вочы на некаторыя хібы, бо цяжка цягацца па свеце ў пошуках лепшай долі.

— Татачка, я люблю цябе і паважаю. І ўдзячна вам, што калісьці далі мне прытулак, але я не згодна. Мы павінны змагацца. Мы павінны давесці да людзей, што артыкулы, якія ўхваляюць новыя канцлеры, руйнуюць наша жыццё. І калі жыхары Вольнага горада зразумеюць гэта, яны абавязкова абяруць іншую Раду. Стары Магістр, можа, і страціў розум, але Статут, які ён калісьці склаў разам з Заснавальнікам, дае нашаму народу права жыць вольна.

— Кветачка, ты маеш рацыю, — сказала Гаспадыня, — але ніхто не ведае, якім будзе Статут падчас наступнага Вольнага схода. І ці будзе ён увогуле.

— Будзе, — рашуча адказала Красуня, — бо толькі сенатары, і толькі аднагалосна, маюць права скасаваць яго!

Дзяўчына падышла да Карчмара і моцна абняла яго за плечы. У адказ ён пяшчотна правёў рукой па яе галаве. Потым Красуня пацалавала ў шчаку Гаспадыню, а тая пацалавала яе.

— Пайду рыхтавацца да імпрэзы, — з сумнай усмешкай сказала дзяўчына. — Паклічце, калі спатрэбіцца дапамога.

Красуня выйшла з кухні. Карчмар заўважыў, што вочы яго жонкі напоўніліся слязьмі:

— Толькі не пачынай румзаць. Хіба ж яна на вайну збіраецца? Пагуляе дзіцё трохі і будзе далей жыць спакойна. Як усе. Маладое яшчэ, мо супакоіцца хутка.

— Ніколі не бачыла яе такой, ніколі не чула слоў гэткіх, — Гаспадыня шморгнула носам. — А калі што здарыцца дрэннае?

— Не здарыцца, — упэўнена адказаў Карчмар. — Ці памятаеш, якія былі яе бацькі? Усё гісторыі пра барыкады распавядалі, а як трапілі ў Вольны горад, так і супакоіліся. І яна хутка супакоіцца.

— Спадзяюся, — выціраючы рукавом слёзы, сказала жанчына...

...Увечары ў «Шалёным напоі», як заўсёды, было шмат народу. Учорашняя імпрэза Красуні вельмі ўразіла гасцей і наведвальнікаў аўстэрыі, якія сёння прывялі сяброў, каб і тыя пачулі «Пані надзею». На жаль, Карчмар быў вымушаны адмаўляць некаторым, бо месцаў для ўсіх ахвотнікаў ужо не хапала.

Валацуга і Вандроўнік таксама вырашылі паглядзець імпрэзу. Яны вярнуліся ў «Шалёны Напой» якраз перад самым пачаткам выступу і занялі месцы, прызначаныя для пастаяльцаў. Пасля таго як Белы канцлер рассек Валацугу руку, Вандроўнік дзякуючы слупкам з таблічкамі хутка знайшоў дом Лекара, куды і адвёў параненага сябра. Што тычыцца прадстаўніка Рады, які, скалечыўшы чалавека, парушыў адзін з галоўных артыкулаў Статута, то ён проста збег, калі пабачыў, што на дапамогу яго ахвяры з усіх ног спяшаецца магутны хлопец. Канцлер павярнуў каня і, аблаяўшы Валацугу, які няспынна рагатаў, паехаў дакладваць Радзе пра тое, што Вольны горад хутка ператворыцца ў клааку.

Калі Вандроўнік прывёў Валацугу да Лекара, рассечаная рука небаракі крывавіла і нават пачала пухнуць. Лекар

прамыў вялікі парэз ад прыдалоння да локця, хутка зрабіў мазь з розных зёлак, нанёс яе на рану і абматаў руку чыстай тканінай. Лекар загадаў Валацугу трохі паспаць у пакоі для хворых, але той адмовіўся. Вандроўнік таксама хацеў, каб Валацуга адпачыў. Нягледзячы на ўпартасць сябра, хлопец разам з Лекарам усё ж пераканалі дзіўнага чалавека, які ўвесь час паўтараў, што сон адбірае ў яго магчымасць даследаваць свет і што, калі б ён мог, то ўвогуле ніколі б не спаў, каб не прапускаць цікавыя падзеі, якія не чакаюць і адбываюцца ўвесь час незалежна ад таго, спяць людзі ці не.

Валацуга быў адзіным пацыентам у гэты дзень, таму Лекар меў час, каб пагутарыць з Вандроўнікам і адказаць на яго шматлікія пытанні. Але спачатку ён хацеў даведацца, як атрымалася, што Валацуга так моцна параніўся. Хлопец не стаў утойваць таго, што адбылося каля Палаца Волі, бо прагнуў справядлівасці і спадзяваўся, што, калі спатрэбіцца, Лекар выступіць на баку пацярпелага. Лекар сказаў, што прадстаўніком Рады, які рассек руку Валацугі, хутчэй за ўсё, быў Белы канцлер, які пастаянна бавіць час з жонкай мясцовага цырульніка. Бываюць дні, калі ранкам цырульнік працуе не ў майстэрні, менавіта тады да яго жонкі, якая малюе дома карціны, наведваецца Белы канцлер. Усе ведаюць пра гэта, і нават сам цырульнік не супраць таго, што яго жонка мае каханка.

У Вольным горадзе шмат хто мае палюбоўнікаў. Тут у паняцця шлюбу трохі іншы сэнс. Вандроўнік ведаў пра гэта, бо ў лагеры, калі паслы Магістра распавядалі пра Статут, яны казалі, што згодна з адным з артыкулаў, калі людзі бяруцца шлюбам, яны нічога не абяцаюць адзін аднаму, і маюць права скасаваць яго ў любы дзень — як мужчыны, так і жанчыны. У Вольным горадзе ўсе працуюць і ўсім хапае жытла, таму жонка ніколі не залежыць ад му-

жа, як гэта часцяком бывае ў месцах, адкуль уцякаюць людзі, якія стаміліся ад архаічных традыцый.

Тут шлюб азначае, што людзі жывуць разам, што іх стасункі афіцыйныя і што гэты статус дае ім невялікія юрыдычныя прэферэнцыі. Але ніхто не забараняе і неафіцыйныя, калі гэта ўсім пасуе. У свой час Заснавальнік казаў, што каханне грунтуецца на пачуццях і эмоцыях — рэчах, якія цяжка кантраляваць, асабліва калі справа тычыцца інтымных пытанняў. Таму ён вырашыў, што жыхары горада павінны мець права вольна кіраваць уласным жыццём. Свабодныя адносіны не прывялі ні да паўсюднай распусты, ні да вялікай колькасці хвароб з дзіўнымі назвамі, ні да эпідэмій. Бо калі людзі па-сапраўднаму кахаюць і жывуць разам, праз некаторы час яны канчаткова прызвычайваюцца адзін да аднаго, а стасункі робяцца моцнымі як камень, і ўжо ніякія пачуцці і эмоцыі не ў стане зруйнаваць іх. Менавіта так і жылі значная большасць насельнікаў Вольнага горада.

Лекар дадаў, што, паводле чутак, адзін з прадстаўнікоў новай Рады, хутчэй за ўсё Чорны канцлер, імкнуўся выправіць артыкул аб шлюбе і аддаць пануючую ролю мужу, паставіўшы жонку ў залежнасць ад яго. Вядома, Белы канцлер не падтрымаў гэтую прапанову.

Лекар працягваў адказваць на пытанні Вандроўніка. Праз некаторы час прачнуўся Валацуга. З рукі дзівака знялі тканіну, каб паглядзець, ці спала пухліна. Калі Лекар пераканаўся, што ўсё добра, ён аддаў рэшткі мазі і загадаў наносіць яе штораніцы, пакуль шрам не загоіцца канчаткова. Сябры падзякавалі Лекару, які быў так уражаны гэтымі людзьмі, што нават адмовіўся выпісаць ім вэксаль.

Пасля гэтага Вандроўнік і Валацуга паспяшаліся ў «Шалёны напой», бо вельмі хацелі пабачыць і паслухаць дзяўчыну, пра чые спевы гутарыў увесь горад. Калі яны прыйшлі

ў аўстэрыю, то ледзьве праціснуліся да Карчмара, каб запытацца, куды можна сесці, а таксама замовіць вячэру. За ўвесь дзень яны з’елі толькі тое, што Вандроўнік набыў на кірмашы пекараў, ды выпілі па кубку смачнай гарбаты, якой пачаставаў Лекар.

Сяброўкі Красуні трымалі ў руках мандаліну і скрыпку. Дзяўчына падышла да іх і заняла сваё месца. Яна ўзяла невялічкі бубен, некалькі разоў лёганька ўдарыла ў яго і пачала спяваць.

Напрыканцы імпрэзы загучала яшчэ адна новая песня:

Заходняя Зорка спытала,
Ці Месяц кахае яе,
І ён адказаў, што кахае,
Усім сэрцам кахае, але...

Нячулае Сонца жадае,
Каб Месяц другую абраў,
Вялікую зорку з Усходу,
І толькі яе каб кахаў.

Так поўніцца сэрца адчаем,
Аж рвецца на часткі яно,
Аслухацца нельга, бо Сонца
Пануе ў свеце даўно.

У клетку зняволіць ці, можа,
На шыю надзене ланцуг,
Учора быў вольны як вецер,
А сёння — сядзіш сярод слуг.

«Давай уцячэм мы ад Сонца
І так застанемся ўдваіх,
Не трэба саромецца, любы,
Пачуццяў тваіх і маіх».

Паслухаўся Месячык Зорку,
Яны ўцяклі назаўжды,
Бо трэба каханне заўсёды
Ад прымхаў хаваць, ад нуды.

А Сонца злавалася моцна,
Хацела свяціць і ўначы,
Аднак прымірылася з лёсам,
Не здолеўшы перамагчы.

Вандроўнік захоплена глядзеў на Красуню. Валацуга заўважыў гэта, і кончыкі яго даўгіх заблытаных вусоў пачалі весела скакаць. Заўважыла гэта і дзяўчына, адчуўшы прыемнае пачуццё. Пасля імпрэзы Вандроўнік наважыўся падысці да яе.

# Раздзел VII

## Пра тое, як жыхары Вольнага горада сустрэлі падатак на бяздзетнасць

Мясцовыя друкарні працавалі спраўна. Копіі прамоў былі гатовы ўжо ўранку. Лісты з тэкстам новага артыкула — папаўдні. Паслы Магістра хутка развезлі іх па заезных дамах. Прамовы былі зачытаны ўвечары. Канцлеры выступілі на рынкавых плошчах бора. Магістр, які дагэтуль пакутаваў ад галаўнога болю, — у Таўне. Яго паслы — на фермах і ў лагеры.

Усходні Бора радасна сустрэў навіну. Людзі з асяроддзя Жоўтага канцлера, які быў ініцыятарам супярэчлівага падатку, на працягу некалькіх тыдняў імкнуліся давесці да мясцовых жыхароў, што Вольны горад заквітнее толькі тады, калі кожны жыхар займее трох дзяцей ды болей. Таксама яны шмат распавядалі пра пераемнасць традыцый і пра абавязак перад грамадствам. Але казалі не пра тыя каштоўнасці, якія былі закладзены ў дарэформенны Статут, а пра архаічныя традыцыі краёў, адкуль паходзілі жыхары Ус-

ходняга бора. Розум мясцовага насельніцтва так моцна задурманіўся, што людзі нават забылі, што нікому і нічога не вінны — ні грамадству, ні Радзе. Таму толькі невялікая частка з тых, хто слухаў прамову на рынкавай плошчы Жоўтага бора, выказалі незадаволенасць, але хутка мусілі сысці праз вялікі ціск з боку прыхільнікаў новага закона.

На Поўдні, дзе патрыярхальныя колы мелі самы вялікі ўплыў, нікому і нічога не спатрэбілася даводзіць. Хутчэй за ўсё, зрабі яны гэта — узровень падтрымкі быў бы нават вышэйшы, чым на Усходзе. Але Чорны канцлер, які сам скептычна ставіўся да рэформы, быў задаволены тым, што значная большасць падтрымала яе, бо гэта азначала, што яго ўладзе нічога не пагражае. Таму ён быў цалкам задаволены.

Насельніцтва Белага бора падзялілася на два бакі. Адны казалі, што толькі такім чынам магчыма пераадолець дэмаграфічны крызіс, другія былі ўпэўнены, што новы артыкул парушае іх свабоды. Жыхары Поўначы сварыліся паміж сабой, пакуль начная цемра не зрабіла так, што яны перасталі пазнаваць адзін аднаго. Пасля ўсе разышліся па дамах, так і не вырашыўшы, хто мае рацыю, а хто не. Тым часам Белы канцлер, скончыўшы прамову, адразу паехаў бавіць час са сваёй новай каханкай.

Сярод усіх бора толькі Чырвоны паўстаў супраць падатку, і гэта нягледзячы на тое, што мясцовы канцлер цалкам падтрымліваў закон, які пераважная большасць тутэйшых насельнікаў назвалі ганебным. Хутка страціўшы самавалоданне, узвар'яваны канцлер пачаў крычаць, сварыцца і пагражаць тым, чые інтарэсы ён павінен быў бараніць у Радзе. Раз'юшаны нечаканай рэакцыяй заходніх жыхароў, Чырвоны канцлер імкнуўся ўпэўніць тую меншасць, якая яго падтрымлівала, што шмат людзей, якія зараз сабраліся на рынкавай плошчы, прыйшлі з Таўна, каб

сабатаваць яго прамову. На шчасце, усё скончылася добра, бо за час існавання Вольнага горада нават самыя нястрыманыя людзі засвоілі, што ўсе спрэчкі павінны вырашацца мірна падчас Вольнага схода. Чырвоны канцлер лічыў інакш, але яго ўжо ніхто не слухаў.

Фермеры сустрэлі навіну спакойна, як і належыць тым, у каго няма часу займацца палітычнымі гульнямі. Яны рыхтавалі гаспадаркі да маразоў, надыход якіх ужо адчуваўся. Зараз толькі гэтая праблема клапаціла іх розумы. Таму большасць з іх адразу разышліся па хатах. Тыя, хто застаўся абмяркоўваць новы закон, хутка зразумелі, што наўрад ці сярод фермераў знойдзецца сям'я, якая не мае дзяцей. Для жыхароў раўніны гэта азначала, што хвалявацца няма чаго.

Было відавочна, што Таўн, які цяжка ўспрымае рэформы новых канцлераў, не падтрымае іх і гэтым разам. Бачачы, што Магістр знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане, жыхары цэнтральнай часткі Вольнага горада ўсё менш спадзяваліся на тое, што хтосьці будзе адстойваць іх інтарэсы ў Радзе. Ім не было сэнсу спрачацца з хворым Магістрам, таму пасля прамовы ўсе разышліся па сваіх справах. Наступны Вольны сход быў апошняй надзеяй Таўна.

У лагеры людзі па-рознаму сустрэлі новы артыкул, але значная большасць засталіся чакаць запрашэнняў, бо, як і Карчмар, лічылі, што ў свеце ўсё роўна няма месца, лепшага за Вольны горад. Нават за яго сучасны варыянт. Але ў лагеры былі і тыя, хто, сабраўшы свае рэчы, сышоў у пошуках лепшай долі. Невялікая частка з тых, каму прыйшоўся не даспадобы новы закон, вырашылі назаўсёды застацца ў лагеры, бо дзеянне Статута не распаўсюджваецца на тэрыторыю вакол горада, аднак прытулак тут даюць усім.

Хутка высветлілася, што сыходзілі не толькі тыя, хто яшчэ не паспеў трапіць у горад, а нават і некаторыя яго жыхары. У першую чаргу прадстаўнікі інтэлектуальных прафесій: пісьменнікі, мастакі, музыкі, акцёры, а таксама настаўнікі, лекары і вучоныя. Новыя канцлеры, якія самі ўстанаўлівалі заробкі, лічылі, што каштоўнасць мастацкіх твораў значна перабольшаная. Яны былі ўпэўнены, што кожны чалавек можа напісаць кнігу ці скрывіць міну ў тэатры, але ўсё гэта дзіцячыя забавы, таму амаль ніхто з дарослых гэтым і не займаецца. Плаціць шмат грошай за такую працу — значыць закопваць іх у зямлю.

Што тычыцца настаўнікаў, то не трэба шмат ведаў, каб навучыць дзяцей асноўным правілам граматыцы і арыфметыкі — ведаў, якіх дастаткова амаль усім. А калі так, то і заробак у тых, хто гэтым займаецца, павінен быць невысокі.

Значнасць лекараў таксама перабольшаная, бо шматлікія хваробы людзі могуць вылечыць самі. А тыя, з якімі цяжка справіцца, наканаваны лёсам і з’яўляюцца сапраўдным выпрабаваннем для чалавека, і калі ён пераадольвае іх, то робіцца яшчэ мацнейшым, чым быў раней.

Вучоныя ўвогуле былі ў няласцы ў новых канцлераў. Аднойчы прадстаўнік Чорнага бора сказаў, што чалавецтва дасягнула ўсяго, пра што толькі магло марыць, таму ён больш не бачыць патрэбы ў вучоных, гатовы прылічыць іх да шарлатанаў і забараніць уваход у Вольны горад тым, хто называе сябе вучонымі. Жоўты канцлер палічыў, што гэта добрая ідэя, але прапанаваў разгледзець яе пазней.

Пасля грашовай рэформы ўсе гэтыя людзі апынуліся ў дрэнным становішчы. Іх заробкі сталі нізкімі, таму ў іх не было магчымасці сплочваць падатак ці гадаваць дзяцей. Дзякуючы хлусні Белага канцлера падатак зрабілі ўтрая вышэйшым, чым планавалася спачатку, таму некаторыя жыхары павінны былі аддаць амаль палову заробку.

Шмат хто не жадаў мець дзяцей, бо часам людзі жывуць для сябе — ці проста так, ці з марай дасягнуць чагосьціневерагоднага.

Некаторыя ж былі абураныя тым, што новыя канцлеры адабралі ў жыхароў Вольнага горада свабоду і прапанавалі замест яе варыянты, ніводзін з якіх не з'яўляецца прымальным. Прадстаўнікі Рады палічылі, што ілюзія свабоды выбару заменіць людзям сапраўдную свабоду, але памыліліся...

...У гэты дзень да Лекара прыйшла адна знаёмая жанчына. Яна была жонкай каваля, які да з'яўлення бора жыў побач з Лекарам. Пасля размежавання сусед вырашыў з'ехаць, перабраўшыся ва ўсходнюю частку горада. Зараз ён адчуваў сябе дрэнна, таму яго жонка прыйшла па дапамогу да чалавека, якому давярала. У каваля была гарачка. Агледзеўшы яго і пакінуўшы патрэбныя лекі, ратавальнік Валацугі накіраваўся дамоў, але хутка зразумеў, што не паспее ў Таўн да пачатку прамовы, таму пайшоў на рынкавую плошчу Жоўтага бора, каб паслухаць яе тут.

Лекар быў расчараваны тым, як прыхільнікі рэформы ганьбілі яе праціўнікаў. Калі яму надакучыла слухаць спрэчкі і ён вырашыў сысці, то раптоўна стаў сведкам яшчэ адной сваркі. Гэтым разам паміж жонкай і мужам, якія таксама пайшлі прэч з месца, дзе разгарнуліся жарсці. Аднак хутка іх напаткалі ўласныя.

— Думаю, надышоў час і нам займець дзяцей, — пачаў муж. — У нас ёсць дастаткова грошай, каб сплаціць падатак, але канцлер мае рацыю: мы павінны выканаць наш абавязак перад грамадствам, якое калісьці дало нам шанец на новае жыццё.

— На жаль, ты не ў стане самастойна зрабіць дзіця, — пажартавала жонка ў разліку, што муж адчэпіцца ад яе.

Але ён працягнуў:

— Згодна з традыцыяй краю, дзе мы нарадзіліся, ты павінна падпарадкавацца мне.

Такая нахабнасць стала нечаканасцю для кабеты. Яна прыпынілася і ўважліва паглядзела на мужа, жадаючы зразумець, ці насамрэч ён мае на ўвазе тое, што яна зараз пачула. Яго выгляд быў рашучы, ён падштурхнуў жанчыну ў бок, сказаўшы:

— Хадзем, не паводзь сябе, як дурніца.

— Я не разумею, чаму павінна выконваць традыцыі роднага краю, калі мы жывём у Вольным горадзе?

— Вольны горад быў пабудаваны на прынцыпах, якіх трымаліся Заснавальнік і стары Магістр. Але першы сышоў, а другі, кажуць, канчаткова страціў розум. Відавочна, што яны памыляліся. Надышоў новы час, і хутка ўсё зменіцца на лепшае.

— Мы пражылі тут дзесяць гадоў, і табе дагэтуль усё падабалася! — жонка нават і не падумала зварухнуцца з месца.

— Дзякуючы новым канцлерам я ўсё ж такі зразумеў, што кожны павінен жыць паводле традыцый таго краю, дзе ён нарадзіўся, бо чалавека ніколі не адпускаюць яго карані.

— Але калі яны пачынаюць абвіваць чалавеку шыю, душыць яго і цягнуць у багну, іх трэба адсекчы, хіба пакінуўшы толькі маленькія бяскрыўдныя карэньчыкі мовы, культуры і гісторыі. Ці не ад пачвар-душагубаў, якія імкнуліся вызначыць нашыя лёсы, мы збеглі сюды, у Вольны горад?

— У той час я памыляўся.

— Ты дурань!

Лекар ніколі не сунуў нос у чужыя справы, але яго так захапілі словы гэтай разважлівай кабеты, што ён не мог адвесці ад яе позірк.

— Я быў дурнем.

Муж узяў жонку за руку і сілай пацягнуў яе за сабой:

— Не ганьбі мяне, чуеш!

— Ты ім і застаўся! — вырваўшы руку, сказала жанчына.

Праз імгненне адбітак яго далоні выявіўся на яе шчацэ. Лекар хацеў кінуцца на дапамогу абражанай кабеце, але яна, плюнуўшы ў вочы свайму мужу, хутка, нібы рысь, якая кідаецца ў пагоню за здабычай, пабегла дамоў. Калі муж прыйшоў, яна ўжо сышла на ферму. Папаўдні наступнага дня пасыльны прынёс мужчыну паведамленне, у якім значылася, што ён зноў нежанаты.

Гэта быў не адзіны падобны выпадак, які адбыўся ў некаторых частках Вольнага горада ў тыя дні.

# Раздзел VIII

## Пра тое, як Вандроўнік марыў пра свет без межаў

Вандроўнік прачнуўся ў добрым гуморы. Учора яму не ўдалося падысці да Красуні, але хутка ён абавязкова гэта зробіць. Удзячны народ абступіў дзяўчыну пасля таго, як яна выканала апошнюю песню. Хлопец імкнуўся прабіцца праз натоўп, але Валацуга сказаў, што ў Вандроўніка будзе яшчэ шмат магчымасцей пазнаёміцца з Красуняй, і параіў сябру выбраць больш зручны для гэтага момант. Хлопец пагадзіўся і падняўся да сябе ў пакой. Валацуга заўважыў, як дзяўчына шукала вачамі ў натоўпе таго, хто з першага позірку зрабіўся ёй мілым. Думка пра тое, што, магчыма, ён стаў сведкам нараджэння вялікага кахання, саграваа сэрца дзівака.

Вандроўнік пагрукаў у дзверы Валацугі і прапанаваў таму пайсці паснедаць. Яны разам спусціліся ў залю, занялі стол непадалёк ад вакна, бо Валацуга хацеў атрымаць асалоду не толькі ад гарбаты з печывам, але і ад прыемнага ранішняга сонца. Сябры звярнулі ўвагу, што ў гэты

час у аўстэрыі нікога не было, акрамя трох маладых людзей, якія сядзелі ў цёмным куце і ціхенька размаўлялі, нібы змоўшчыкі. Вандроўнік заўважыў, што грудзі юнакоў упрыгожваюць белыя стужкі, якія сімвалізуюць прыналежнасць чалавека да паўночнай часткі свету.

— Ну вось, мы і на ўласныя вочы пабачылі іх у Таўне, — сказаў Валацуга, які расказваў Вандроўніку пра гэтыя стужкі падчас іх першай сустрэчы.

Сябры бачылі людзей са стужкамі, калі шлі праз паўднёвы бора, але ў цэнтральнай частцы горада было амаль што немагчыма сустрэць такіх жыхароў.

— Так, — адказаў хлопец. — Мабыць ты штосьці ведаеш яшчэ і пра велічэзныя камяні, якія мы бачылі недзе паміж Чорным бора і Таўнам?

— Гэтыя камяні — своеасаблівая мяжа. Яны ляжаць па ўсім горадзе, падзяляючы яго на часткі.

— Мне заўсёды было цяжка зразумець, навошта людзі на працягу стагоддзяў адмяжоўваюцца адзін ад аднаго. Няўжо мы ўсе настолькі розныя, што павінны жыць асобна? Ні колер скуры, ні ідалы, якім пакланяюцца некаторыя, ні мова, ні што іншае, праз што ўвесь час сварацца народы, не ўплывае на тое, разумны чалавек ці не, плённа ён выконвае сваю працу ці не, здольны ён прыносіць карысць сабе і іншым ці не?

— Хцівасць і фанабэрыя, якія амаль заўсёды атручваюць розумы ўладароў — галоўныя ворагі чалавецтва. Тыя, хто кіруе народамі, гатовыя, выдумляючы розныя прычыны, весці іх адзін на аднаго, ахвяруючы чужыя жыцці, толькі дзеля таго, каб павялічыць сваё багацце і ўзвесці сабе чарговы помнік. Але багацце скончыцца, бо яго ці прагуляюць, ці расцягнуць пасля смерці ўладара. А помнікі ж маюць асаблівасць быць знішчанымі наступным захопнікам, які прагне бачыць уласную бронза-

вую копію на месцы тых, што стаялі раней. Людзі кажуць, што яны разумнейшыя за жывёл, але ці так гэта? Жывёлы рэдка імкнуцца назапашыць рэчаў больш, чым ім трэба, бо ведаюць, што гэта можа прыцягнуць увагу тых, хто паспрабуе адабраць усё. Некаторыя з відаў нават не супраць таго, каб падзяліцца з астатнімі сваёй здабычай. Жывёлы палююць толькі тады, калі голад кіруе імі, выключэнняў амаль не існуе. Скажы, як часта арміі людзей кідаюцца ў бой з пустымі жыватамі? Ці, можа, яны робяць гэта таму, што паміраюць ад голаду?

Сказаўшы гэта, Валацуга заўважыў, што адзін з юнакоў, якія сядзяць у куце, сочыць за ім. Карчмар прынёс гарбату і печыва. Адпіўшы глыток, сябар Вандроўніка працягнуў:

— Уладары любяць ваяваць за кавалкі зямлі, але ў свеце так шмат зямлі, што яе хапіла б усім нават тады, калі б людзей было ў некалькі разоў больш.

— Але не ўсе ваююць проста за зямлю. Часам уладары прагнуць авалодаць тым, што яна дае, бо ўпэўнены, што гэта станоўча паўплывае на дабрабыт іх народаў.

— Так, але ўсіх войнаў можна было б пазбегнуць, калі б уладары імкнуліся дамовіцца адзін з адным. А што тычыцца дабрабыту народа, то ён ніколі не бывае на першым месцы ў тых, хто ідзе вайной на суседа, бо вайна — супрацьлегласць дабрабыту. Толькі прадстаўнікі самых архаічных грамадстваў могуць атрымліваць асалоду ад знішчэння да сябе падобных.

— Дзіўная рэч, — сказаў Вандроўнік, — але менавіта блізкія суседзі заўсёды з’яўляюцца самымі злымі ворагамі адзін аднаму. Замест таго каб жыць разам і ў згодзе, суседнія народы будуюць межы і чакаюць зручнага моманту, каб знішчыць таго, хто побач.

— Каб потым перайсці да наступнага, — з усмешкай дадаў Валацуга.

— Самая дзіўная прычына знішчыць адзін аднаго — любоў да розных ідалаў. Ці вартая яна таго, каб загінуць? Ці не ва ўсіх ідалаў адна і тая сутнасць — быць зброяй у руках шэльмаў? Якая розніца, хто цябе ашуквае — той, хто прыкідваецца намеснікам аднарогага ідала, ці той, хто заклікае прыносіць сябе ў ахвяру трохрогаму? Чаму некаторыя лічаць, што менавіта іхныя святары вартыя таго, каб ашукваць усіх астатніх?

— Чым болей прымхаў у людзей, тым болей у іх нагод знішчыць адзін аднаго.

— Але, нават маючы прымхі, людзі ўсё роўна маглі б жыць разам, без межаў, дамаўляючыся, а не ваюючы. Хіба не так жыў Вольны горад на працягу трыццаці трох гадоў?

— Так. Але, як выявілася, нават людзі, пазбаўленыя прымхаў, бо, як ты ведаеш, запрашэнні атрымліваюць тыя, хто добра ставіцца да ўсіх, не здолелі за траціну стагоддзя адчуць сябе адзіным народам. Трапляючы ў аднолькавыя абставіны, кожны па-рознаму ўспрымае іх. Існуе старая легенда пра магната, які пазычаў грошы ўладарам з розных частак свету. За гэта, калі яны перамагалі ў вайне, ён атрымліваў ва ўладанне частку захопленых нявольнікаў. Калі іх набралося роўна сто, магнат пасяліў гэтых людзей у адзін з самых лепшых палацаў у свеце. Ніхто не любіў магната за яго невыносную натуру, таму ў яго ніколі не было сяброў, але ён заўсёды марыў мець сотню паплечнікаў. Магнат быў упэўнены, што людзі нічым не адрозніваюцца ад жывёл. Ён меў шмат сабак і быў адным з тых, хто верыў, што каб сабака па-сапраўднаму палюбіў гаспадара, яго трэба не толькі песціць, але і лупцаваць, бо менавіта пасля гэтага сабака лашчыцца мацней за ўсё. Кіруючыся вар'яцкім падыходам, ён пачаў гадаваць дзеля сябе сто сяброў.

Яго нявольнікі жылі, як самыя заможныя прадстаўнікі грамадства, яны заўсёды атрымлівалі тое, што хацелі,

але ніколі не пакідалі палаца і час ад часу мусілі трываць не толькі розныя фізічныя катаванні, але і маральныя. Магнат лічыў, што сабака дурны і мала што разумее. А чалавек — істота разумная, таму да яго і патрабаванні павінны быць большыя.

Аднак ці вартая вернасць дзесяці людзей адданасці аднаго сабакі?

Некаторыя з так званых сяброў магната паміралі падчас гэтых выпрабаванняў. Тыран, каб паказаць астатнім сваю пакуту, ладзіў шыкоўныя пахаванні. Але хутка на замену нябожчыку прывозілі новага раба, і жыццё працягвалася. Пры магнаце ўсе нявольнікі рабілі выгляд, што з'яўляюцца яго сапраўднымі сябрамі. Некаторыя нават хацелі звацца найлепшымі, але такіх нахабнікаў чакала дадатковае лупцаванне, бо магнат лічыў, што ўсе яго сябры павінны быць роўныя. Тым самым ён імкнуўся паказаць сябе справядлівым гаспадаром.

Мінула шмат гадоў, тыран памёр. Ён пакінуў тастамент, згодна з якім яго сто сяброў атрымалі свабоду. Іх далейшы лёс залежыў ад таго, што яны абяруць: сысці з вялікай колькасцю грошай, каб пачаць новае жыццё, ці застацца ў палацы і выканаць апошнія пажаданні магната.

Былыя нявольнікі падзяліліся на тры часткі, і ў кожнай з іх былі прадстаўнікі розных народаў. Першыя, якія складалі большасць, атрымалі грошы і сышлі. Яны казалі, што збольшага гэты быў станоўчы досвед. Яны добра жылі, мелі, што хацелі, а гвалт лічылі расплатай за заможнае жыццё, і калі б ім хтосьці зноў прапанаваў нешта падобнае, яны пагадзіліся б.

Прадстаўнікі другой часткі называлі магната найлепшым чалавекам у свеце. За доўгі час, што гэтыя людзі жылі ў палацы, яны прызвычаіліся да абставін і больш не лічылі катаванні нечым жудасным. Хутчэй, успрымалі

іх як частку паўсядзённага жыцця. Памяць чалавека мае ўласцівасць забываць і нават знішчаць дрэнныя ўспаміны, пакідаючы толькі добрыя. Аднак гэтыя людзі таксама сышлі. На атрыманыя грошы яны ўсталявалі самы вялікі і самы прыгожы помнік у свеце, але ім цяжка было прызвычаіцца да новага жыцця. Яны жылі ўспамінамі таго часу, калі былі сябрамі самага лепшага чалавека ў свеце. Пазней гэтыя людзі прыйшлі да высновы, што больш ніколі не адчуюць сапраўднага шчасця, якое ім калісьці падараваў магнат. Таму яны вырашылі скончыць жыццё самагубствам. На апошнія грошы, якія засталіся ў іх ад тырана, яны набылі прыгожы карабель, выйшлі ў мора, і больш ніхто і ніколі іх не бачыў. Помнік жа, які яны ўсталявалі, праз нейкі час быў знішчаны захопнікамі, бо новым уладарам рэдка даспадобы старыя рэліквіі.

Прадстаўнікі трэцяй, самай малакольканай часткі ўсім сэрцам ненавідзелі магната. Яны лічылі, што ён зруйнаваў іх жыцці. Яны не ведалі, як склаўся б іх лёс за межамі палаца, але тыя пакуты, якія яны перажылі ў гэтым месцы, былі не вартыя ўсіх багаццяў свету. І менавіта гэтыя людзі засталіся, каб выканаць апошнія пажаданні свайго ката.

Паводле тастамента, магнат хацеў, каб яго пахаванне было неверагоднае. І яно было, але неверагодна сціплае і ў месцы, якое больш ніхто і ніколі не наведаў. Ён хацеў, каб памяць пра яго жыла вечна. І яна жыла. Яго ахвяры напісалі лісты, у якіх распавялі пра ўсе злачынствы магната, пра тое, як ён шмат гадоў здзекаваўся з людзей і як некаторыя з іх памерлі. Гэтыя лісты былі адпраўлены ва ўсе часткі свету, каб усе людзі і ва ўсе часы ведалі, што калісьці жыў такі тыран. Яго трэцім пажаданнем было тое, каб у месцы, дзе ён жыў, заўсёды панавала весялосць і кожны дзень гучала музыка. Тыя, хто яго ненавідзеў, выканалі і гэта. Яны зруйнавалі палац, а на яго месцы выкапалі

вялікую сажалку, вакол якой зрабілі прыгожы парк. Людзі прыходзілі ў гэты парк, яны добра і весела бавілі час, нават і не падазраючы, што тут было раней. Штодзённай музыкай сталі прыгожыя спевы птушак, якія пасяліліся ў гэтым парку. Такім чынам, прадстаўнікі трэцяй часткі выканалі ўсе пажаданні магната, знішчыўшы ўсё, што нагадвала пра яго, і пакінуўшы нашчадкам толькі гэтую легенду.

Некаторыя людзі зганілі тых, хто ненавідзеў тырана, бо лічылі, што ахвяры не мелі права руйнаваць палац — перліну тутэйшай архітэктуры. Хтосьці казаў, што ахвяры павінны былі пазначыць месца пахавання, таму што так трэба рабіць згодна з запаветам мясцовага ідала.

Прадстаўнікі кожнай з трох частак былі ўпэўненыя, што менавіта яны маюць рацыю, а астатнія памыляюцца. Ніколі не было адзінства і сярод тых, каму распавядалі гэтую легенду.

Валацуга скончыў. Ён адпіў гарбаты, адламаў невялікі кавалачак печыва, паклаў яго ў рот і паглядзеў на Вандроўніка.

— У кожную з трох груп, — пачаў хлопец, — якія ўтварыліся пасля смерці магната, уваходзілі прадстаўнікі ўсіх частак свету, а гэта значыць, што паходжанне людзей аніяк не паўплывала на іх меркаванне. Яны не ўлічвалі, каго адкуль прывялі, якім ідалам яны пакланяюцца, які колер скуры яны маюць ці на якой мове яны размаўлялі да таго, як трапілі ў палон. Робячы высновы, яны былі вольныя ад прымхаў.

— Тое ж самае адбылося і з жыхарамі Вольнага горада. За час яго існавання склаліся пэўныя грамадскія колы. Невялікія патрыяхальныя групоўкі вельмі добра скарысталіся момантам, калі старая Рада страціла пільнасць. На жаль, траціны стагоддзя не хапіла для таго, каб насельнікі адчулі сябе адзіным народам. Хутчэй за ўсё, гэта здары-

лася таму, што горад няспынна выдае запрашэнні новым людзям, якія яшчэ доўга могуць адносіць сябе да той часткі свету, адкуль яны прыйшлі. Таксама на баку патрыярхальных колаў апынулася настальгія — адно з самых небяспечных пачуццяў, якое змушае паверыць у тое, што раней было лепей. Калі б гэта сапраўды было так, чалавецтва дагэтуль жыло б у пячорах. Аднак людзі ўсё роўна баяцца зменаў, нават тады, калі відавочна, што яны прынясуць карысць. Менавіта таму Вольны горад пачала паглынаць цемра былых стагоддзяў. Сцягі Раз'яднання, аднакаляровыя стужкі, велічэзныя камяні на межах бора і законы новых канцлераў рана ці позна прывядуць да таго, што прымхі з'явяцца нават у тых, у каго іх ніколі не было.

— Ну, гэта мы яшчэ паглядзім, — цвёрда сказаў Вандроўнік. — Мне здаецца, што жыхары Вольнага горада зразумеюць сваю памылку і падчас наступнага Вольнага схода склад Рады зменіцца, і горад вернецца да нармальнага жыцця.

Юнакі, якія сядзелі ў цёмным куце, усталі з-за стала і падышлі да Вандроўніка з Валацугам. Той з іх, які ўвесь час сачыў за сябрамі, вымавіў з вар'яцкай усмешкай на твары:

— Ты, дзівак, добрую казачку распавёў. Я таксама ведаю адну. Хутка ў горадзе з'явяцца сапраўдныя межы, бо трэба ж такіх дурняў, як вы, ад простага люду адгарадзіць.

Ён дастаў з кішэні белую стужку і паклаў яе каля Вандроўніка:

— Маленькі падарунак, потым дзякаваць будзеш, супляменнік. А табе, жабрак, напэўна, ужо нічога не дапаможа.

Маладыя людзі зарагаталі. Яны падышлі да прылаўка і пакінулі там некалькі манет, пасля чаго, кіўнуўшы галовамі ўбок Валацугі і Вандроўніка, выйшлі на вуліцу.

# Раздзел IX

## Пра тое, як Красуня назірала за крумкачамі

Карчмар і Гаспадыня прыбіралі на кухні і чакалі, калі прачнецца Красуня, каб выправіць яе на кірмаш пекараў, які хутка павінен быў скончыцца. Краем вока Карчмар заўважыў, што спачатку сышлі хлопцы з белымі стужкамі, а хутка за імі і Вандроўнік з Валацугам. Ён пайшоў у залу, каб працерці сталы і забраць з прылаўка манеты. У гэты момант у аўстэрыю зайшоў пасыльны, які прынёс паперы з тэкстам новага артыкула і заклікам паслухаць прамову на рынкавай плошчы Таўна. «Шалёны напой» быў адным з першых месцаў у горадзе, дзе з'явілася копія супярэчлівага закона. Карчмар прачытаў лісты, павесіў іх на дошку каля ўваходу і з пахмурным тварам вярнуўся на кухню. Жонка адразу заўважыла, як штосьці вельмі хутка сапсавала настрой яе мужу.

— Што здарылася? — запытала яна, працягваючы праціраць талеркі.

— Рада ўсё ж такі ўхваліла падатак на бяздзетнасць, — адказаў муж, прысеўшы на стул.

Жанчына адклала анучу ўбок, выцерла аб фартух рукі і хутка рушыла на вуліцу. Прачытаўшы закон, яна так грымнула кулаком па дошцы, што людзі, якія праходзілі побач з аустэрыяй, азірнуліся на раз'юшаную кабету ды адышлі трохі далей.

Красуня спускалася па лесвіцы. Яна ўбачыла прыёмную маці каля ўваходных дзвярэй і падышла да яе, каб павітацца.

— Добрай раніцы, мамачка!

Дзяўчына пацалавала Гаспадыню ў шчаку.

— Калі б так...

Кабета ў адказ пацалавала Красуню, паглядзеўшы на яе сумнымі вачамі.

— А чаму ты такая маркотная? — запытаўшыся, дзяўчына адышла на крок назад, каб лепей разгледзець аблічча Гаспадыні.

— Дык вось, усё тут, — адказала тая, кіўнуўшы галавою ўбок дошкі.

Красуня ўважліва прачытала артыкул.

— У якім узросце?! — Абурэнне ахапіла яе. — А жыць калі? А вучыцца?

Мінакі зразумелі, што штосьці цікавае адбываецца каля аўстэрыі і што Гаспадыня не проста так б'е ў сцяну. Усё больш людзей пачалі падыходзіць да дошкі з аб'явай.

— Чытайце, чытайце! — Красуня пачала заклікаць усіх, хто быў побач. — Вось што ў Вольным горадзе чыніцца! Вось чарговая дурасць, якую нам новыя канцлеры падсунулі. Чытайце, дзівіцеся ды чакайце, бо, відаць, хутка і лайно падаткам абкладуць!

Гаспадыня была так здзіўлена словамі дзяўчыны, што толькі разявіла рот, але нічога не вымавіла. Тая, у сваю чаргу, залезла на лаву, і ўжо ніхто не быў здольны стрымаць яе. Карчмар, пабачыўшы, што на вуліцы пачалася

таўкатня, выйшаў, каб трохі супакоіць людзей, але ў той момант Красуня цалкам захапіла натоўп...

...Вандроўнік і Валацуга вырашылі, што надышоў час знайсці працу. Да ўвядзення грошай усё было проста: чалавек займаў вольнае ці будаваў новае памяшканне, атрымліваў усе прылады, якія яму былі патрэбны, і пачынаў працаваць. Зараз жа спачатку трэба адшукаць майстэрню, потым даведацца, які заробак яна прапануе навічкам, і калі прапанова задавальняе кандыдата, ён застаецца. Калі не — ідзе шукаць іншую майстэрню. Адмовіць чалавеку не маглі, але часам і не маглі прапанаваць добры заробак. Некаторыя навічкі, расчараваныя гэтай сістэмай, амаль адразу сыходзілі з горада. Яны марылі пра тое, што мелі людзі, якія трапілі ў горад да абрання новай Рады. Але спазніліся.

Прыгадаўшы параду гаспадара шынка, які сустракае гасцей каля Галоўнай брамы, Вандроўнік вырашыў абмежаваць пошук адным толькі Таўнам. Ён ужо зразумеў: у бора пакуль што лепей не сунуцца. Дзякуючы слупкам з таблічкамі ён хутка знайшоў першую майстэрню, дзе працавалі цясляры. Тут яму сказалі, што не могуць прапанаваць высокі заробак, і параілі звярнуцца ў іншыя майстэрні. У Таўне было тры месцы, дзе займаліся апрацоўкай драўніны. Адно з іх знаходзілася непадалёк ад шынка «Пятае кола», дзе Вандроўніка напаткала навіна пра тое, што новая Рада ўхваліла падатак на бяздзетнасць. Таксама ён даведаўся, што ўвечары Магістр выступіць з прамовай на рынкавай плошчы. Хлопец вырашыў, што абавязкова пойдзе яе паслухаць, бо яму хацелася пабачыць чалавека, які быў адным са стваральнікаў найлепшага месца ў свеце.

Што тычыцца другой майстэрні, то і тут Вандроўніку сказалі тое самае, што і ў папярэдняй, таму ён быў выму-

шаны шукаць трэцюю. Але і там яго чакала ўжо вядомая парада: запытай у іншым месцы, калі хочаш мець добры заробак. Да прамовы заставалася яшчэ колькі часу, таму хлопец вырашыў пашпацыраваць па цэнтральнай частцы горада ды падумаць, што рабіць далей...

...Тым часам Валацуга накіраваўся ў навучальную ўстанову, дзе рыхтавалі акцёраў. Ён па-ранейшаму меў дзіўны выгляд, таму настаўнік, які сустракаў новых студэнтаў і займаўся іх размеркаваннем, быў упэўнены, што Валацуга адразу прыйшоў у вобразе.

— На вашую думку, які жанр пасуе вам больш за усё? — запытаў настаўнік у Валацугі пасля таго, як запрасіў яго ў свой кабінет.

— Штосьці лёгкае, не люблю людзям галовы тлуміць, — адказаў дзівак, з цікаўнасцю разглядаючы пакой.

«Камедыя», — запісаў настаўнік і працягнуў:

— Што ў вас лепей за ўсё атрымліваецца рабіць?

— Рагатаць, — адказ быў імгненны.

Настаўнік хацеў штосьці напісаць, але задумаўся, паглядзеў на жаўтаваты аркуш, некалькі разоў дзеўбануў пяром ды запытаў:

— Можа, прадэманструеце якую сцэну?

— Прабачце, — з усмешкай сказаў Валацуга, зняўшы пенснэ з настаўніка.

Ён начапіў прыладу сабе на нос, які амаль згубіўся ў кудлатай барадзе, наблізіўся да люстэрка, зазірнуў у яго і, прытупнуўшы, сказаў:

— Ці не прафесар?

На лысіне настаўніка, аточанай двума акуратнымі радкамі валасоў, выступіў пот. Мужчына быў трохі збянтэжаны такой нахабнасцю, але, адпіўшы трошачкі вады з куб-

ка, які стаяў на прыгожым разным стале, знайшоў у сабе сілы сказаць:

— Пачатак заняткаў роўна праз тыдзень. Апоўдні.

— Дзякуй, — адказаў Валацуга, акуратна вярнуўшы пенснэ на нос настаўніка.

— І вам... — прамямліў той, паглядзеўшы на новага студэнта разгубленым позіркам.

Валацуга выйшаў на вуліцу. Ён збіраўся працягнуць агляд горада, які ўчора гвалтоўна прыпыніў Белы канцлер, але заўважыў, што вялікі натоўп сабраўся каля бліжэйшай карчмы. Дзівак падышоў да яго. Гэтыя людзі, як і тыя, каго Красуня сабрала ў «Шалёным напоі», жвава абмяркоўвалі новы падатак. Валацуга наблізіўся да дзвярэй, да якіх быў прыбіты аркуш з тэкстам артыкула, хутка прачытаў і яго, і запрашэнне прыйсці на прамову ды адразу ж накіраваўся на рынкавую плошчу.

Ён не спяшаўся, павольна рухаўся па вуліцах Таўна, углядаючыся ў твары людзей. Але ўсё адно быў першы, хто прыйшоў паслухаць выступ Магістра, да пачатку якога заставалася яшчэ шмат часу. Таму Валацуга агледзеў усе мясцовыя крамкі, шапікі ды прылаўкі, атрымаў чарговы вэксаль, набыўшы цэлы кошык яблык. Ён пачаў іх есці, сеўшы каля памоста — пляцоўкі, з якой прадстаўнік Рады павінен быў зачытаць прамову.

Праз некаторы час пачалі збірацца людзі. Усе яны з зацікаўленасцю глядзелі на Валацугу, але ніхто не наважыўся падысці да месца, дзе ён знаходзіўся, бліжэй чым на дзесяць-пятнаццаць крокаў. Хутка дзівак заўважыў у натоўпе знаёмы твар. Ён падняўся, пакінуўшы кошык з недаедзенымі яблыкамі, і падышоў да Вандроўніка.

— Цікавая справа, — сказаў Валацуга, наблізіўшыся да сябра.

— Нейкі цуд, — адказаў той. — Ці будуць бацькі любіць дзіця, якое нарадзілі для таго, каб пазбегнуць падатку?

— Ці маюць людзі права нараджаць дзіця з якой іншай прычыны, акрамя той, што называецца бацькоўскай любоўю?

Яны моўчкі стаялі і прыслухоўваліся да таго, што кажуць навокал. Зразумела, што жыхары Таўна былі супраць новага артыкула, але амаль ніхто з іх не быў па-сапраўднаму абураны. Шмат хто чакаў наступнага Вольнага схода, спадзеючыся, што ён прывядзе да зменаў у складзе Рады, а таксама да скасавання ганебных законаў.

Але былі і тыя, хто не прытрымліваўся такога пункту гледжання. Яны былі гатовыя спрачацца, а не чакаць моўчкі і жадалі, каб усе жыхары горада зразумелі пагрозу. Справа была не ў падатках і дзецях, а ў тым, што ў людзей адбіраюць свабоду выбару. Крок за крокам новыя канцлеры ператваралі Вольны горад у месца, якое ўсё больш нагадвала краіны, адкуль у свой час у пошуках лепшай долі сышоў кожны, хто калісьці атрымаў запрашэнне. Таму прыхільнікі пратэстаў, да якіх адносілася і Красуня, якая таксама прыйшла паслухаць прамову, не маглі зразумець, чаму людзі не выказваюць жадання абмяркоўваць артыкулы новай Рады, а моўчкі праглынаюць іх адзін за адным?

Неўзабаве на памосце з'явіўся Магістр. Яго даўгія сівыя валасы добра пасавалі да чорнага адзення, якое калісьці, як і ён, рабіла моцнае ўражанне на жыхароў Вольнага горада. Але зараз усё змянілася. Стары і вельмі хворы, ён змораным позіркам агледзеў натоўп, набраў у лёгкія як мага больш паветра і пачаў зачытваць прамову. Але яго голас ужо не быў такі гучны, як раней. Людзі, якія стаялі наводдаль, амаль нічога не чулі, таму яны пачалі крычаць, каб Магістр чытаў гучней. Стары, зразумеўшы, што ён не ў стане гэта зрабіць, аддаў ліст аднаму са сваіх паслоў.

— Іншая справа! — данеслася аднекуль ззаду.

— Хай тады гэты і будзе новым Магістрам, — крыкнуў хтосьці, але ў адказ пачуў нездаволены гул.

Нягледзячы на тое што ў цяперашнім Магістру амаль нічога не засталося ад некалі вельмі жвавага прадстаўніка Рады, які з лёгкасцю вырашаў нават самыя цяжкія пытанні, жыхары Вольнага горада, асабліва з Таўна, з павагай ставіліся да старога. Таму няўдалы жарт сустрэлі гулам. Магістр зразумеў гэта, на яго твары з'явілася ўдзячная ўсмешка, але суму ў ёй было больш, чым радасці.

Вандроўнік разгледзеў у натоўпе Красуню. Яна стаяла бокам да яго і задумліва глядзела на крумкачоў, якія сядзелі на даху аднаго з дамоў. Хлопец быў у захапленні ад гэтай дзяўчыны, і асабліва ад яе трошкі кірпатага носа і вялікіх зялёных вачэй.

— Не час для заляцанняў, — з усмешкай сказаў Валацуга, пхнуўшы у бок свайго маладога і закаханага сябра. — Пачакай трошкі.

Той паслухаўся, перавёў позірк на пасла і засяродзіўся на прамове — у адрозненне ад Красуні, якая працягвала разглядаць крумачоў. Яна прыйшла на рынкавую плошчу, каб выказаць сваё незадавальненне, але так захапілася гэтымі птушкамі, што нават і не заўважыла, як усё скончылася. Людзі пачалі разыходзіцца, сышлі і Вандроўнік з Валацугам, а яна ўсё глядзела на крумкачоў, нібы яны зачаравалі яе. Раптоўна дзяўчына зразумела, што хутка пачнецца імпрэза, таму трэба спяшацца ў «Шалёны напой», дзе яе ўжо павінны былі чакаць сяброўкі.

Яна імкліва рушыла ўбок аўстэрыі, мінаючы людзей, якія раней за яе сышлі з плошчы. Не зважаючы на іх, Красуня працягвала думаць пра крумкачоў. Яна таксама абагнала і Вандроўніка з Валацугам. Хлопец вырашыў, што менавіта зараз, калі ніхто і нішто не перашкаджае ім

пазнаёміцца, ён мусіць прыпыніць яе. Але стары дзівак адчуў настрой дзяўчыны і перахапіў руку сябра, які пацягнуўся да пляча Красуні. Валацугу быў добра вядомы стан, калі навокал нічога не існуе, акрамя ідэі, якую трэба здзейсніць як мага хутчэй. Здзейсніць, пакуль яна песціць твой розум, які ў любы момант можа вырашыць, што атрымаў дастаткова ласкі і прагоніць прэч надакучлівую панну. А тая ўжо ніколі не вернецца.

— Хутка, але не зараз, — сказаў ён Вандроўніку, кінуўшы на таго позірк, якога было дастаткова, каб пераканаць хлопца пачакаць яшчэ крыху.

Красуня ўляцела ў аўстэрыю і, нават не павітаўшыся з сяброўкамі, паднялася да сябе ў пакой. Яны кінуліся следам, але дзяўчына зачынілася, сказаўшы, што хутка пакліча іх. Карчмар, які стаміўся адказваць на пытанні, калі ўжо пачнецца імпрэза, пагрукаў у дзверы Красуні. Яна адчыніла і сказала, што амаль гатова, папрасіўшы прыёмнага бацьку прывесці да яе сябровак.

Валацуга і Вандроўнік ужо паспелі вярнуцца. Яны занялі месцы і таксама чакалі пачатку імпрэзы, замовіўшы вячэру. Праз некаторы час Красуня спусцілася ў залу. Яна была апранутая ў чорную сукенку, якую ўпрыгожвала цёмна-бэзавая кветка. Дзяўчына папрасіла ў гасцей выбачэння і падзякавала ім за цярплівасць, пасля чаго загучала музыка.

Гляджу на цябе я,
Мой мілы крумкач.
І сэрца гаруе,
У ім толькі плач.

Гаруе таму, што
Зайздросціць табе,
Што крылы ты маеш,

Аднак і ў журбе
Ты дом не пакінеш,
Не здольны ўцячы,
Бо любяць Радзіму
Сваю крумкачы.

Пазыч мне цярплівасць,
Хачу, як і ты,
Быць вечна ў гуморы
І верыць заўжды:
Няма лепей месца,
Чым родненькі край,
Якому ніколі
Не скажаш: бывай!

# Раздзел X

## Пра тое, як канцлеры дамовіліся пабудаваць мур вакол Таўна

На пачатку кожнага месяца новыя канцлеры збіраліся ў Старым палацы, каб абмяркоўваць прапановы і выбіраць адну з іх, якая ў хуткім часе стане законам. Магістр не браў удзелу ў гэтых нефармальных пасяджэннях, таму астатнія прадстаўнікі Рады былі вольны выказваць нават самыя смелыя ідэі, не баючыся, што іх асудзяць.

— Трэці раз за апошнія чатыры дні мы збіраемся тут. Магу паспрачацца: ты ў каханак радзей бываеш, — Чырвоны канцлер паспрабаваў пажартаваць з Белага.

— Добра, калі ёсць да каго завітаць, бо саромецца трэба, калі няма, — задаволена адказаў той.

— Досыць! Хіба мы ў шынку якім? — Жоўты канцлер адразу прыпыніў размову, якая мела шанец ператварыцца ў сварку. — Лепей прапануйце штосьці. Калі мы сёння не вырашым, што рабіць далей, я дакладна страчу розум, бо

за апошнія некалькі дзён гэтае месца абрыдла мне аж да смерці. Таму, калі вы не хочаце, каб у Радзе з'явіўся яшчэ адзін вар'ят, давайце рабіць справу, а не балбатаць. Я абяцаю, што ў адваротным выпадку мы з Магістрам не дадзім вам спакойна дыхаць.

У прадстаўніка Усходу быў своеасаблівы гумар, але гэтым разам ён трапіў дакладна. На тварах канцлераў з'явілася ўсмешка.

— Добра, — пачаў Белы. — Як ты дамогся такога выдатнага выніку адносна падатку на бяздзетнасць? Кажуць, у тваім бора амаль усе станоўча прынялі новы закон. Няўжо гэта адбылося толькі таму, што людзі з твайго асяроддзя пераканалі насельніцтва?

— Гэта асноўная прычына, але не кожны народ з задавальненнем пераймае ідэі тых, хто ім кіруе. Паглядзі на заходні бора. Там трэба штосьці рабіць, бо падчас наступнага Вольнага схода яго жыхары не падтрымаюць нас. Ды і сярод твайго насельніцтва шмат хто адмоўна ўспрыняў новы артыкул.

— Так, мы ўжо паспелі абмеркаваць гэта з Чырвоным канцлерам і вырашылі, што нам трэба пабудаваць мур вакол Таўна.

Вочы Жоўтага акругліліся. Чорны, які ўвесь час меланхалічна глядзеў у вакно, ажывіўся і перавёў позірк на Белага.

— А дзе яны будуць браць ежу? — запытаўся прадстаўнік Усходу.

— Мы зробімся пасярэднікамі паміж фермамі і Таўнам. Пабудуем на мяжы гандлёвыя пункты. Кожны з бора будзе прадаваць толькі вызначаныя тавары: хтосьці муку, хтосьці свініну, хтосьці малако і гэтак далей. Прыбытак пойдзе ў казну Рады.

— А што рабіць, калі жыхар Таўна захоча сысці з Вольнага горада?

— Выпусцім яго! Чым менш гэтых вальнадумцаў, тым лепей. Глядзіш, хутка ад Таўна нічога не застанецца. Я ў адрозненне ад некаторых, — Белы Канцлер кіўнуў убок Чорнага, намякаючы на яго колішнюю прапанову змяніць артыкул аб шлюбе, — не супраць свабоды, але цывілізаванае грамадства памірае, калі яе робіцца зашмат. Жыхары Таўна не ведаюць межаў, яны з'яўляюцца пагрозай для ўсіх нас, але мы не можам іх выгнаць, бо ў нас няма для гэтага падстаў, таму мы вымушаны адгарадзіцца ад іх.

— Маеш рацыю, — пагадзіўся прадстаўнік Захаду.

— Сёння ў Таўне я пачуў небяспечныя словы, — працягнуў Белы канцлер. — На рынкавай плошчы каля памоста сабраўся натоўп, людзі слухалі дзяўчыну, якая казала, што жыхары Вольнага горада павінны зноў жыць разам, як гэта было да з'яўлення бора. Што ганебныя законы, якія ўхвалілі новыя канцлеры, павінны быць скасаваны. Што падмуркам гэтага краю павінна зноў стаць адзінства, як таго калісьці хацелі Заснавальнік і Магістр. Было відавочна, што яна не разумее таго, што менавіта гэтыя людзі разам са старымі канцлерамі не так даўно паставілі пад пагрозу існаванне горада. Але не гэтыя словы занепакоілі мяне больш за ўсё, бо колькі таго дзявочага розуму?

— Хіба толькі кветкі ды хлапцоў лічыць, — адказаў Чорны канцлер, прамовіўшы первыя словы падчас сустрэчы.

— Так, — прадстаўніка Усходу збілі з думкі, але ён хутка ўспомніў, што хацеў сказаць і працягнуў: — Больш за ўсё мяне занепакоіў яе заклік аб'яднацца ў невялікія гурткі, каб няспынна распавядаць жыхарам усіх бора нейкую там праўду і залучаць іх да сумеснай працы, мэтай якой з'яўляецца абранне іншых канцлераў падчас наступнага Вольнага схода, а таксама скасаванне ўсіх нашых законаў!

— Што?! — упершыню ў сваім жыцці зароў Жоўты канцлер. — Гэта недапушчальна!

— Таму мы і хочам пабудаваць мур, — дадаў Чырвоны.

— І зрабіць гэта будзе не складана, — з хітрай усмешкай сказаў Белы, — бо Статут не забараняе будаваць муры. А гэта значыць, што нам не трэба дамаўляцца з Магістрам, каб ухваліць закон.

— І ўвогуле ніякага закона не будзе, — працягнуў Жоўты канцлер.

— А калі так, то ніхто яго і не адменіць, — дадаў Белы.

— Што зробіць мур недатыкальным, — закончыў Чырвоны.

Сябры Рады, якіх спачатку напужалі словы прадстаўніка ўсходняга бора пра тое, што нейкая дзяўчына заклікае пазбавіць іх улады, хутка ўзрадаваліся, зразумеўшы, што гэтую дзяўчыну можна схаваць за мур, за якім яе ніхто не пачуе.

— Добрая ідэя, але ў мяне ёсць адна ўмова, — гэтыя словы Чорнага канцлера былі настолькі нечаканыя, што астатнія са здзіўленнем і нават невялікай трывогай паглядзелі на яго.

— Якая? — ледзьве дыхаючы, запытаўся Жоўты.

— Вы ведаеце, што мой народ вельмі паслухмяны і што наўрад ці дзяўчына нанясе яму шкоду. І насамрэч мне няма аніякага сэнсу ўзводзіць мур. Але ж мы ўсе зацікаўлены ў тым...

— Добра, — не вытрымаўшы, перапыніў Чырвоны канцлер. — Проста скажы: што ты хочаш?

— Мой народ не будзе ў гэтым удзельнічаць. Вы самі і за свой кошт пабудуеце мур з нашага боку.

— Напужаў жа ты! — з палёгкай выдыхнуў Белы канцлер. — Абяцаю: з гэтым не будзе ніякіх праблем.

Астатнія таксама пагадзіліся з умовай прадстаўніка паўднёвага бора...

...Але праблемы ўзніклі. І хутка. Частка будаўнікоў Белага бора адмовілася працаваць над мурам нават за заробак, утрая вышэйшы. Яшчэ горшай сітуацыя была на Захадзе, дзе амаль ніхто не пагадзіўся браць удзел у будаўніцтве. На дапамогу прыйшоў Жоўты канцлер і яго паплечнікі. Яны заўпэнілі значную частку свайго насельніцтва ў тым, што мур з'яўляецца пачаткам новай эпохі ў жыцці Вольнага горада. Што ён адначасова і сімвал адзінства, бо ў яго будаўніцтве ўдзельнічаюць усе, акрамя вальнадумцаў з Таўна, і сімвал самабытнасці кожнага бора, бо згодна з канчатковым планам мур павінен аддзяліць адну ад адной усе часткі горада. Менавіта гэта і прывяло да з'яўлення дэвіза новых канцлераў «Розныя народы аднаго горада», які яны пачалі супрацьстаўляць першапачатковай ідэі стварэння «адзінага народа з вялікай колькасцю каранёў».

Нягледзячы на ўсе намаганні, праца ішла марудна. Не хапала людзей. Будаўнікі з Жоўтага бора дапамагалі на Поўначы і на Захадзе, але амаль нічога не рабілі на сваёй тэрыторыі. У Чорным бора былі добраахвотнікі, якія спачатку задарма працавалі ў сябе, а потым зразумелі, што ідэя — гэта добра, але грошы — значна лепш. Таму яны таксама вырашылі пайсці туды, дзе прапанавалі высокія заробкі.

Будаўніцтва суправаджалася пастаяннымі пратэстамі, якія ладзілі жыхары Таўна. Яны не наважваліся руйнаваць мур, бо, паводле Статута, за наўмыснае прычыненне шкоды чалавек павінен сысці з горада. Таму яны проста імкнуліся пераканаць будаўнікоў у тым, што тыя робяць памылку, падтрымліваючы новых канцлераў. Час ад часу да пратэстоўцаў прыслухоўваліся, але вельмі рэдка.

Ва ўсіх бора таксама жылі тыя, хто не хацеў з'яўлення сапраўдных межаў у Вольным горадзе. Аднак амаль ніхто з гэтых людзей не ўдзельнічаў у пратэстах, бо баяўся асуджэння з боку суседзяў і канцлераў.

Аднойчы ў прадстаўніка Чорнага бора з'явілася ідэя, якая павінна была прывесці да паскарэння будаўніцтва мура. Склікаўшы Раду на нефармальнае пасяджэнне, ён адразу папярэдзіў, што распавядзе пра яе толькі пры адной умове.

— Зноў ты са сваімі ўмовамі! — нервова сказаў Чырвоны канцлер.

— Без умоў не бывае пагадненняў, — адказаў Чорны.

— Чаго ты на гэты раз хочаш? Не марнуй наш час! — запытаўся Чырвоны.

— Я жадаю ўсталяваць ідала. І хачу, каб вы не перашкаджалі мне развіваць уласны культ.

Канцлеры не паверылі пачутаму. Іх усіх падтрымлівалі патрыярхальныя колы, але нават яны разумелі, што для некаторых людзей чужыя ідалы — адны з самых моцных раздражняльнікаў у свеце. І таму, каб пазбегнуць няўхільнага кровапраліцця, ніхто і ніколі ў Вольным горадзе нават і не марыў пра тое, каб узводзіць статуі ці будаваць капішчы. Шмат у каго дома можна было знайсці маленькіх балваноў, аднак гэта не было забаронена, бо кожны сам вырашае — пакланяцца звышнатуральным істотам ці не. У любым выпадку, гэта справа інтымная, і займацца ёй трэба не перад чужымі вачамі.

— Ты што, дурны? Ці не ведаеш, да чаго гэта прывядзе?! — крычаў Чырвоны канцлер.

— Ды старога трэба будзе неяк пераканаць, бо Статут забараняе ўсталёўваць ідалаў на вуліцы і ў публічных памяшканнях. Ты ж сам гэта добра ведаеш, — прадстаўнік Усходу, як заўсёды, быў стрыманы.

— Магістр, нават паміраючы, не пагодзіцца на гэта, — дадаў Белы.

— У Статуце напісана, што публічна нельга ўшаноўваць старых ідалаў, але там нічога няма пра новых.

— Новых? — здзіўлена запытаўся Жоўты канцлер.

— Што ты вярзеш?! — усё ніяк не мог супакоіцца Чырвоны. — Я не збіраюся ўдзельнічаць у гэтым, нават калі нам прыйдзецца будаваць мур хоць дзесяць гадоў.

— Без мура вы столькі не пратрымаецеся, — з іранічнай усмешкай сказаў Чорны. — Я б мог усталяваць новага ідала і без вашай згоды, але тады вы пачалі б перашкаджаць мне развіваць уласны культ. Справы трэба вырашаць разам. Таму я хачу, каб вы паабяцалі мне, што ніколі не будзеце рабіць перашкод. Нагадаю, што я пагадзіўся падтрымаць ваш нікчэмны падатак на бяздзетнасць, нягледзячы на тое што толькі ў маім бора няма праблем з колькасцю насельнікаў. Я не стаў супярэчыць, калі вы прапанавалі пабудаваць мур вакол Таўна, ад якога мне няма ніякай карысці. Я нічога не сказаў, калі вы часова адхілілі маю прапанову выправіць артыкул аб шлюбе, але мог бы спрачацца. Таму калі зараз я не атрымаю згоду на ўсталяванне новага ідала, то вы, па-першае, не даведаецеся, як паскорыць будаўніцтва мура, па-другое, наўрад ці прыміце хоць бы яшчэ адзін закон і, па-трэцяе, будзеце мець справу не толькі з новым культам, але і з тым, што яго паслядоўнікі будуць варожа ставіцца да ўсіх, акрамя прадстаўнікоў паўднёвай часткі свету.

Жоўты канцлер заўважыў, што Чырвоны быў гатовы выбухнуць, таму адразу прапанаваў яму сціхнуць, нагадаўшы, што менавіта яго бора самы праблемны. Прадстаўнік Захаду стрымаўся, але так моцна сціснуў кулакі, што пазногці разадралі скуру на далонях. Жоўты разумеў, што Чорны мае рацыю і што ў дадзеным выпадку ён абыграў іх усіх.

— Добра, — сказаў Жоўты, — што гэта за ідал?

— Мой уласны ідал. Я хачу бачыць, як людзі ўшаноўваюць яго. Хачу ведаць, што яны любяць мяне.

— Гэта будзе помнік? Помнікі таксама забаронены.

Заснавальнік лічыў, што любы помнік патэнцыйна з'яўляецца першым крокам да стварэння культу, таму ў Статуце было пазначана, што Вольны горад павінен быць свабодным ад помнікаў, нават калі некаторыя выдатныя дзеячы цалкам заслугоўваюць іх. Найлепшыя помнікі для пісьменнікаў, музыкаў і мастакоў — іх творы. Для дойлідаў — іх будынкі. Для акцёраў — іх выявы ў тэатрах. Для грамадскіх дзеячаў — іх законы ў Статуце. Увогуле для ўсіх выбітных людзей — згадкі ў летапісах.

Але Чорны канцлер здолеў адшукаць пралазу ў артыкуле аб ідалах і помніках. Заснавальнік і Магістр нават уявіць сабе не маглі, што Вольны горад калі-небудзь стане месцам нараджэння новага культу, таму ў Статуце было пазначана, што нельга ўсталёўваць старых ідалаў, каб не ўзбуджаць архаічныя пачуцці людзей, і што нельга будаваць помнікі ў гонар людзей, каб не справакаваць з'яўленне культу. Аднак нічога не было напісана пра стварэнне новага культу і ўсталяванне новага ідала, чым і прагнуў скарыстацца Чорны канцлер, распрацаваўшы нават уласную міфалогію.

— Гэта будзе статуя з маім абліччам, хвастом і чатырма лапамі — не помнік чалавеку і не стары ідал.

— І што ты, шэльма, дасі нам узамен? Што гэта за чароўная ідэя? Будаўнік з чатырма рукамі? — запытаўся Чырвоны канцлер, які паспеў трохі супакоіцца, алё дагэтуль быў узбуджаны.

— Раней, да таго, як з'явіліся грошы, — пачаў прадстаўнік Чорнага бора, — жыхары горада дапамагалі адзін аднаму, а па сутнасці дапамагалі гораду. Але рэформа скасавала артыкул аб узаемадапамозе.

— І ты хочаш яго вярнуць? — перапыніў Чырвоны канцлер. — Вось гэта ідэя! Што людзі будуць мець з гэтага?

— Змоўкні! — нарэшце не вытрымаў Жоўты. — Калі ты працягнеш паводзіць сябе, як дурань, мы будзем вымушаны зняць цябе з пасады.

Чырвоны канцлер паглядзеў на Белага і Чорнага. Па іх рашучым позірку ён зразумеў, што яны падтрымаюць Жоўтага, як і новаабраныя сенатары заходняй часткі свету. Менавіта за імі будзе апошняе слова ў гэтым пытанні, і яны з задавальненнем здымуць з пасады чалавека, які нечакана яе заняў. Тых жа, хто выступіць супраць, хутка перакананаюць патрыярхальныя колы, якія адразу прапануюць незадаволеным новага лідара. Што тычыцца Магістра, то спадзявацца на яго падтрымку бессэнсоўна.

— Прабач, працягвай, — кінуў Чырвоны ўбок Чорнага.

— Я прапаную ўхваліць новы артыкул, згодна з якім кожны пяты рабочы дзень павінен быць днём, калі ўсе жыхары горада працуюць на яго карысць, выконваючы распараджэнні Рады. Такім чынам, мы даможамся таго, што ўсе, хочуць яны таго ці не, возьмуць удзел у будаўніцтве мура. А калі адмовяцца — сыдуць з горада.

— Цікавая прапанова, — сказаў Жоўты канцлер. — Але што будуць есці людзі, калі ўсе карчмары і кухаркі пойдуць будаваць мур?

— Я склаў пяць спісаў, размеркаваўшы ўсе прафесіі. Па адным спісе на кожны рабочы дзень. Дзякуючы гэтаму на будаўнічых пляцоўках ніколі не ўзнікне штурханіны. А гэта значыць, што людзі будуць дапамагаць, а не перашкаджаць адзін аднаму. Да таго ж масавае будаўніцтва будзе весціся на працягу пяці дзён, а не аднаго. Шынкі, корчмы і аўстэрыі адпаведна з іх памерамі я таксама падзяліў на пяць спісаў, таму ніхто не будзе галадаць.

— Сапраўды добра, — ухвальна кіўнуў галавою Белы канцлер, — але вам не падаецца, што гэта падобна да нявольніцтва?

— Насамрэч, — прадстаўнік Усходу падтрымаў калегу.

— Не, — усміхнуўся Чорны, — гэтыя працы будуць аплачвацца.

— Адкуль Рада возьме столькі грошай? — разгублена запытаўся Жоўты. — Хто нам іх дасць?

— Той, хто кіруе манетным дваром... — апошняе слова засталося за Чырвоным канцлерам.

# Раздзел XI

## Пра тое, як Красуня пазнаёмілася з Вандроўнікам

Калі Красуня скончыла імпрэзу, падчас якой выканала песню пра крумкачоў, яна адразу ж паднялася да сябе ў пакой. Вандроўнік быў расчараваны: ён зноў не здолеў пазнаёміцца з дзяўчынай, якая ўсё больш і больш захапляла яго.

— Ну вось, а ты казаў — пачакай, — хлопец з дакорам паглядзеў на Валацугу.

— Не хвалюйся, лёс любіць цярплівых, — вочы дзівака заблішчэлі.

— Гэта вам.

Вандроўнік быў так засмучаны, што не заўважыў, як да яго падышла адна з сябровак Красуні. Трохі саромеючыся, яна паклала каля хлопца запіску і, ціхенька смеючыся, хутка рушыла да выхаду.

— Што гэта? — разгублена запытаўся Вандроўнік.

— Хіба ж я ведаю, — з шырокай усмешкай адказаў Валацуга. — Чытай хутчэй, вельмі цікава!

Хлопец разгарнуў невялікую паперу, на якой прыгожым круглявым почыркам было напісана, каб ён прыходзіў заўтра апоўдні на рынкавую плошчу Таўна.

— Дзіўнае месца для спаткання. А можа, яна цябе трохі пабойваецца? Ты ж, глядзі, які агромністы, як дзве яе! — засмяяўся дзівак.

— Насамрэч, цікавае месца, — задуменна адказаў Вандроўнік.

Наступным днём, падыходзячы да рынкавай плошчы, хлопец заўважыў, што каля памоста, з якога ўчора распавядалі пра падатак на бяздзетнасць, зноў сабраўся натоўп. Гэтым разам асоба выступоўцы моцна здзівіла Вандроўніка. Гэта была Красуня, якая, нягледзячы на сваю мініяцюрнасць, цалкам запоўніла вялікую прастору пляцоўкі. Яна пераходзіла з месца на месца, жэстыкулявала і вельмі натхнёна распавядала пра тое, што кожны павінен зрабіць свой унёсак у справу вызвалення Вольнага горада ад новых канцлераў і ад іх ганебных законаў. Даўгія рудыя валасы дзяўчыны ярка блішчэлі на сонцы, а сама яна была такая разгарачаная, што здавалася, нібы гэта не чалавек прамаўляе з памоста, а бязлітасны агонь, гатовы знішчыць усіх ліхадзеяў.

Непадалёку ад натоўпу, які спачатку ўважліва слухаў Красуню, а пасля гучна падтрымліваў кожны яе заклік, на кані сядзеў чалавек, у якім Вандроўнік адразу ж пазнаў Белага канцлера. Прадстаўнік Поўначы з цікавасцю сачыў за дзяўчынай, а пасля таго, як яна скончыла, быў адзіным, каму не спадабаўся яе выступ. На абліччы канцлера квітнеў жах, які змусіў яго як мага хутчэй накіравацца да Старога палаца, дзе неўзабаве пачыналася нефармальнае пасяджэнне Рады.

Вандроўнік чакаў Красуню на тым самым месцы, дзе ўчора еў яблыкі Валацуга. Яна адразу заўважыла хлопца і, ўсміхаючыся, падышла да яго.

— Ты неверагодная дзяўчына, — з захапленнем сказаў ён.

— А ў цябе смешны нос, — весела адказала яна, дакрануўшыся акуратным пальчыкам да кончыка яго носа, які трохі нагадваў бульбу.

Спачатку яны доўга размаўлялі пра музыку. Пасля Красуня распявала пра тое, якім быў Вольны горад у час старой Рады. Таксама яна расказала некалькі гісторый, якія пачула ад сваіх сапраўдных бацькоў. Пра тое, як яны юнымі змагаліся на барыкадах, а калі даведаліся пра Вольны горад, то вырашылі скласці зброю. Яна ўпэўнена, што ваяваць трэба словам, і вельмі ўдзячная бацькам за тое, што ў свой час яны прынялі правільнае рашэнне. Яна лічыць, што людзей трэба пераконваць, прыводзячы ім прыклады, робячы зразумелыя параўнанні і задаючы пытанні — адказваючы на іх, чалавек сам зразумее, што ён памыляўся.

А потым Красуня сказала, што ёй трэба вяртацца ў аўстэрыю, каб дапамагчы Карчмару і Гаспадыні, а таксама падрыхтавацца да чарговай імпрэзы, на якую яна запрасіла Вандроўніка. І ён, натуральна, прыйшоў. Як і прыходзіў на ўсе наступныя, нягледзячы на тое што хутка ўладкаваўся на адной з фермаў, дзе знайшоў добрую працу, а таму кожны раз быў вымушаны хадзіць у Таўн і назад пешшу. Калі гаспадар фермы даведаўся, куды і чаму штовечар знікае Вандроўнік, ён дазволіў хлопцу браць каня.

Скватара любілі і ставіліся да яго з павагай. Ён быў з тых, хто пераконваў людзей, якія збіраліся пакінуць Вольны горад, што на раўніне добра жыць, бо тут у адрозненне ад узгорка дагэтуль пануе адзінства. Вандроўнік хутка ўпэўніўся ў тым, што гаспадар фермы мае рацыю.

Валацуга працягваў жыць у «Шалёным напоі». Ён пачаў наведваць адмысловую навучальную ўстанову, дзе рыхтавалі акцёраў. Там плацілі невялікую стыпендыю, але дзіваку было дастаткова гэтых грошай. Ён па-ранейшаму

меў кудлатую бараду і кашлатыя валасы, аднак набыў новую вопратку, бо старая амаль рассыпалася ўшчэнт. Разам з Вандроўнікам яны не толькі былі гасцямі імпрэз, якія ладзіла Красуня, але таксама дапамагалі ёй падчас пратэстаў. Хлопец працаваў на ферме, таму рэдка ўдзельнічаў у іх, бо ў рабочыя дні меў вольны час толькі ўвечары. Валацуга, чые заняткі пачыналіся апоўдні, наадварот, кожную раніцу імкнуўся пераканаць будаўнікоў у тым, што мур — ганебная з'ява.

Дзіваку вельмі падабалася сачыць, як разгортваюцца стасункі паміж яго сябрам і Красуняй. Ён амаль нічога не казаў, але заўсёды глядзеў на закаханых з пяшчотай. Пасля кожнай імпрэзы яны ўсе разам абмяркоўвалі апошнія навіны. Аднойчы да іх нечакана далучыўся Карчмар. Ён меў збянтэжаны выгляд. Яго рукі трэсліся, а вочы бегалі тудысюды.

— Татачка, што здарылася? — занепакоена спытала Красуня.

— Ды жонка мая, відаць, з глузду з'ехала. Мо ідалы якія яе апанавалі? Кідае посуд і крычыць, што хутка ўсіх жыхароў Вольнага горада прымусяць мур будаваць...

# Раздзел XII

## Пра тое, як у Вольным горадзе з’явіўся новы культ

Ідэя з рабочым днём на карысць горада прыйшлася даспадобы канцлерам. Нават Чырвоны прызнаў яе, шчыра папрасіўшы прабачання ў прадстаўніка Чорнага бора, якому дазволілі развіваць уласны культ. Што ён з задавальненнем і пачаў рабіць.

Чорны канцлер даўно ўзяўся за распрацоўку міфалогіі. Згодна з ёй ён нарадзіўся ў далёкай краіне, на самай ускраіне паўднёвай часткі свету, і з’яўляўся апошнім прадстаўніком святога роду, чыімі прашчурамі былі змеі — самыя мудрыя істоты ў свеце. Ён быў упэўнены, што здолее даказаць гэта людзям дзякуючы невялікаму хвасту ўнізе спіны. На працягу ўсяго жыцця гэты рудымент быў праклёнам Чорнага канцлера, але зараз ён мог прынесці свайму гаспадару вялікую карысць. Пра хвост ведалі толькі бацькі небаракі, якія ніколі не жылі ў Вольным горадзе, а таксама адна гаротніца, якая, убачыўшы хвост, так моцна спужалася, што адразу памерла ад страху. Пасля гэта-

га трагічнага выпадку Чорны канцлер больш ніколі не меў любоўных стасункаў.

Легенда апавядала, што ўсе яго супляменнікі былі забіты народамі, якія жылі побач. Тыя вельмі баяліся сваіх пачварных суседзяў і лічылі, што ўнутры іх сядзіць злы дух. Аднойчы яны вырашылі зусім знішчыць людзей, якія, на іх думку, маглі нанесці ім шкоду. Напад быў раптоўны, нікому не пашчасціла збегчы. Маці Чорнага канцлера, якая ў той момант хадзіла цяжарнай ім, пабегла ў лес, але яе хутка нагналі і забілі ўдарам па патыліцы. Тыя, хто гэта зрабіў, былі ўпэўнены, што дзіця загінула разам з ёй. Аднак гэта быў святы лес, дзе жылі змеі, з якімі народ Чорнага канцлера меў вельмі моцную сувязь. Змеі дапамаглі дзіцяці нарадзіцца, а потым выгадавалі яго.

Каб даказаць, што змеі разумеюць яго, а ён іх, Чорны канцлер планаваў сысці на некаторы час у лес непадалёк ад гарадскіх муроў. У сябе на радзіме ён працаваў заклінальнікам змеяў і добра ведаў, як трэба сябе з імі паводзіць. Гэта была вельмі рэдкая прафесія, таму канцлер не хваляваўся, што хтосьці яшчэ з Вольнага горада валодае ёю. Прадстаўнік паўднёвага бора разлічваў злавіць у лесе некалькі змеяў і прынесці іх у горад, каб потым дэманстраваць жыхарам так званую сувязь з прашчурамі.

Чорны канцлер разумеў, што культ доўга не праіснуе, калі ён не прапануе людзям нешта, што назаўсёды захопіць іх. Ён вырашыў падаваць змяю не толькі як самую мудрую істоту ў свеце, але і як сімвал здароўя і дабрабыту. Таму найвышэйшай узнагародай для паслядоўнікаў культу Чорнай змяі стала бясконцае жыццё праз перараджэнне душы — унікальнай матэрыі, якую чалавек набывае пасля ініцыяцыі. Чым больш паслядоўнік улагоджвае ідала і галоўнага жраца, тым лепшае будзе яго наступнае жыццё.

У кожным кульце, прызначаным ашукаць як мага больш людзей, таксама павінен быць запалохвальны фактар, а лепш — некалькі. У паўднёвага канцлера іх было тры. Па-першае, толькі паслядоўнікі Чорнай змяі маюць душу, а гэта значыць, што кожны, хто не прызнае культ, страчвае надзею жыць вечна. Па-другое, калі паслядоўнік здраджвае культу і адмаўляецца ад яго, ён асуджае сваю душу на вечныя пакуты: з кожным новым перараджэннем яго жыццё будзе рабіцца толькі горшым. Па-трэцяе, калі яго родныя таксама далучаны да культу, то яго здрада асуджае і іх на вечныя пакуты. Людзям уласціва ахвяраваць сабой дзеля тых, каго яны любяць. І гэтым трэба было скарыстацца.

У першую чаргу Чорны канцлер прагнуў не грошай, а ўвагі да сябе. Таму ён хацеў, каб яго — як галоўнага жраца — і яго ідал увесь час улагоджвалі песнямі, танцамі, малітвамі і падарункамі. Чым багацей — тым лепей. Таксама ён вырашыў дадаць спіс абавязкаў, стандартны для шматлікіх культаў: не забі, не скрадзі, не ашукай і гэтак далей — усё тое, што жыхары Вольнага горада ўжо выконваюць.

Каб назаўсёды пасяліцца ў галовах паслядоўнікаў, мінімальнай патрэбай, якую павінен выконваць кожны з іх, была абрана штодзённая малітва. Зачытваць яе трэба штораз пасля абуджэння, павярнуўшыся тварам на поўдзень. Да месца, дзе з’явіўся на свет заснавальнік культу — апошні прадстаўнік святога народа змей.

Як выявілася потым, Чорны канцлер прадбачыў адно важнае пытанне, якое яму задавалі напачатку: чаму культ узнік зараз, а не тады, калі ён прыйшоў у Вольны горад ці ўвогуле за яго межамі? Адказ быў просты: памятаючы, што вузкалобыя плямёны знішчылі яго род, ён хацеў падараваць вечнае жыццё тым, у каго няма прымхаў, бо выключна яны гэтага вартыя. А, як вядома, паслы Магістра вы-

даюць запрашэнні толькі такім людзям. Атрымліваецца, Вольны горад — самае лепшае месца для заснавання культу Чорнай змяі. Зрабіў жа ён гэта не адразу, як трапіў сюды таму, што пільна прыглядаўся да жыхароў гэтага краю, бо баяўся памыліцца. І выйшаў з ценю толькі тады, калі канчаткова зразумеў, што мае давер да тутэйшых людзей.

Зацвердзіць культ трэба было тэрмінова. Канцлеры ўвесь час падштурхоўвалі свайго калегу, таму што прагнулі як мага хутчэй пабудаваць мур. Прадстаўнік паўднёвага бора адмаўлялся ўхваліць праект, які ён прапанаваў Радзе, пакуль яго ўласны не пачне працаваць як трэба. Дзякуючы таму, што Чорны канцлер марыў стварыць культ на працягу ўсяго жыцця, ён правёў вельмі добрую падрыхтоўчую працу, і канцлерам не давялося доўга чакаць.

Заснавальнік культу Чорнай змяі меў ва ўласнасці вялікі будынак, які хутка быўператвораны ў свяцілішча, дзе жылі святары і дзе ён дэманстраваў сувязь са змеямі. Таксама ў яго ўжо быў ідал, якога яму калісьці зрабіў адзін з паплечнікаў і якога ўвесь час хавалі ў гэтым самым будынку. Статую ўсталявалі на плошчы каля свяцілішча. Гэта быў высокі, памерам з трох чалавек, бязрогі бронзавы ідал з абліччам Чорнага канцлера, змяіным хвастом і чатырма лапамі, адна з якіх залатая. Разам гэтыя лапы ўвасаблялі ўсе часткі свету. Зразумела, залаты колер дастаўся роднаму краю заснавальніка. Нягледзячы на тое што Поўдзень відавочна займаў пануючае становішча, культ быў даступны ўсім. Гэта не вельмі спадабалася астатнім канцлерам. Яны не хацелі, каб насельнікам іх бора тлумілі галовы, аднак мусілі саступіць, баючыся ўзнікнення варожасці паміж жыхарамі розных частак горада. Гэтая саступка была на карысць Чорнаму, бо ён марыў аднойчы зрабіць свой культ асноўным для ўсіх, хто жыве ў Вольным горадзе.

Людзі паўднёвага бора станоўча ўспрынялі з'яўленне новага культу. Спачатку частка паплечнікаў Чорнага канцлера, якія ператварыліся ў святароў, прапаведавалі толькі на сваёй тэрыторыі, але гэтага было дастаткова, каб ужо праз тыдзень адбылася першая ініцыяцыя. Сотні людзей былі гатовыя забыць старых ідалаў, бо прапанова новага падавалася вельмі прывабнай: хто не хоча жыць вечна, да таго ж і добра? Сярод першых паслядоўнікаў знайшліся нават і тыя, хто раней не меў у сваім сэрцы бога.

Не прыпыніла людзей і тое, што далучыцца да культу маглі толькі нежанатыя. Чорны канцлер не страціў надзеі вярнуць шлюбу традыцыйны лад, калі муж займае пануючае становішча, а жонка падпарадкоўваецца яму. Ён рызыкнуў і не прагадаў. Былі сем'і, якія разваліліся, таму што адзін з сужэнцаў не хацеў мяняць сваё жыццё. Аднак хапала і тых, што спачатку разводзіліся, разам далучаліся да культу, а потым зноў браліся шлюбам. Гэтым разам — у адпаведнасці з культам Чорнай змяі. Такія мужчыны пачыналі насіць адмысловы чорна-зялёны бранзалет у выглядзе перакручаных змеяў, а жанчыны — чорна-зялёную хустку з вышытай выявай гэтых істот.

Што тычыцца працэсу ініцыяцыі, то ён быў даволі просты: трэба выпіць кубак чырвонага віна, куды дабаўлены кропля змяінай крыві і кропля крыві галоўнага жраца, ды адказаць на пытанне, ці адчувае чалавек, як у яго целе з'яўляецца душа. Зразумела, усе адказвалі, што адчуваюць, а пазней нават параўноўвалі, хто і што адчуваў у гэты неверагодны для іх момант.

Пабачыўшы, колькі народу збіраецца далучыцца да культу, Чорны канцлер зразумеў, што не хоча даваць сваю кроў, бо пачаў баяцца, што калі не зараз, то абавязкова ў будучыні гэта можа дрэнна для яго скончыцца. Таму ён вырашыў сказаць, што працэс сцэджвання крыві галоўна-

га жраца з'яўляецца сакральным і ніхто не павінен бачыць, як гэта адбываецца. Зрабіўшы надрэз на руцэ, Чорны канцлер запэўніў усіх, што ў чашы, якую з яго пакояў вынес адзін са святароў, — святая кроў народа змей, але насамрэч там была кроў свінні, якую засмажылі для ўрачыстай вячэры.

Каб надаць працэсу містычнасці, кроў змяі сцэджвалі непасрэдна з целаў няшчасных істот, якіх забівалі на вачах у будучых паслядоўнікаў культу. На шчасце Чорнага канцлера, у лесе каля Вольнага горада жыло шмат змей.

Кожны, хто прагнуў далучыцца да культу, спачатку падыходзіў да вялікага катла і кубкам зачэрпваў з яго віно. Пасля ішоў да святара, каб атрымаць кроплю змяінай крыві. І нарэшце — да галоўнага жраца, які маленькай лыжачкай намагаўся пляснуць кроплю нібыта сваёй крыві ў кубак ашуканага небаракі. Пасля гэтага Чорны канцлер пытаўся, ці адчувае той з'яўленне душы ў целе, і, атрымаўшы станоўчы адказ, абвяшчаў чалавека паслядоўнікам культу Чорнай змяі.

Ахвотнікаў было шмат, таму ініцыяцыя цягнулася марудна. Аднак прадстаўнік паўднёвага бора разумеў, што аднойчы ўсё гэта зробіць яго настолькі магутным, што нават Рада будзе мець меншы ўплыў, чым ён...

...Каб трапіць у Таўн, Вандроўніку трэба было праехаць праз Чорны бора. Скончыўшы працу на ферме, ён сеў на каня і, як звычайна штовечар, рушыў да «Шалёнага напою». Гэтым разам па дарозе да аўстэрыі яго чакала неверагодная дзея. На адной з вуліц, праз якую заўсёды ехаў хлопец, праводзіліся будаўнічыя працы, і яна была часова перакрытая. Таму Вандроўнік мусіў праехаць менавіта праз тую плошчу, дзе размешчана свяцілішча Чорнага канцлера. Наблізіўшыся да яе, хлопец адмовіўся верыць сваім

вачам. Ён спешыўся і падышоў бліжэй, каб пільна разгледзець тое, што тут адбываецца.

Пасярэдзіне плошчы стаяў вялікі ідал. Вакол яго, голасна зачытваючы малітвы, на каленях поўзалі людзі. Як старыя, так і маладыя. Як жанчыны, так і мужчыны. Іх словы зліваліся ў моцны гул. Хтосьці прыпыняўся і пачынаў плакаць, хтосьці падпаўзаў да ідала і цалаваў яго ці пяшчотна абдымаў. Усё гэта нагадвала хаатычны мурашнік, за якім з балкона свайго свяцілішча з усмешкай назіраў Чорны канцлер. Час ад часу ён кідаў уніз штосьці маленькае, пасля чаго людзі, б'ючыся ілбамі, кідаліся да месца, куды звалілася рэч, каб падняць яе і пакласці ў кішэню.

— Ці не жадаеце даведацца болей пра культ Чорнай змяі? — за спінай Вандроўніка раптоўна пачуўся лагодны голас.

# Раздзел XIII

## Пра тое, як Валацуга дапамагаў будаваць мур

Новы культ меў поспех не толькі ў паўднёвым бора, але і сярод усіх жыхароў Вольнага горада. Плёткі хутка разнеслі навіну пра яго з'яўленне. Адусюль да свяцілішча прыходзілі людзі, дзе іх спаткалі святары, якія добра выконвалі сваю працу. З кожным днём ахвотнікаў далучыцца было ўсё больш і больш. У пастку трапілі нават колькі чалавек з Таўна.

Першыя паслядоўнікі атрымлівалі блаславенне ад галоўнага жраца, дакранаючыся ці цалуючы яго хвост. Пасля гэтага яны ішлі і распавядалі ўсім астатнім, як адчуваюць, што іх неўміручая душа, якую яны займелі дзякуючы культу, расце з кожным новым дотыкам да апошняга прадстаўніка святога народа змей ці да яго ідала.

У святароў не было патрэбы ў тым, каб прапаведаваць на фермах і ў суседніх бора, таму што людзі самі прыходзілі да іх. Гэта вельмі падабалася Чорнаму канцлеру, і, пабачыўшы, што яго задума спрацавала, ён хутка паставіў

подпіс пад артыкулам аб працоўным дні на карысць горада. Заставалася толькі перакапаць Магістра. Канцлеры былі ўпэўнены, што са старым зноў давядзецца ваяваць.

— Колькі сілы волі ў гэтага чалавека, — здзіўляўся Жоўты. — Амаль кожны на яго месцы перастаў бы змагацца з хваробаю, якая відавочна паглынае яго ўсё больш і больш. Аднак стары нават і не думае прыпыняць барацьбу. Да таго ж яшчэ і нам увесь час перашкаджае.

— Калі ён зразумее, навошта мы прасоўваем гэты закон, то хутчэй памрэ, чым ухваліць яго. Памятаеце, колькі было крыку, калі ён даведаўся, што мы загадалі пабудаваць мур? Я гатовы патрываць яшчэ трохі, але пры ўмове, што гэта будзе яго апошняя істэрыка, — зласліва сказаў Чырвоны канцлер.

— Не нясі лухты, — Жоўты з дакорам паглядзеў на прадстаўніка Захаду.

— Вы ж самі ведаеце, наколькі прасцей было б без старога, — не жадаў спыняцца Чырвоны.

— Не, ну насамрэч, хопіць! — Белы канцлер падтрымаў Жоўтага.

У той момант у Галоўную залу ўвайшоў Магістр. Ён быў у добрым гуморы, што не вельмі спадабалася канцлерам. Чорны распавёў яму ідэю новага артыкула і з хваляваннем, як і ўсе астатнія, чакаў рэакцыі.

— Нарэшце добрая ідэя! — сказаў стары. — Пасля грашовай рэформы людзі сапраўды аддаліліся адзін ад аднаго. Спадзяюся, гэты закон верне Вольнаму гораду хоць бы частку адзінства, якую ён страціў пасля вашага абрання.

— Мы таксама на гэта спадзяемся, — ліслiва прамовіў Жоўты канцлер.

Магістр узяў пяро і пацягнуўся рукою да аркуша, аднак спыніўся, уважліва паглядзеўшы на кожнага, хто стаяў побач. Убачыўшы добразычлівую ўсмешку на твары прад-

стаўніка Усходу, якую той вельмі ўдала імітаваў, стары таксама ўсміхнуўся і паставіў подпіс.

— Зараз прынясу пячатку, — сказаў ён і выйшаў.

— Я амаль што абамлеў, калі ён зазірнуў мне ў вочы, — цяжка дыхаючы, вымавіў Белы канцлер...

...Частка насельнікаў адмоўна сустрэлі закон аб працоўным дні на карысць горада. Адбылася чарговая хваля сыходу. Аднак большасць паставілася да яго абыякава. Галоўнае, казалі такія людзі, што плацяць грошы, ды і гораду трэба дапамагчы.

Прыняцце гэтага артыкула прывяло да таго, што ўпершыню за ўсю гісторыю Вольнага горада некалькі людзей былі выгнаны пасламі Магістра. Фермеры варожа ўспрынялі закон. Яны лічылі, што не павінны яго выконваць, бо і так ўвесь час працуюць на карысць краю. Яны казалі, што не могуць на цэлы дзень пакінуць гаспадарку і не збіраюцца гэтага рабіць. Калі ім нагадалі, як яны раней дапамагалі іншым жыхарам горада, фермеры адказалі, што рабілі гэта добраахвотна, а не прымусова. У выніку, як гэта заўсёды бывае, значная большасць вырашыла не выпрабоўваць лёс, аднак былі і тыя, хто пайшоў да канца, паплаціўшыся за гэта.

Рада не стала дараваць парушальнікам і загадала выгнаць іх з горада. Толькі Магістр заклікаў даць яшчэ адзін шанец гэтым людзям. Але яго хутка пераканалі, скарыстаўшыся прыступам невыноснага галаўнога болю, які зноў пачаў мучыць старога. У Рады не было аніякага сумневу ў тым, што гэтае выгнанне павінна прадэманстраваць яе моц, каб кожны жыхар ведаў, што невыкананне законаў мае свае наступствы. Пасля гэтага выпадку новыя канцлеры страцілі амаль усю падтрымку фермераў. Сярод жыхароў раўніны засталася толькі невялікая частка тых, хто

выступіў на баку Рады. Вядома, што ў любым статку заўсёды будзе некалькі нядбайных авечак...

...У адпаведнасці са спісам Чорнага канцлера сталася так, што Валацуга і Вандроўнік дапамагалі будаваць мур у адзін дзень. Яны былі супраць апошняга закона, аднак верылі, што яго скасуюць падчас наступнага Вольнага схода. Хлопец працаваў неахвотна, але добрасумленна. І, увогуле, пасля таго, як ён даведаўся пра культ Чорнай змяі і паразмаўляў са святаром, яму нават пачало падавацца, што мур — не такая ўжо і дрэнная справа. Бо чым менш уплыву будзе мець гэтая брыдота, тым лепей.

Дзівак жа, наадварот, увесь час рабіў выгляд, што ў яго нічога не атрымліваецца, бо ён не здатны да такой працы. Валацуга псаваў рэчы рознымі спосабамі. Вандроўнік нават пачаў жартаўліва называць яго панам Бязрукім. Калі дзівак чуў гэта, ён адразу ж хаваў рукі ў кішэні і цягам нейкага часу намагаўся ўсё рабіць пры дапамозе ног. Атрымлівалася не вельмі добра, таму ён псаваў яшчэ больш рэчаў. Будаўнік, адказны за ўчастак, на якім дапамагалі Валацуга з Вандроўнікам, бачыў гэта, але трываў да апошняга. Аднойчы ён усё-ткі падышоў да дзівака і зрабіў яму заўвагу.

— Мы тут не для таго, каб дурнотай усялякай займацца! — пачаў будаўнік. — Калі працягнеш псаваць рэчы, я мушу давесці пра гэта Радзе, каб яна пакарала цябе. Хіба не чуў, што людзей нават з горада выганяюць?

— А чым мы тут займаемся? — запытаў Валацуга.

— Будуем мур!

— А навошта?

— Каб кожны жыў так, як хоча.

— Хіба ў Вольным горадзе да абрання новых канцлераў хтосьці жыў пад прыгнётам?

Будаўнік задумаўся. Ён глядзеў на Валацугу, які хадзіў туды-сюды ўздоўж мура. Дзівак рабіў гэта акуратна, стараючыся не зваліцца.

— Злезь! — незадаволена загадаў будаўнік, не ведаў, што яшчэ сказаць.

— Ты не адказаў на маё пытанне, — вочы Валацугі заблішчэлі.

— Не, не жыў! — нервова кінуў будаўнік. — Злезь, я табе кажу!

— Тады навошта мы будуем мур?

— Не ведаю, так трэба! Мне плацяць — я працую. Табе таксама плацяць, вось ты і працуй!

— Я заўсёды хацеў мець свойскую птушку, — сказаў Валацуга, паглядзеўшы на неба ды раскінуўшы рукі ў бакі. — Можа, ты пагодзішся стаць маёй свойскай птушкай? — Ён перавёў позірк на будаўніка і дадаў: — Я буду табе плаціць, а ты будзеш сядзець у клетцы.

— Якая цудоўная прапанова! — Вандроўнік смеючыся падтрымаў дзівака.

Будаўнік канчаткова разгубіўся. Ён глядзеў то на Валацугу, то на яго сябра. Ён не мог зразумець, чаму яны пачалі гаварыць пра птушак.

— Халера з табой! Калі звалішся, ён цябе да лекара панясе, — пакрыўджана сказаў будаўнік, паказаўшы ўбок хлопца.

— Паляцела птушачка. Хоча быць вольнай, — Вандроўнік паглядзеў услед мужчыну, які, сыходзячы, пачаў нешта бурчаць.

— Але не будзе, бо хоць яна і лётае, розум яе за кратамі, — Валацуга зноў паглядзеў на неба.

Дзівак не паслухаўся будаўніка і працягнуў псаваць рэчы. Ён выпускаў іх з рук, клаў пад ногі, каб хто-небудзь наступіў і зламаў, ці сам чапляўся за іх, робячы выгляд, што

гэта адбылося выпадкова. Урэшце ён раззлаваў будаўніка, які зноў накіраваўся да сяброў. Калі Валацуга ўбачыў, што да яго паспешліва набліжаецца раз'юшаная постаць, ён, рагочучы, кінуўся бегчы. Дзівак быў немалады, аднак ногі меў спрытныя. Будаўнік інстынктыўна кінуўся за ім, хоць у гэтым не было ніякага сэнсу.

Зразумеўшы, што сябру патрэбна дапамога, Вандроўнік непрыкметна штурхнуў лесвіцу, якая, зваліўшыся, перагарадзіла будаўніку дарогу. Той вылаяўся і крочыў назад, але хутка прыпыніўся, павярнуўся і рушыў убок Вандроўніка.

— Наступным разам я прывяду сюды Белага канцлера, і ты распавядзеш яму ўсё, што ведаеш пра гэтага шалёнага сабаку, — пагрозліва сказаў будаўнік.

— Але ж ён нічога дрэннага не зрабіў, — хлопец заступіўся за Валацугу.

— Ён сапсаваў процьму розных рэчаў!

— Дык ён табе ўвесь час казаў, што не здатны да такой працы, — усміхнуўшыся, сказаў Вандроўнік.

— Шэльма!

— Чаго ты ўз'еўся на няшчаснага дзівака? Не бачыш, што ў яго розум не на сваім месцы? Пра птушак нешта распавядае, — хлопец падумаў, што калі ён выставіць Валацугу вар'ятам, то будаўнік адчэпіцца ад таго.

Аднак Вандроўнік памыліўся. Наступным разам да мура прыехаў Белы канцлер і некалькі яго паплечнікаў. Яны адшукалі будаўніка, які прывёў іх да Вандроўніка.

— Вось яго сябар! Ён павінен ведаць, дзе гэты шкоднік жыве.

Белы канцлер паглядзеў на Вандроўніка і адразу ж пазнаў яго. Сэрца прадстаўніка паўночнага бора пачало страшэнна калаціцца, бо ён ведаў, што зараз можа адбыцца непрыемнасць. Таму ён вырашыў зрабіць выгляд, што не ведае гэтага чалавека:

— Вітаю! Ці не падкажыш, калі ласка, дзе можна знайсці твайго сябра?

— А я цябе ведаю! — рэзка сказаў Вандроўнік. — Гэта ты адлупцаваў дзівака каля Палаца Волі і збег, калі пабачыў, што я спяшаюся яму на дапамогу!

Будаўнік здзіўлена паглядзеў на канцлера. Кожны, хто калісьці атрымаў запрашэнне, ведаў, што гвалт з'яўляецца парушэннем, за якое выганяюць з горада. Прадстаўнік Рады зноў быў на крок ад таго, каб страціць прытомнасць. Ён трохі пахіснуўся, але здолеў утрымацца ў сядле. Белы разумеў, што трэба хутка штосьці адказаць. Ён пачаў смяяцца, павярнуўся да сваіх паплечнікаў і паглядзеў на іх, даючы зразумець, што яны павінны падтрымаць свайго гаспадара. Тыя таксама пачалі смяяцца. Да іх дадаўся і будаўнік. Ён не разумеў, што адбываецца, аднак інстынктыўна вырашыў заняць бок таго, хто мае ўладу.

— Прабач, — праз смех сказаў канцлер, — але ты памыляешся. Усе добра ведаюць, як я стаўлюся да Палаца Волі і што мяне нават бізуном да яго не загоніш.

— Тым самым бізуном, якім ды адлупцаваў безабароннага чалавека? — Вандроўнік не хацеў адступаць.

Белы канцлер пахмурнеў. Ён адчуваў сябе вельмі важным і не любіў, калі простыя людзі пярэчаць ці ставяць пад сумнеў ягоныя словы. Менавіта гэта было прычынай таго, што ён увесь час мяняў каханак. Да ніводнай з іх ён не ставіўся з павагай, таму яны неўзабаве сыходзілі, вымушаючы прадстаўніка паўночнага бора шукаць новую ахвяру. Ён бы з вялікім задавальненнем адлупцаваў і Вандроўніка, аднак зараз таго не мог зрабіць.

— Калі ты працягнеш казаць глупствы, я мушу абвінаваціць цябе ў паклёпе, — з сур'ёзным выразам твару сказаў канцлер. — Справа можа дайсці нават да таго, што цябе выганяць з горада.

— І гэта дакладна адбудзецца, калі ты не скажаш, дзе жыве твой сябар-шкоднік, бо ў такім выпадку ты зробішся яго хаўруснікам, — дадаў адзін з паплечнікаў.

— А калі я насамрэч не ведаю, дзе ён жыве?

— Не кажы лухты! — далучыўся да размовы будаўнік. — Мінулым разам вы не адыходзілі адзін ад аднаго. Хлопцы, якім вы дапамагалі, таксама распавялі, што вы ўвесь час абмяркоўвалі імпрэзы, на якіх разам прысутнічаеце штовечар. Даю руку на адсячэнне, ты ведаеш, дзе ён жыве!

— Добра, — цяжка ўздыхнуўшы, сказаў Вандроўнік, — шукайце яго ў аўстэрыі «Шалёны напой», што ў Таўне, непадалёк ад Чырвонага бора.

— Іншая справа, — на твары Белага канцлера ўзнікла задаволеная ўсмешка. — Паехалі, хлопцы! Трэба выманстачыць гэтага шкодніка з яго прытулку.

— Спадзяюся, ты паспеў развітацца са сваім звар'яцелым сябрам, бо ў гэтым горадзе ты яго больш ніколі не пабачыш, — сказаў будаўнік, які адчуваў сум, але не мог зразумець чаму.

# Раздзел XIV

## Пра тое, як Чырвоны канцлер пазнаёміўся з Красуняй

Прадстаўнік Захаду рэдка перасоўваўся па горадзе на кані. Яму падабалася ездзіць у экіпажы, бо ён лічыў, што заможныя людзі, якія пачалі з'яўляцца пасля грашовай рэформы, павінны дэманстраваць усім астатнім свой стан. Такой самай думкі прытрымліваўся і Белы канцлер, да якога зараз ехаў Чырвоны. Аднак ён больш любіў не прыгожыя экіпажы, а дарагі парфум і шыкоўнае адзенне, пры дапамозе якога было проста ўразіць легкадумных дзяўчат.

Чырвоны збіраўся даведацца пра тое, як прасоўваецца будаўніцтва мура, абмеркаваць далейшыя планы, а таксама пачуць, чым скончылася справа шкодніка, які псаваў рэчы.

Пасля таго як Рада ўхваліла артыкул аб працоўным дні на карысць горада, канцлеры дамовіліся, што спачатку будзе пабудаваная тая частка мура, якая адгароджвае Белы і Чырвоны бора ад Таўна і фермаў. Потым надыдзе чарга

Жоўтага, і апошнім будзе Чорны. Тыя ж часткі, што павінны адмежаваць бора адзін ад аднаго, кожны з іх пабудуе ўласнымі сіламі, а не разам, бо гэта не з’яўляецца прыярытэтам. Чорны канцлер увогуле быў упэўнены, што не трэба праводзіць межаў паміж бора, бо ў гэтым няма ніякага сэнсу. Але ён не здолеў пераканаць астатніх, таму зноў вырашыў саступіць.

Белы канцлер быў адзіным, хто лічыў, што часткі мура паміж бора таксама важныя. Ён не хацеў, каб да яго прыходзіла шмат святароў культу Чорнай змяі, якія пакрысе пачалі прапаведаваць не толькі на сваёй тэрыторыі, а таксама жадаў як мага хутчэй адгарадзіцца ад заходняга бора, які быў самы вальнадумны пасля Таўна. Прадстаўнік Поўначы хацеў націснуць на Чырвонага канцлера, каб той падтрымаў яго прапанову разам будаваць абсалютна ўсе часткі мура і адмяжоўваць бора адзін ад аднаго, таксама пачаўшы з Чырвонага ды Белага.

Каб дамагчыся свайго, Белы канцлер імкнуўся запужаць Чырвонага тым, што менавіта заходняя тэрыторыя, якая мяжуе з паўднёвым бора, будзе першай, куды неўзабаве масава рынуць святары культу Чорнай змяі. Каб пазбегнуць гэтага, часткі мура паміж бора трэба будаваць талакой, бо так будзе шпарчэй.

Чырвоны канцлер здагадваўся пра тое, якую прапанову яму рыхтуе Белы, і ведаў, што той мае рацыю. Чорны канцлер не хацеў ніякіх межаў паміж бора не таму, што ў яго, як ён лічыў, самы паслухмяны народ, гатовы выканаць усё загаданае, а менавіта праз тое, што мур паміж бора стане вялікай перашкодай на шляху распаўсюджвання культу Чорнай змяі.

Праязджаючы рынкавую плошчу Белага бора, Чырвоны канцлер убачыў натоўп, які сабраўся каля памоста. Гэта Красуня праводзіла чарговы мітынг, заклікаючы ўсіх, як

яна казала, сапраўды вольных людзей супрацьстаяць новай Радзе, распаўсюджваючы праўду пра ганебныя законы новых канцлераў.

Прадстаўнік Захаду загадаў прыпыніцца, бо шмат разоў чуў пра рудавалосую дзяўчыну, якая не баіцца выказваць свайго меркавання, але ніколі яе не бачыў. Ён паслухаў выступ да самага канца і, калі Красуня сышла з памоста, накіраваўся да яе. У яго было змяшанае пачуццё захаплення і нянавісці. З аднаго боку, ён хацеў авалодаць ёю, з другога — прымусіць пакутаваць.

— Цудоўны выступ, — наблізіўшыся, сказаў Чырвоны канцлер. — Шкада толькі, што праўды ў ім мала, бо артыкулы новай Рады прыносяць гораду карысць, а не шкоду.

— Мяне прыйшоў паслухаць сам пан Чырвоны канцлер! — з усмешкай сказала Красуня. — Спадзяюся, не расчаравала, бо калі б ведала, што такі госць завітае, тады ўтрая мацней старалася б.

— А ты не толькі разумная, але і дзіўная трохі, — прадстаўнік заходняга бора таксама ўсміхнуўся.

— То, можа, пан хацеў даведацца чаго ці запытаць што? Бо я спяшаюся і мне трэба хутка сыходзіць.

— Я магу адвезці цябе куды пажадаеш, — сказаў канцлер паказаўшы ўбок экіпажа.

— О, якая неверагодная цаца! А хіба мы можам у ёй разам паехаць? Бо неяк непрыстойна маладой дзяўчыне сядаць у адзін экіпаж разам з незнаёмым мужчынам.

— Дык я таму і хачу падвезці, каб пазнаёміцца. Ці далёка ехаць? Дзе ты жывеш?

— Усё пану цікава! Жыву ў Таўне, побач з бора, дзе пан уладу мае. Можа, пан ведае аўстэрыю «Шалёны напой»?

— Чуў, што ёсць такая, але сам ніколі там не быў.

— Міласці просім! — сказала Красуня. — Аднак зараз мне трэба далёка ехаць — на адну з фермаў, што каля

возера. Там травы растуць, якія матуля для варкі выкарыстоўвае. Таму, прабач, пан, спяшаюся.

— Калі не хочаш разам ехаць, дык я загадаю, каб экіпаж адвёз цябе куды трэба. А сам на каня аднаго з паплечнікаў перасяду ды паеду справы вырашаць.

— А паплечніка куды пан дзене?

— Пешшу дахаты пойдзе.

— А хіба пан не стоміцца на кані ехаць? Відаць, прызвычаіўся да экіпажа. Ды і цяжка да такога не прызвычаіцца. Прыгожы які!

Чырвоны канцлер разумеў, што Красуня пацяшаецца з яго. Зараз перад ім была не тая дзяўчына, што колькі імгненняў таму прыцягвала да сябе сотні вачэй і распавядала такія рэчы, якія не кожны быў здольны адразу зразумець. Прадстаўнік Захаду быў вельмі праніклівы чалавек. Ён зазіраў у вялікія зялёныя вочы дзяўчыны і бачыў у іх толькі агіду да яго. Але яна ніводным словам, ніводным рухам і ніводным позіркам не прадэманстравала гэтага. Зараз яна адыгрывала ролю сарамлівай дурніцы, якая адначасова і хоча, каб ён да яе заляцаўся, і не.

— Добра, тады я абавязкова завітаю да вас у «Шалёны напой». Калі верыць чуткам, там вельмі прыгожа спявае адна дзяўчына, — напрыканцы ён вырашыў падыграць ёй.

— Што пан такое кажа! Але, вядома ж, прыязджайце, і абавязкова ў гэтай прыгожанькай карэце, — Красуня зразумела, што Чырвоны канцлер выкрыў яе, аднак гульню трэба было давесці да канца.

— Дамовіліся, — адказаў ён, усміхнуўшыся.

— Ну, тады я пайшла, — сказала яна, бліснуўшы вачамі на развітанне.

Прадстаўнік Захаду рушыў да экіпажа. Ён сеў унутр і задумліва паглядзеў Красуні ўслед. Праз некалькі імгненняў

Чырвоны канцлер зрабіў знак рукой аднаму са сваіх паплечнікаў. Той адразу ж наблізіўся да гаспадара.

— Я хачу, каб ты няспынна сачыў за ёй. Я хачу ўсё ведаць пра гэтую падлу. Ты мяне чуеш?

— Так, — адказаў хлопец.

# Раздзел XV

## Пра тое, як Рада стварыла дружыну

Пасля знаёмства з Красуняй Чырвоны канцлер адразу накіраваўся да Белага. Калі ён прыехаў у палац, то даведаўся, што прадстаўнік паўночнага бора знаходзіцца зараз у Таўне і што ён загадаў неадкладна склікаць пасяджэнне Рады, а таксама папрасіў, каб Чырвоны быў у Старым палацы як найхутчэй.

Вылаяўшыся на свайго калегу, Чырвоны канцлер накіраваўся ў Таўн. Калі ён прыехаў, то пабачыў, што ў Галоўнай зале паспелі сабрацца ўсе, акрамя яго. Быў тут і Магістр. Стары засяроджана пра штосьці думаў, таму было цяжка зразумець, які ў яго настрой.

— Ну, нарэшце! — сказаў Белы канцлер. — Давайце пачынаць!

— Навошта ты неадкладна склікаў Раду? Хіба нельга было дачакацца наступнага пасяджэння? — незадаволена запытаў Чырвоны.

— Навошта гэтыя сцэны? — Белы з дакорам паглядзеў на прадстаўніка Захаду. — Ты ў любым выпадку ехаў да мяне. І спазніўся. Цікава даведацца чаму?

— Мы тут сабраліся справы вырашаць ці глядзець, як дурні сварацца? — злаcлівая манера Магістра, які нечакана перапыніў канцлераў, казала пра тое, што сёння ён не ў гуморы.

— І сапраўды, панове, — падтрымаў старога Жоўты канцлер. — Навошта мы сюды сёння прыехалі?

— Добра, — пачаў прадстаўнік Поўначы. — Спачатку я хацеў бы расказаць, чым скончылася справа шкодніка, які сапсаваў багата рэчаў, калі нібыта дапамагаў будаваць мур. Вынік кепскі. Мы даведаліся, што ён жыве ў аўстэрыі «Шалёны напой»...

— Цікава, — раптоўна вырвалася ў Чырвонага канцлера.

Усе здзіўлена паглядзелі на яго.

— Ты хочаш нешта сказаць? Ці штосьці ведаеш? Бо калі не, тады не перапыняй! — незадаволена сказаў Белы.

— Пакуль што не. Распавядай, калі ласка, — на твары прадстаўніка Захаду з'явілася загадкавая ўсмешка.

— Дык вось, — працягнуў Белы канцлер. — Мы прыехалі ў гэты «Шалёны напой» ды запыталіся ў гаспадара, ці ведае ён кашлатага няголенага дзівака, які рагоча, калі трэба і калі не.

— Прабач, — сказаў Жоўты, — ці гэта не той вар'ят, якога ты адлупцаваў каля Палаца Волі?

— Відаць, што той. І я вас папярэджваў, што нічога добрага чакаць ад яго не трэба!

— І што адказаў гаспадар аўстэрыі? — далучыўся да размовы, нецярпліва запытаўшы, прадстаўнік Поўдня, якому пасля стварэння культу Чорнай змяі канчаткова абрыдлі справы Рады і які жадаў, каб пасяджэнне хутчэй скончылася.

— Ён адказаў, што ведае гэтага дзівака і што той на працягу некаторага часу здымаў пакой, але раптоўна знік некалькі дзён таму і больш ніхто яго не бачыў. Таксама мы

дазналіся, што дзівак наведвае адмысловую навучальную ўстанову для падрыхтоўкі акцёраў...

— А ён уражвае, — з усмешкай сказаў Жоўты канцлер.

— Мы паехалі туды, — працягнуў Белы, — але нам і там сказалі, што яго не было ўжо некалькі дзён. Тады я вырашыў, што трэба распытаць мясцовых жыхароў. Выявілася, што шмат хто бачыў гэтага дзікуна, аднак ніхто асабіста яго не ведае.

— Гэта ўсё цікава, але не варта таго, каб склікаць Раду, — зноў перапыніў Чырвоны.

— Не рабі з мяне дурня! — не вытрымаў Белы.

— Ты сам яго з сябе зрабіў, калі неадкладна выклікаў нас сюды, — прадстаўнік Поўначы, думкі якога былі толькі пра ўласны культ, вырашыў падтрымаць Чырвонага канцлера.

— Я склікаў Раду таму, што хачу прапанаваць стварыць дружыну, якая будзе сачыць за парадкам у горадзе! — палка вымавіў Белы. — А таксама займацца вышукам злачынцаў, бо хто яго ведае, на што яшчэ здольны гэтыя жабракі?!

Магістр, які сядзеў на сваім звычайным месцы, нечакана грукнуў кулаком па стале, прыцягнуўшы да сябе ўвагу. Потым ён падняўся і падышоў да дзвярэй, зласліва сказаўшы:

— Вы іх напладзілі, вы з імі і разбірайцеся!

Стары выйшаў. Некалькі імгненняў у Галоўнай зале была цішыня, якую парушыў Жоўты канцлер:

— Будзем лічыць, што такім чынам ён выказаў нам свой давер у гэтай справе.

Усе ўсміхнуліся.

Падчас абмеркавання было вырашана, што дружына будзе складацца з двухсот сарака чалавек — па сорак на кожную частку горада. Яе ўзначаліць ротмістр, якому будуць

дапамагаць шэсць капітанаў. Усе яны падпарадкоўваюцца Радзе і маюць права самастойна прымаць рашэнні толькі тады, калі сітуацыя патрабуе неадкладна гэта зрабіць.

Каб хутка сфарміраваць дружыну, было вырашана павесіць ва ўсіх заезных дамах горада аб'явы з заклікам прыходзіць на адбор. Паспрабаваць свае сілы мог любы, аднак неафіцыйныя патрабаванні да кандыдата былі наступныя: мужчына ад шаснаццаці да дваццаці сямі гадоў, высокі і дужы.

Аднак спачатку трэба было прызначыць ротмістра. Яму давалася магчымасць самастойна выбраць капітанаў з той мэтай, каб тыя непасрэдна заняліся адборам. Першага кіраўніка дружыны шукалі сярод людзей, што да таго, як трапіць у Вольны горад, мелі дачыненне да вайсковай справы. Дзякуючы спісам жыхароў, складзеным пасламі Магістра, высветлілася, што ў горадзе амаль няма былых вайскоўцаў. Тое было зразумела, улічваючы ўмовы атрымання запрашэння.

Амаль страціўшы надзею адшукаць чалавека, які б задаволіў усіх сяброў Рады, яны па-ранейшаму лічылі, што, каб заставацца пры ўладзе, усе пытанні трэба вырашаць разам. Нарэшце высветлілася, што сярод прадстаўнікоў патрыярхальных колаў ёсць кандыдат, які цалкам задавальняе ўсіх. Ён не патрапіў у спіс таму, што быў не вайскоўцам, а лекарам у арміі. Даведаўшыся, што Рада шукае чалавека на пасаду ротмістра, ён сам прапанаваў свае паслугі, пераканаўшы ўсіх, што мае патрэбны досвед, бо «шмат чаго бачыў і шмат што ведае».

Першы Ротмістр Вольнага горада быў чалавек жвавы, заўсёды ўсміхаўся і добра ставіўся да людзей. Высокі, з круглым жыватом і чырвоным тварам, ён быў падобны да мужчынаў, чые выявы ўпрыгожваюць галерэі раскошных палацаў далёкіх краін. Ён лічыў, што капітаны павінны

быць прадстаўнікамі той часткі горада, дзе ў хуткім часе яны пачнуць сваю працу. Аднак у Таўне і на фермах не існавала патрыярхальных груповак, а гэта значыла, што там не было людзей, якім Ротмістр мог бы цалкам давяраць. Таму ён мусіў прызначыць у гэтыя часткі горада капітанаў, да якіх мясцовыя жыхары адразу паставіліся падазрона.

Ротмістр загадаў, каб пры адборы капітаны таксама кіраваліся тэрытарыяльным прынцыпам. Але і ў іх неўзабаве ўзніклі складанасці, бо насельнікі Таўна і асабліва фермаў, дзе заўсёды спакойна, не разумелі, навошта ствараць дружыну ў горадзе, у якім ніколі не было злачынцаў. Рада аддала загад, каб капітаны не прытрымліваліся тэрытарыяльнага прынцыпу ў дачыненні да Таўна і фермаў. Але Ротмістр настойваў на сваім і ўрэшце дамогся таго, што канцлеры нечакана саступілі.

Рада паабяцала дружыннікам высокія заробкі, а таксама вызваленне ад падатку на бяздзетнасць і ад удзелу ў працоўным дні на карысць горада. Толькі дзякуючы гэтым паслабленням у Таўне і на фермах былі створаныя часткі дружыны, якія цалкам складаліся з мясцовых хлопцаў. Але шмат хто называў іх здраднікамі, бо лічыў, што яны прадаліся Радзе.

Адным з тых, каго прынялі ў склад дружыны, быў Вандроўнік. Яму не было ніякай справы да паслабленняў, ён проста лічыў, што гэта цудоўная магчымасць для таго, каб выкрыць Белага канцлера. Хлопец разумеў, што зрабіць гэта будзе вельмі складана, аднак усё роўна вырашыў паспрабаваць. Спачатку Красуня адмоўна ўспрыняла гэтую навіну, але пабачыўшы, што Ротмістр не баіцца Рады, зразумела, што яе любы мае рацыю.

Калі ўсё было гатова, Белы канцлер склаў прамову, якую, як і ўсе папярэднія, зачыталі ва ўсіх частках Вольнага горада, а таксама ў лагеры.

## Прамова да артыкула аб стварэнні дружыны

*Спадарства! На працягу траціны стагоддзя наш край быў вольны ад злачынстваў. Але надышлі цяжкія часы, калі мы таксама сутыкнуліся з гэтай непрыемнай і непрымальнай з'явай. Гісторыя заўсёды рабіла выклік самым лепшым у свеце грамадствам. На жаль, значная большасць з іх не вытрымала выпрабаванняў і была вымушана сысці ў нябыт.*

*Аднак мы не такія! Мы здолеем выстаяць, таму што жыхары Вольнага горада не баяцца цяжкасцяў, якія прынесла за сабой няўдалая спроба старой Рады рэфармаваць наш блаславенны Статут. Вы добра ведаеце, што гэта прывяло да сыходу насельніцтва і да з'яўлення ў горадзе валацугаў і жабракоў.*

*Новая Рада ўсімі сіламі намагаецца выправіць становішча, але яно настолькі цяжкое, што адных толькі высілкаў канцлераў, якім дапамагаюць Магістр і яго паслы, больш недастаткова. Злачынцы руйнуць мур, які мы ўсе разам будуем. Злачынцы робяць напады на будаўнікоў, якія вымушаны бараніць сваё жыццё. Злачынцы не падпарадкоўваюцца артыкулам, якія забяспечваюць наш дабрабыт. Злачынцы ганьбяць законы, якія робяць наша жыццё лепшым. Злачынцы падбухторваюць простых жыхароў, якія насамрэч не хочуць браць удзел у вар'яцкіх справах. Злачынцы не паважаюць уладу, якая клапоціцца пра кожнага жыхара.*

*Апошнім часам занадта шмат злачыннасці з‘явілася на вуліцах Вольнага горада. А ці можа ён называцца вольным у такім выпадку? Не! Таму, каб вярнуць спакой у нашае любае месца, новая Рада была вымушана*

*шана стварыць дружыну, дзякуючы якой мы зноўку адчуем сябе свабоднымі людзьмі.*

*Свабоднымі ад злачынцаў, ад валацугаў і ад жабракоў, якія пагражаюць дабрабыту нашага шчаслівага грамадства!*

Тым часам у Вольным горадзе дагэтуль недзе хаваўся адзіны ў гэтым краі валацуга.

# Раздзел XVI

## Пра тое, як Валацуга трапіў за краты

Вандроўнік не выдаў Валацугу, калі распавёў Беламу канцлеру, дзе жыве дзівак. Хлопец сам прапанаваў сябру выехаць з «Шалёнага напою» і пасяліцца на ферме ў Скватара, які пагадзіўся прытуліць чалавека, да якога адразу адчуў павагу. Вандроўнік наўмысна падмануў прадстаўніка паўночнага бора, да апошняга робячы выгляд, быццам ён не хоча нічога казаць.

Гаспадар фермы, куды з'ехаў Валацуга, таксама быў супраць мура і асабліва супраць таго, каб людзей прымушалі яго будаваць, выдаючы гэта за «дапамогу гораду». Праз гэты закон Скватар страціў сябра, які быў сярод тых, каго выгналі за яго невыкананне. Уся маёмасць сябра нібы адышла гораду. Насамрэч ёю завалодала Рада, якая хутка і танна — калі ж гэта рабаўнік шанаваў іншых? — распрадала усё, што калісьці належала людзям, якія на працягу гадоў плённа і добрасумленна выконвалі сваю працу. Увесь прыбытак канцлеры паклалі сабе ў кішэню, назва якой — казна.

Скватар набыў былую ферму сябра, што знаходзілася побач. Хутчэй за ўсё, любы іншы пакупнік быў бы вельмі задаволены паспяховым набыткам, але не ён. Бо як можна радавацца гору іншых, асабліва калі гэты іншы — твой сябар?

Пашырэнне ўгоддзяў азначала, што Скватару патрэбны новыя рабочыя. Таму з'яўленне Валацугі ўдвая парадавала гаспадара фермы, бо насамрэч дзівак быў надта ўмелы і шмат чаго ведаў пра коней.

Дзякуючы таму, што Вандроўнік стаў дружыннікам, у хлопца з'явілася багата вольнага часу. Дружына амаль нічога не рабіла, таму што рабіць ёй сапраўды не было чаго. Розныя спрэчкі заўсёды здараліся ў Вольным горадзе, аднак іх вырашэннем займалася Рада. Злачынствы ж, пра якія напісаў у прамове Белы канцлер, былі ўсяго толькі вынікам дзейнасці яго розуму, схільнага да хлусні.

Карыстаючыся адсутнасцю працы, Вандроўнік амаль кожны дзень наведваўся на ферму, каб распавесці апошнія навіны ды плёткі. Валацуга не хацеў рызыкаваць, таму не падымаўся на ўзгорак і нават перастаў дапамагаць Красуні, якая з паразуменнем паставілася да гэтага. Так дзівак і даведаўся ад свайго сябра пра тое, што ў паўднёвым бора ўзнік культ Чорнай змяі. Хлопец хацеў расказаць пра яго яшчэ да пераезду Валацугі, аднак увесь час штосьці замінала яму гэта зрабіць. Згаданая падзея так занепакоіла дзівака, што ён на працягу некалькіх дзён толькі пра яе і думаў...

...Сёння Вандроўнік спяшаўся на ферму, як ніколі раней. Конь выбіваў зямлю капытамі, нібы ашалелы. Яшчэ адной добрай нагодай далучыцца да дружыны былі бясплатныя коні. Тыя, хто прыйшоў у Вольны горад да грашовай рэформы, называлі гэта здзекам. Бо да з'яўлення

манетнага двара ўсе карысталіся экіпажамі. А пасля за іх трэба было плаціць вялікія грошы. Таму той, хто меў каня, мог лічыць сябе амаль што заможным чалавекам.

Хлопец наблізіўся да хаты, дзе жыў Валацуга. Ён саскочыў з каня і, не прывязаўшы таго, імгненна забег у будынак, але адразу зразумеў, што дзівака тут няма. Вандроўнік спрытна вярнуўся ў сядло і пагнаў да Скватара, які ў гэты час павінен быў абедаць.

Сям'я фермера сядзела за сталом, які стаяў каля іх дома. Жонка гаспадара лічыла, што свежае паветра паляпшае апетыт, таму, калі гэта было магчыма, яна разам з дзецьмі і мужам ела на вуліцы. Маразы скончыліся і надвор'е дазваляла тое рабіць. Скватар заўважыў, як да іх хутка набліжаецца Вандроўнік. Ён устаў з-за стала, адпіў крыху хатняга віна, папрасіў прабачэння за нечаканага госця і накіраваўся ўбок хлопца. Гэтым разам той не забыў прывязаць каня.

— Вітаю! — сказаў Вандроўнік. — Ці не ведаеш, куды падзеўся Валацуга?

Скватар падышоў да хлопца і паціснуў яму руку.

— Ён прынёс нам печыва, якое сёння ранкам зрабіў разам з Бінай, і сказаў, што хоча паглядзець на ідала, што ўсталявалі ў Чорным бора. Думаю, яго трэба шукаць там.

— Халера! — Вандроўнік адразу кінуўся назад да каня.

— Што здарылася? — запытаўся разгублены Скватар.

— Рада вырашыла, што досыць дружыне гультаяваць, маўляў, надышоў час зрабіць штосьці карыснае. Белы канцлер успомніў пра Валацугу і загадаў, каб дружыннікі распыталіся ў тых, хто яго бачыў, як ён выглядае, ды зрабілі выяву. Зараз паперы з тварам дзівака развешаны па ўсіх заезных дамах. Кажуць, што Рада жадае распачаць паказальны працэс, каб зняважыць Валацугу. З горада не выгане, а пудзілам зробіць.

— Во ліха! На, трымай! — Скватар зняў з сябе цёплую кашулю і падаў яе Вандроўніку. — Няхай галаву прыкрые, бо яго ж нават з заплюшчанымі вачамі пазнаюць!

Хлопец узяў кашулю, падзякаваў гаспадару фермы і памчаўся на дапамогу сябру.

А той не ведаў, што яго шукаюць так, нібыта ён галоўны злодзей усяго чалавецтва, што схаваўся дзесьці ў непралазных мясцінах ды толькі і чакае таго, каб зноў каму-небудзь нашкодзіць. Валацуга адразу рушыў да плошчы, пасярод якой стаяў ідал. Дзівак быў настолькі ўзбуджаны, што не звяртаў увагі на тое, што адбываецца навокал.

Калі ён прыйшоў на плошчу, то ўбачыў тое самае, што і Вандроўнік у свой час. Людзі поўзалі на каленях вакол ідала, цалавалі яго, абдымалі і голасна чыталі малітвы, якія немагчыма было пачуць праз гул. Розніца была толькі ў тым, што на балконе стаяў святар, а не Чорны канцлер і проста назіраў за ўсім, што адбываецца на плошчы.

Валацуга наблізіўся да свяцілішча, павярнуўся тварам да плошчы, і пачаў прамаўляць:

— Хіба вы якая бяздомная жывёліна, што кідаецца пад ногі чалавеку, каб выкленчыць у яго ежу? Хіба вам было замала старых балваноў, што стаялі каля вашых ложкаў? Хіба вы адчувалі сябе пагана ў гэтым дзіўным краі? Хіба вам патрэбен гаспадар, як бацькі патрэбны немаўляці, каб тое змагло выжыць? Навошта вы ганьбіце сябе і тых, хто калісьці даў вам прытулак?

Паслядоўнікі Чорнага канцлера спыніліся. Спачатку яны падумалі, што гэта адзін са святароў рыхтуецца да казані, але калі зразумелі, што гэта не так, пачалі наракаць і збянтэжана глядзець адзін на аднаго.

Святар, які стаяў на балконе, зразумеў, што адбываецца нешта, чаго быць не павінна. Ён хутка спусціўся на першы паверх і паклікаў астатніх святароў, каб вырашыць, што

рабіць з дзіваком, які пагражае іх справе. Чорнага канцлера ў гэты час не было ў святыні, таму яго паплечнікі мусілі самі прыняць рашэнне.

Валацуга, заўважыўшы, што яго словы выклікалі ўвагу паслядоўнікаў культу, працягнуў:

— Калі вы не жадаеце прыслухоўвацца да мяне, дык паслухайце, што кажа старая легенда! У адной краіне, дзе дабрабыт людзей залежаў ад таго, як добра ўрадзіць кавалак зямлі, на якім яны жывуць і які ўрабляюць, вялі гаспадарку тры заможныя земляробы. Кожны з іх заўсёды меў добры ўраджай і ніколі ні ў чым не адчуваў патрэбы. Але аднойчы ў іх край прыйшла засуха. Ніхто з іх не ведаў, што рабіць, каб зберагчы пасевы. Час ішоў, усе чакалі дажджу. Першым не вытрымаў малады земляроб. Ён быў адным з тых, хто заўсёды дбае пра галечу і ніколі не адмовіць чалавеку, якому патрэбна дапамога. Усе навокал з вялікай павагай ставіліся да маладога земляроба. Аднак ён вырашыў, што калі перастане дапамагаць бедным ды ахвяруе ўсе свае багацці ідалу, то той праявіць літасць і пашле дождж. Малады земляроб паехаў да мора і выкінуў у яго ўсё, што меў. Ён разлічваў, што вада ўздымецца ў неба, каб хутка апусціцца назад на зямлю. Але дождж не пайшоў. Земляроб страціў павагу людзей, бо павёў сябе як вар’ят. Ён быў малады, таму пакутаваў праз сваё вар’яцтва яшчэ доўгі час. Дык навошта вы, як і малады земляроб, вар’яцееце, каб дагадзіць ідалу? Як і ён страціў павагу людзей, так і вы яе страціце!

Валацуга заўважыў, што яго словы не спадабаліся натоўпу, які дагэтуль стаяў укленчыўшы. Нараканні паслядоўнікаў Чорнага канцлера рабіліся ўсё гучнейшыя, але гэта не спыніла дзівака:

— Другім не вытрымаў стары земляроб, які лічыў, што самае дарагое ў яго жыцці — яго адзіны сын. Ён вырашыў,

што калі прынясе ў ахвяру самое дарагое, што ў яго ёсць, ідал злітасцівіцца і пашле дождж. Ён загадаў сыну паехаць разам з ім да мора, у якім і ўтапіў хлопца, пакінуўшы цела хвалям. Калі земляроб вярнуўся дахаты, ён сказаў сваім суседзям, што сын загінуў. Але дождж усё роўна не пайшоў. Стары земляроб страціў свайго адзінага сына і больш ніколі не меў іншага. Дык навошта вы, як і стары земляроб, ахвяруеце самае дарагое, што ў вас ёсць — ваш розум? Ён у вас адзіны, як адзіным быў і сын старога земляроба. І як ён загінуў дарэмна, так дарэмна загіне і ваш розум!

Некаторыя людзі з натоўпу пачалі падымацца з каленаў. Яны павольна набліжаліся да Валацугі, які адчуваў страх, але вырашыў расказаць легенду да канца:

— Трэці заможны земляроб проста чакаў. Ён ведаў, што рана ці позна зноў пойдзе дождж. І не памыліўся. Частка яго пасеву загінула, аднак ён збярог павагу і розум. Дождж, як і ўсё ў гэтым свеце, мае пачатак і канец. Дождж — як чалавек: ён нараджаецца, калі хмары ў небе сплятаюцца адна з адной; ён жыве, падаючы на зямлю; ён дапамагае стварыць жыццё, калі зямля ўбірае яго ў сябе, а потым нараджае нешта новае; ён памірае, калі завяршаецца. Таму проста жывіце, чакайце добрага ды не думайце пра дрэннае, пераадольвайце цяжкасці ды спадзявайцеся на лепшае, атрымлівайце асалоду ды не страчвайце розум праз пустыя абяцанкі, не губляйце час дарма, бо кожная новая хвіля дае шанец даведацца пра што-небудзь цікавае і зрабіць гэты свет лепшым. Паглядзіце навокал, усё, што вы бачыце: сонца, аблокі, дрэвы, глеба, вада, жывёлы, вы самі — гэта і ёсць сапраўдны бог!

Натоўп адразу ж кінуўся да Валацугі, калі ён скончыў прамову. Дзівак пачаў рагатаць, ён схапіў адзін з вазонаў, што стаялі каля ўваходу ў свяцілішча, і пабег насустрач паслядоўнікам культу. Тыя спужаліся, прыпыніліся, а по-

тым кінуліся ў розныя бакі. Але Валацуга не меў намеру нанесці шкоду людзям. Ён наблізіўся да ідала і шпурнуў у яго вазонам, які трапіў у залатую руку, адбіўшы ад яе палец. Некалькі імгненняў над плошчай вісела цішыня. Нават дзівак перастаў рагатаць.

Часам здараецца так, што людзі, не дамаўляючыся, раптоўна пачынаюць рабіць нешта разам. Гэта быў адзін з тых момантаў. Паслядоўнікі Чорнага канцлера амаль што разбегліся, але зразумеўшы, што ад ідала адкалоўся кавалак, яны, нібы па загадзе нябачнай сілы, зноў кінуліся да Валацугі, збіўшы яго з ног.

За ўсім гэтым назіраў прадстаўнік паўднёвага бора, які вярнуўся ў свяцілішча. Ён адразу пазнаў у Валацугу чалавека, чыя выява была развешаная па ўсім Вольным горадзе. Галоўны жрэц загадаў святарам, каб яны паклікалі дружыннікаў, бавіўшых час у карчме на суседняй вуліцы. Хутка тыя былі на месцы. Яны хацелі адцягнуць дзівака ад раз'юшанага натоўпу, але Чорны канцлер загадаў яшчэ трохі пачакаць, сказаўшы, што гэта будзе добрым урокам вар'яту.

У той момант на плошчу ўляцеў Вандроўнік, які, адразу зразумеўшы, што адбываецца, накіраваў каня ўбок натоўпу. Людзі разбегліся. Моцна збіты Валацуга ляжаў на бруку. Сябар Рады зрабіў знак дружыннікам, каб тыя затрымалі дзівака. Вандроўнік, пабачыўшы, што стваральнік культу толькі зараз вырашыў умяшацца, пад'ехаў да яго і, не стрымліваючы злосці, запытаў:

— Ты зусім розум страціў?! А калі б яны яго забілі?!

Чорны канцлер нічога не адказаў, ён яхідна ўсміхнуўся, злез з каня і рушыў у свяцілішча. Услед пайшлі і святары, удзячныя лёсу, што гаспадар сам ва ўсім разабраўся. Вандроўніку заставалася толькі плюнуць у іх бок, пасля чаго ён накіраваўся да дружыннікаў, якія некуды павалаклі яго сябра.

— Куды вы яго цягнеце? — з хваляваннем запытаўся хлопец.

— У Старую вежу, — адказаў адзін з дружыннікаў.

— Ці вы не бачыце, што яму трэба да лекара?!

— Мы нічога не ведаем. Капітан разбярэцца.

— Дайце я яго на кані адвязу! Хутчэй будзе.

— Не, нельга! — настойліва сказаў дружыннік. — Ён жа паказальны злачынец. А што, як уцячэ? Нам тады Ротмістр, хоць ён і добры мужык, уваліць па дупе.

— Не хвалюйся, — раптоўна, ледзьве чутна, прамовіў Валацуга, паглядзеўшы на сябра, — не вымушай блазнюка рызыкаваць самым каштоўным.

— Трымайся, я дапамагу табе, — адказаў Вандроўнік.

Хлопец вырашыў, што найлепш будзе адразу паехаць да Лекара, каб прывезці яго ў Старую вежу, дзе хутка апынецца Валацуга. На шчасце, Лекар быў дома і адразу пагадзіўся дапамагчы добрым знаёмым.

Старая вежа была часткай Старога палаца, дзе дагэтуль праводзіліся пасяджэнні Рады. У ёй адначасова знаходзіліся і рэзідэнцыя Ротмістра, і зала, дзе праходзілі нарады дружыны, і пакоі, у якіх жылі мясцовыя дружыннікі, і турма, першым зняволеным якой стаў Валацуга.

Вандроўнік хутка дабраўся сюды, бо дом Лекара, як і Старая вежа, знаходзіўся ў Таўне. Непрытомны Валацуга ляжаў на лаве за кратамі. Адзін з дружыннікаў адчыніў замок і ўпусціў унутр Лекара, сказаўшы, што Ротмістр даў загад падпускаць да зняволенага толькі доктара. Кіраўнік дружыны паспеў самастойна зрабіць першасны агляд і, зразумеўшы, што дзіваку нічога не пагражае, часова пакінуў яго ў спакоі.

Вандроўнік не мог стаяць на адным месцы і яму было цяжка глядзець на збітага сябра, таму ён вырашыў выйсці на вуліцу, каб размяць ногі і падыхаць свежым паветрам.

*Раздзел XVI.*
*Пра тое, як Валацуга трапіў за краты*

Апынуўшыся каля залы, дзе праходзілі нарады дружыны, хлопец убачыў Ротмістра. Дзверы не былі цалкам зачынены, і голас кіраўніка чуўся добра.

— Рада дала загад пачаць паляванне на валацугаў і жабракоў, — сказаў ён.

— Але дзе нам іх шукаць? — запытаўся адзін з капітанаў.

— Не ведаю, аднак абавязкова трэба каго-небудзь злавіць. Інакш мы рызыкуем страціць частку нашых заробкаў. Канцлеры сказалі, што не жадаюць плаціць вялікія грошы гультаям.

— Мы што-небудзь абавязкова прыдумаем.

Аднак паляванне, да якога дружына адразу пачала рыхтавацца, не абяцала вялікага ўлову, бо адзіны валацуга Вольнага горада ўжо знаходзіўся за кратамі. Ён ляжаў там збіты купкай фанатыкаў. Іх ідалам быў прадстаўнік Рады.

# Раздзел XVII

## Пра тое, як людзям забаранілі пакідаць Вольны горад

Шпік Чырвонага канцлера бесперапынна віжаваў за Красуняй. Шторанак ён рабіў справаздачу: куды хадзіла дзяўчына, што рабіла і з кім размаўляла. Так прадстаўнік Захаду даведаўся, што падчас знаёмства яна сапраўды сказала яму праўду пра тое, дзе жыве; што ў першай палове дня яна часта ладзіць мітынгі, а ў другой дапамагае прыёмным бацькам і спявае; што ў яе ёсць каханы, які служыць дружыннікам, і што яны сябруюць з вар'ятам, якога кінулі ў Старую вежу.

Больш за ўсё Чырвонага канцлера засмуціла тое, што Красуня закаханая ў Вандроўніка. Прадстаўнік Захаду жадаў заляцацца да дзяўчыны, якой захапляўся і якую адначасова ненавідзеў. Таму наяўнасць у яе хлопца моцна ўскладняла справу.

Нягледзячы на гэта, Чырвоны канцлер выканаў абяцанне завітаць да «Шалёнага напою». Падчас імпрэзы ён пакаштаваў знакамітага напою Гаспадыні ды хутка ап'я-

неў. З цяжкасцю дачакаўшыся заканчэння, прадстаўнік заходняга бора падышоў да Красуні, якая дапамагала сяброўкам скласці інструменты.

— Добры вечар, пане!

Красуня адразу зразумела, што Чырвоны канцлер пакаштаваў шалёны напой — яна ўжо шмат разоў бачыла вочы людзей, якія таксама былі ўпэўнены, што кантралююць свае паводзіны, аднак гэта было не так.

— Нарэшце, пан канцлер, — усміхнулася дзяўчына. — Зачакаліся!

Чырвонаму не спадабалася, што Красуня зноў пачала гуляць з ім. Ён сувора паглядзеў на яе і, не хаваючы злосці, сказаў:

— Я табе не нейкі неданосак, што з пачварамі водзіцца. Ты будзеш мець да мяне павагу!

Ён схапіў дзяўчыну за локаць і моцна сціснуў яго. Сяброўкі Красуні зразумелі, што адбываецца нешта дрэннае, і адна з іх паспяшалася па дапамогу. Чырвоны канцлер паглядзеў ёй услед і крыва ўсміхнуўся.

— Што, бунтарка, толькі дурасць усялякую распавядаць здольна? А як справа да сапраўднай барацьбы дайшла, дык усё, патрэбна дапамога?

Красуня рэзкім рухам вырвала локаць з рукі канцлера і пабегла да Вандроўніка, які быў у глыбіні залы, размаўляў з адным з гасцей і не бачыў, што адбываецца ў пярэдняй частцы аўстэрыі.

— Курва... — прашыпеў услед дзяўчыне канцлер.

Побач з ім засталася стаяць другая сяброўка Красуні, якая была такая напалоханая, што, здавалася, перастала нават дыхаць, ператварыўшыся ў статую. Чырвоны хацеў штосьці сказаць ёй, але ў гэты момант да яго падышоў Карчмар, паклікана першай сяброўкай Красуні, усміхнуўся і вельмі лагодна прамовіў:

— Ці не жадае пан канцлер, каб я дапамог яму экіпаж знайсці?

— У дупу цябе, і шлёндру тваю вальнадумную. Вы хутка зразумееце, да каго тут у абдымкі трэба кідацца, каму ў ногі кланяцца і чыю руку цалаваць.

Прадстаўнік заходняга бора смаркануўся ўбок прылаўка, выцер руку аб сцяну і, хістаючыся, выйшаў з аўстэрыі.

Наступным днём Чырвоны канцлер склікаў неадкладнае пасяджэнне Рады. Прысутнічалі ўсе, акрамя Магістра, які вельмі дрэнна пачуваўся і ўжо некалькі дзён не ўставаў з ложка.

— Няўжо нас усіх у Таўне сабраў той, хто больш за астатніх не любіць ездзіць сюды? — Белы канцлер не мог не скарыстацца магчымасцю, каб не пажартаваць з Чырвонага.

— Хопіць ужо кпіць адзін з аднаго. Вы ж не дзеўкі ў лазні, — Жоўты, як заўсёды, хацеў хутчэй перайсці да справы. — Навошта ты нас паклікаў?

— Людзі працягваюць сыходзіць з горада. І з гэтым трэба штосьці рабіць.

— Спачатку бессэнсоўны падатак на бяздзетнасць, потым шалёная прамова да артыкула аб працоўным дні на карысць горада, якая напужала нават мяне. Чаго вы хацелі? Не дзіўна, што людзі сыходзяць, — пасля з’яўлення культу Чорны канцлер больш не баяўся казаць уголас тое, што думаў.

— Вымушаны не пагадзіцца з табой, — адказаў Жоўты прадстаўніку паўднёвага бора. — Страх — вельмі моцная зброя. Аднак сапраўды гэтым разам яна спрацавала супраць нас.

— Таму я і хачу прапанаваць закон, які канчаткова вырашыць гэтую праблему! — нецярпліва сказаў Чырвоны.

Усе адразу паглядзелі на яго.

— Канчаткова? — зацікаўлена запытаў Жоўты.

— Так!

— І як ты гэта зробіш?

Паўднёвы бора быў адзіны, адкуль жыхары не сыходзілі, аднак яго прадстаўнік усё роўна хваляваўся, бо не хацеў, каб новыя артыкулы прынеслі шкоду культу Чорнай змяі.

— Мы перастанем выпускаць людзей проста так.

Белы канцлер зарагатаў, але хутка супакоіўся і сказаў:

— Як ты гэта патлумачыш людзям? Яны ж проста выламаюць брамы ды збягуць. Нават дружына не дапаможа.

— Калі вы перастанеце ўвесь час перапыняць мяне і дасцё магчымасць усё распавесці, то я з задавальненнем гэта зраблю! — не вытрымаў Чырвоны.

— Добра, давайце паслухаем, — спакойна сказаў Жоўты.

— Давайце... — цяжка ўздыхнуўшы, прамовіў Чорны.

— Зразумела, што такі сур'ёзны закон трэба добра абгрунтаваць, — пачаў прадстаўнік Захаду. — У першую чаргу ён будзе скіраваны на тое, каб затрымаць у горадзе жанчын. Мала хто разумее тое, што жанчына — вельмі важны рэсурс. Нават важнейшы за золата.

Бровы Жоўтага канцлера папаўзлі ўверх, але ён стрымаўся і прамаўчаў, бо абяцаў не перапыняць. Чырвоны заўважыў гэта і ўдзячна кіўнуў галавою.

— Колькі золата можна здабыць за той час, што жанчына ходзіць цяжарнай? Калі пашчасціць — шмат! А калі не — дастаткова для таго, каб пражыць. Колькі ж дзяцей народзіць жанчына? Калі пашчасціць — больш за аднаго. А калі не — ніводнага і сама памрэ. Выношванне дзіцяці — складаны і марудны працэс. Яго вынік — не самы ўражальны, бо жанчына не ў стане кожны раз, нібы котка, даваць вялікае кодла. Таму я і кажу, што жанчына — каштоўны

рэсурс. І гэты рэсурс нельга губляць, не атрымаўшы за яго кампенсацыю. Згодна з маёй прапановай жанчына будзе мець магчымасць сысці толькі ў тым выпадку, калі яна нарадзіла не меней як дзвюх дачок, якія застануцца ў горадзе. Першая — каб замяніць здрадніцу, другая — як падзяка за тое, што горад калісьці даў ёй прытулак. Таксама жанчына павінна будзе сплаціць грашовую кампенсацыю: колькасць месяцаў, пражытых у Вольным горадзе да ўвядзення дзесяціны, памножаная на памер яе цяперашняй дзесяціны. Калі ў яе няма патрэбнай сумы, тады яна павінна затрымацца ў горадзе да таго часу, пакуль не заробіць дастаткова грошай, каб сплаціць кампенсацыю аднаразова. Калі за гэты час яе дачка памрэ, жанчына павінна будзе нарадзіць яшчэ адну замест памерлай. Сплачваць кампенсацыю таксама павінны і мужчыны. Але ім не абавязкова пакідаць у горадзе дачок ці сыноў, бо ў дадзеным выпадку мужчына не з'яўляецца каштоўным рэсурсам, бо здольны за адзін дзень зачаць некалькі дзяцей. Упэўнены, адзін з нас вельмі добра пра гэта ведае.

Белы канцлер зразумеў, што Чырвоны меў на ўвазе менавіта яго. Аднак ён нічога не сказаў, а толькі незадаволена пакруціў галавою.

— Цікавая прапанова, — задумліва сказаў прадстаўнік Усходу, — але што рабіць з жыхарамі Таўна? Кожны з нас марыць пра тое, каб яны ўсе зніклі куды-небудзь.

— Нічога. Тыя самыя ўмовы, што і для астатніх. Я разважаў над гэтай праблемай, і мне падаецца, што будзе лепей, каб гэтыя людзі засталіся, бо з цягам часу яны ці інтэгруюцца, ці мусяць саступіць і прызвычаіцца.

— Сапраўды так. Толькі адзінкі здольны змагацца на працягу ўсяго жыцця, — падсумаваў Жоўты канцлер.

Жыхары Вольнага горада не павінны былі ўвесь час знаходзіцца за гарадскімі мурамі. Яны заўсёды мелі маг-

чымасць выйсці і пагуляць у лесе ці па наваколлі. Каб потым спакойна вярнуцца ў горад, трэба было толькі ўзяць з сабой запрашэнне і паказаць яго вартаўнікам.

Паслы Магістра заўсёды выдаюць новае запрашэнне, калі чалавек згубіў яго ў горадзе. Калі ж запрашэнне згубілася па-за горадам, чалавек павінен спачатку назваць сваё імя, каб паслы маглі праверыць, ці сапраўды гэта ён выходзіў з горада, а пасля назваць імёны дзесяці знаёмых людзей, якія могуць пацвердзіць, што гэты чалавек насамрэч з'яўляецца жыхаром Вольнага горада. Пасля такой працэдуры паслы выдаюць новае запрашэнне.

Менавіта пра гэта Белы Канцлер запытаў Чырвонага:

— А што рабіць, калі чалавек захоча выйсці з горада, каб пагуляць у лесе?

— Вартаўнік будзе суправаджаць яго. Ці некалькі, калі чалавек будзе не адзін, — адказаў прадстаўнік Захаду.

— Вам не падаецца, што ўсё гэта нагадвае нейкую велічэзную турму? — насцярожана запытаўся Чорны канцлер.

— Не! — цвёрда адказаў Чырвоны. — Мы даём людзям выбар: ці заставайся і добра жыві, ці калі цябе штосьці не задавальняе — сыходзь, але кампенсуй страты. Відавочна, што ў турмах няма такой магчымасці. І гэта абавязкова трэба будзе давесці да тых, хто выкажа сумнеў.

— О, дзіўны Вольны горад! — паглядзеўшы ўгару, вымавіў Чорны канцлер. — Хай будзе так!

— Відаць, у цябе ад твайго культу ўжо розум пахіснуўся, — з'едліва сказаў Чырвоны.

Галоўны жрэц нічога не адказаў, а толькі засмяяўся.

— Што рабіць з малымі дзецьмі, калі жанчына сыдзе? — запытаўся Белы.

— Няўжо ты думаеш, што маці, нават доўбня, здольна пакінуць сваё малое дзіця? — здзівіўся Жоўты. — Нават калі такое здарыцца, горад мае прытулкі для сірот.

— Твая праўда, — сарамліва вымавіў Белы.

— Пакаранне. Ці будзе пакаранне для тых, хто паспрабуе ўцячы? — вочы Чорнага канцлера заблішчэлі ўпершыню за час пасяджэння.

— Так, — адказаў Чырвоны. — Наконт мужчын вырашайце самі. Я б увогуле дараваў ім, бо яны не з'яўляюцца каштоўным рэсурсам. Але тады яны пачнуць рабіць больш спроб уцячы. І гэта стане праблемай. Таму трэба штосьці прыдумаць разам. Што тычыцца жанчын, то іх пакаранне — прымусовы шлюб. Без магчымасці сысці ад мужа, якому жонка цалкам падпарадкоўваецца.

— Цудоўная прапанова! — радасна сказаў Жоўты канцлер. — Наўрад ці знойдзецца хоць адна дурніца, якая рызыкне збегчы, ведаючы, што яе чакае, калі спроба будзе няўдалая.

— Таксама прапаную больш не выпускаць з горада тых, хто аднойчы спрабаваў уцячы.

— І гэта добра! — расквітнеў прадстаўнік усходняга бора.

— І апошняе, — твар Чырвонага канцлера набыў сур'ёзны выраз, — каб улагодзіць насельніцтва, мы скасуем падатак на бяздзетнасць.

Жоўты, які імгненне таму быў бадай самым шчаслівым чалавекам у свеце, ажно прысеў на стул, што стаяў побач з ім. Чырвоны вырашыў скарыстацца збянтэжанасцю калегі, каб канчаткова дабіць яго.

— У гэтым падатку больш не будзе сэнсу, бо амаль ніхто, улічваючы ўмовы новага закона, не зможа пакінуць горад. Насельніцтва перастане скарачацца. У дадзеным выпадку адмена падатку на бяздзетнасць — гэта падарунак, і ім трэба скарыстацца.

— Згодзен, — Белы канцлер падтрымаў Чырвонага. — Да таго ж дзякуючы адмене падатку мы лёгка падманем

хворага Магістра. Ён зараз у такім стане, што нават не адрозніць ваду ад пяску.

— Добра, — сказаў Жоўты, якому вельмі цяжка было прызнаць тое, што яго ідэя аказалася горшай, — так насамрэч будзе лепей.

Канцлеры вырашылі, што новы закон з назвай «Артыкул аб тым, як правільна сыходзіць з Вольнага горада» трэба ўхваліць адразу, а ўжо потым даводзіць да людзей, чым ён карысны. Аднак спачатку, каб затуманіць некаторыя слабыя розумы, яны на некалькі дзён запусцілі чутку пра тое, што Рада збіраецца адмяніць падатак на бяздзетнасць. Таксама яны спадзяваліся, што ў гэтыя дні стан Магістра не палепшыцца. У выніку ўсё атрымалася так, як яны і хацелі.

Чорны бора добра сустрэў новы закон. Мясцовы канцлер меў рацыю: значная большасць тутэйшых жыхароў не задае пытанняў адносна дзеянняў улады. На Усходзе на працягу наступнага тыдня паплечнікі Жоўтага канцлера распавядалі насельніцтву пра тое, які цудоўны закон прыняла Рада. Яны казалі, што ніхто не абмяжоўвае свабоду людзей, што гэта проста фармальнае ўдасканаленне Статута, што ўсе жыхары маюць магчымасць зрабіць уласны выбар і што гэты артыкул накіраваны толькі супраць няўдзячных вальнадумцаў, якія на працягу гадоў карысталіся ўсімі магчымасцямі, прапанаванымі Вольным горадам, а потым проста здрадзілі яму. Жоўты канцлер не баяўся паўтарацца, бо быў упэўнены: чым больш разоў штосьці паўтараеш, тым хутчэй людзі ў гэта паверац. Такога падыходу было дастаткова, каб пераканаць тую частку насельніцтва, што яшчэ вагалася.

На Поўначы было шмат незадаволеных, аднак пасля першай хвалі абурэння іх галасы хутка сціхлі. У заходнім бора большасць жыхароў негатыўна сустрэлі закон. Кож-

ны дзень на рынкавай плошчы, а таксама ў іншых людных месцах праходзілі мітынгі. Але і яны праз нейкі час зніклі. У Таўне дзякуючы пастаянным выступам Красуні людзі зразумелі, што трэба ўвесь час падтрымліваць агонь супраціву, але па-сапраўднаму разгарэцца і ахапіць полымем увесь горад ён павінен падчас Вольнага схода. Фермеры, як заўсёды, асудзілі чарговы закон новай Рады. Аднак толькі трохі пагутарылі ды працягнулі жыць сваім жыццём. І не было зразумела, ці то яны так запалоханы нядаўнімі выгнаннямі, ці то ім сапраўды ўсё адно.

Нечаканасцю для ўсіх стаў першы сапраўдны бунт у Вольным горадзе. Ніхто не ведае, як так атрымалася, але невялікай групоўцы з Таўна, якая прагнула сысці, удалося аб'яднаць вакол сябе людзей са ўсяго горада. Каля тысячы чалавек рушылі да Галоўнай брамы, патрабуючы, каб іх выпусцілі. Паслы Магістра хутка зразумелі, што ніхто з гэтых людзей не выканаў новых правіл, і адмовілі ім. Раз'юшаны натоўп пачаў голымі рукамі ламаць браму. Праз некаторы час на дапамогу вартаўнікам і паслам прыйшла добра ўзброеная дружына і разагнала бунташчыкоў. Самых актыўных схапілі і пасадзілі ў Старую вежу. Ротмістр быў задаволены і нават удзячны затрыманым: больш не трэба хваляваца за заробкі...

...Красуня збірала розныя травы не толькі каля возера, але і за горадам, у лесе. Яна ўзяла пасведчанне — дакумент, які замяняў запрашэнне тым, хто нарадзіўся ў Вольным горадзе, — і накіравалася да Галоўнай брамы. Пасол Магістра адзначыў яе імя ў спісе тых, хто часова выходзіць з горада, і паклікаў аднаго з вартаўнікоў, які павінен быў сачыць, каб дзяўчына не ўцякла.

Назбіраўшы цэлы кошык траў, Красуня рушыла назад. Калі пачала набліжацца да ўзлеска, вартаўнік раптоўна

схапіў яе ззаду, кінуў на зямлю, звязаў, закінуў на плячо і панёс да Галоўнай брамы. Разгубленая дзяўчына пачала брыкацца і крычаць, каб ён адпусціў яе. Такія паводзіны адразу ж прыцягнулі ўвагу людзей, якія жылі ў лагеры. Сустрэўшы аднаго з паслоў Магістра, ахоўнік Красуні сказаў, што яна намагалася збегчы, таму ён мусіў ужыць сілу. Неўзабаве дзяўчына апынулася ў Старой вежы.

Увечары бессаромны вартаўнік атрымаў другую частку ўзнагароджання — яшчэ пятнаццаць бронзавых талераў. Гэта быў першы выпадак подкупу ў Вольным горадзе.

# Раздзел XVIII

## Пра тое, як Валацуга з Ротмістрам гутарыў

У Вольным горадзе ніколі не было турмаў, і Валацуга стаў першым зняволеным. Ніхто асабліва не ведаў, якім павінен быць сапраўдны астрог і як паводзіць сябе з пасаджаным. Дзівака кінулі ў агромністы пакой, з якога папярэдне вынеслі ўсе рэчы. Унутр паставілі шырокую лаву, а на вокны прыбілі краты, як і замест дзвярэй. Пазней прынеслі ложак ды некалькі цёплых рэчаў. Валацугу кармілі такім самым, як і дружыннікаў Таўна, толькі без прысмакаў.

Калі дзівака прывалаклі ў Старую вежу, ён быў сіні, нібы мора падчас лютага шторму. Паслядоўнікі культу Чорнай змяі добра ўсыпалі небараку. Аднак дзякуючы дапамозе Лекара і неверагоднай жыццёвай моцы ён хутка ачуняў. Штодзень да дзівака прыходзілі яго сябры і знаёмыя, каб даведацца, як ён сябе адчувае, ды прынесці што-небудзь смачнае. Лекар, Вандроўнік, Красуня, Карчмар, Гаспадыня, Скватар, Біна і нават прафесар, які ўзначальваў адмыс-

ловую навучальную ўстанову для падрыхтоўкі акцёраў. Усе яны вельмі добра ставіліся да Валацугі.

Ротмістру было цікава, чаму ўсе гэтыя людзі любяць вар'ята, што псаваў рэчы, дапамагаў ладзіць мітынгі і наўмысна зламаў ідала. Аднойчы ўвечары кіраўнік дружыны падышоў да пакою, дзе сядзеў Валацуга, і пагрукаў у краты, нібы завітаў да сябра, а не да зняволенага. Ротмістр быў добры чалавек, аднак, як і значная большасць з тых, хто належаў да патрыярхальных колаў, падзяляў далёка не ўсе погляды людзей, якія калісьці заснавалі Вольны горад. Ён заўсёды добра адчуваў сябе ў гэтым месцы, стараўся не звяртаць увагі на рэчы, якія не разумеў, і шчыра верыў, што лепшыя часы краю яшчэ наперадзе.

Валацуга сядзеў на ложку і пра штосьці разважаў. Ён паглядзеў на гаспадара Старой вежы, ветліва ўсміхнуўся і спакойна прамовіў сваім аксамітавым голасам:

— Вітаю.

— Ты не супраць пагутарыць са мной? — Ротмістр трымаў у руцэ ключы, але не наважваўся адчыніць краты, пакуль яго не запросяць.

— З задавальненнем! — дзівак падбадзёрыўся. — Мне заўсёды цікава даведацца пра думкі незнаёмага чалавека.

— Добра! — задаволена адказаў кіраўнік дружыны.

Ён адчыніў краты, зайшоў унутр пакоя і сеў на лаву бліжэй да ложка Валацугі.

— Навошта ты зламаў ідала? — Ротмістр вырашыў пачаць з пытання, якое мела дачыненне да справы дзівака.

— У Вольным горадзе не павінны стаяць ідалы, бо любы ідал — гэта пагроза, якая аднойчы наробіць шмат шкоды.

— Але Чорны канцлер меў права ўсталяваць новага ідала. У Статуце нічога няма пра гэта. Я ўважліва чытаў артыкул аб ідалах і помніках.

— Няма розніцы — новы ці стары. Хутка да Рады прыйдуць тыя, хто дагэтуль шануе старых ідалаў, і справядліва запытаюцца, чым іх ідалы горшыя за Чорную змяю? Гэта будзе апошні мірны дзень у гісторыі Вольнага горада.

— Чаму? — Ротмістр трохі паразважаў, але не знайшоў адказу.

— Таму што ў Рады будзе толькі два варыянты, як вырашыць гэтую справу. І ніводзін з іх не ўратуе горад.

— Якія?

— Першы — дазволіць усім культам усталёўваць ідалаў. Аднак людзі не любяць бачыць вакол сябе чужыя сімвалы. Пачнецца разня, нават мур не дапаможа. Другі — абмежаваць культ Чорнай змяі. І калі не Чорны канцлер пачне бойню, дык тыя, чые розумы ён ужо паспеў скалечыць.

— Сапраўды! А можа, паслядоўнікі Чорнай змяі ўсё ж такі не пачнуць бойню? — задумліва, расцягваючы словы, запытаў кіраўнік дружыны. — Чаму б ім не шанаваць свайго ідала, як і ўсе астатнія, дома? Вось у мяне стаіць у куце трохрогі балван, і мне больш не трэба!

— Ці будзе ваўчаня, якога маці пачаставала мясам, пасля гэтага есці траву?

Ротмістр не зразумеў, чаму Валацуга пачаў гаварыць пра ваўкоў, але ён ужо ведаў ад будаўніка, што дзівак мае звычку раптоўна пераходзіць на тэму жывёльнага свету. Пытанне ж яму падалося простым, таму ён, не сумняваючыся, адказаў:

— Не, натуральна!

— Ці маеш яшчэ якія пытанні?

— Навошта ты псаваў рэчы?

— Траціну стагоддзя ў Вольным горадзе не было ніякіх межаў. Навошта яны зараз?

— Жыхары нашага краю — свабодныя людзі. Яны абралі новых канцлераў, якія вырашылі пабудаваць мур, каб ура-

таваць горад. Мне вельмі падабаецца іх дэвіз «Розныя народы аднаго горада», таму што...

— Свабодныя ад чаго?

Ротмістр разгубіўся праз тое, што яго перапынілі, аднак ён хутка забыў старую думку і пачаў рыхтаваць адказ на нечаканае пытанне. Але ніяк не мог падабраць патрэбных слоў. Валацуга заўважыў, як пот з'явіўся на чырвоным ілбе кіраўніка дружыны. Дзівак вырашыў больш не мучыць свайго госця і пачаў гаварыць сам:

— Не бывае цалкам свабодных людзей. Чалавек здабывае сапраўдную свабоду толькі пасля смерці — калі яго больш нічога не абмяжоўвае: ні законы, ні грамадства, ні родныя, ні ідалы, ні сумленне. Але, на жаль, ён ужо не ў стане штосьці зрабіць. Жывыя людзі павінны імкнуцца пабудаваць вольнае грамадства. І каб таго дамагчыся, ім патрэбна знішчыць як мага больш бар'ераў — як і тыя, што не дазваляюць ім бачыць адзін аднаго, так і тыя, што не дазваляюць ім чуць адзін аднаго. Мур новых канцлераў — гэта адзін з тых бар'ераў, які спачатку зробіць нас сляпымі, а потым і глухімі.

— Мушу не пагадзіцца, — цвёрда сказаў Ротмістр. — Жаданне старой Рады стварыць адзіны народ магло нанесці шкоду ўсім народам. Шмат хто з нас любіць і шануе свае традыцыі, і калі старыя канцлеры пачалі адбіраць іх у нас, мы адчулі сябе, як хлопец, які раўнуе сваю дзяўчыну, калі яе хоча адабраць іншы маладзён.

— Старыя канцлеры не хацелі адабраць у народаў іх традыцыі. Яны не былі хлопцам, які адбірае дзяўчыну. Яны былі тымі, хто хоча сябраваць і з хлопцам, і з яго дзяўчынай, а таксама зрабіць іх сябрамі ўсіх астатніх хлопцаў і дзяўчат. Пачуццё беспадстаўнай рэўнасці — не шкода. Шкода — учынкі, да якіх яно можа прывесці. У выпадку раўнівага хлопца — да збіцця бязвіннага чалавека. У вы-

падку народаў, якія не хочуць разумець адзін аднаго, — да знішчэння людзей.

— А ці не наносіць шкоду нашаму грамадству твая сяброўка?! — Ротмістр трохі разгарачыўся.

— Я не ведаю, што ты маеш на ўвазе. Аднак у любым выпадку мой адказ — наўрад ці, — Валацуга ўсміхнуўся, каб прадэманстраваць, што не жадае сварыцца. — Любы чалавек вольны рабіць, што ён хоча, пакуль гэта не наносіць сапраўднай шкоды іншай істоце ці наваколлю.

Усмешка дзівака кранула добрае сэрца Ротмістра, і ён спакойна сказаў:

— Яна абражае патрыярхальныя колы. Яна кажа, што новыя канцлеры, якіх мы падтрымалі, прымаюць тыя законы, якія патрэбны нам. Але ці дрэнна гэта? Няўжо наш лад не мае права на існаванне?

— Яна казала хлусню?

— Не, але яе прамовы абражаюць тых, хто падтрымлівае патрыярхальны лад, а таксама яго дзеячаў.

— Няма нічога дрэннага ў тым, каб казаць праўду і асуджаць учынкі кепскіх людзей. Гэта не абраза тых, каму такі лад даспадобы. Наадварот, шкоду робяць паслядоўнікі такога ладу, калі кажуць, што выбар ладу — усяго толькі пытанне густу. Гэтыя людзі абражаюць ахвяр ладу і імкнуцца апраўдаць яго, што перашкаджае цывілізаванаму грамадству рухацца далей.

— Новыя канцлеры былі абраныя падчас папярэдняга Вольнага схода, і гэта быў выбар цывілізаванага грамадства!

— На жаль, не ўсё так проста, як часам падаецца. Калісьці новыя канцлеры былі звычайнымі жыхарамі Вольнага горада і, як і ўсе, паважалі яго Статут. Але ўлада бэсціць людзей, асабліва тых, хто бярэ прыклад з бязлітасных уладароў мінулых стагоддзяў. Да гэтай хваробы дадалася

сквапнасць, якую выклікала знаходка золата. Разам яны хутка сапсавалі сяброў новай Рады. А тыя пачалі бэсціць усіх, хто навокал. Дрэнны прыклад мае даўгія рукі.

Калі дзесяць чалавек будуюць стайню і тры з іх робяць гэта абы-як, хутчэй за ўсё, лянота ўрэшце апануе ўсіх, нават калі гультаі не будуць падбухторваць тых, кто працуе добра. Калі ж, наадварот, толькі тры будаўнікі не лянуюцца, то іх прыклад, нават калі яны пачнуць угаворваць астатніх быць сумленнымі, наўрад ці дасць плён. Хутчэй за ўсё, з іх пачнуць здзекавацца і назавуць дурнямі.

Тое самае адбываецца і ў нашым грамадстве. Дрэнны прыклад тых, каго свядома абрала насельніцтва Вольнага горада, пакрысе атручвае яго сэрца і розум. Зерне маральнай хваробы ўзыходзіць шпарка. Чалавецтва — вельмі ўрадлівая для гэтага глеба. Пустазелле хутка выцясняе тое, што прыносіць плады. Заснавальнік першым зразумеў, што некалі блаславенны край атручаны і сапсаваны. І што ніводнае супрацьяддзе ўжо не дапаможа гэтаму месцу. Таму ён і сышоў так рана.

Ротмістр меў панура-задумлівы выгляд. Ён падняўся з лавы, наблізіўся да Валацугі, добразычліва паляпаў яго па плячы, выціснуў з сябе сумную ўсмешку і, нічога не сказаўшы, выйшаў з пакоя, зачыніў замок, пакінуўшы дзівака аднаго за кратамі, і той зноў пачаў пра нешта разважаць.

Аднак Валацуга не доўга быў у адзіноце. Наступным ранкам да яго падсялілі дванаццаць затрыманых бунтароў, якія былі самыя актыўныя сярод тых, хто імкнуўся зруйнаваць Галоўную браму, каб зноў стаць адносна свабоднымі людзьмі.

# Раздзел XIX

## Пра тое, як судзілі Красуню

Ужо праз дзень да дванаццаці бунтароў і Валацугі прывялі Красуню, якую абвінавацілі ў тым, што яна хацела збегчы з горада. Спачатку яе пасадзілі ў адзін пакой з мужчынамі, але потым Ротмістр загадаў падрыхтаваць яшчэ адзін, так званы жаночы.

Калі дзяўчыну прывялі ў Старую вежу, яна ўбачыла, як дзівак сядзіць пасярэдзіне пакоя, а вакол яго людзі, якія ўважліва слухаюць кожнае слова першага зняволенага. Дружыннік, які суправаджаў Красуню, грымнуў кратамі. Валацуга павярнуўся, каб паглядзець, што адбываецца. Раптам выраз яго твару, які дагэтуль амаль цалкам хаваўся ў кудлатай барадзе і кашлатых валасах, набыў такі журботны выгляд, якога ў дзівака не было за ўвесь час побыту ў Вольным горадзе. Дзяўчына сумна ўсміхнулася. Дружыннік нарэшце адчыніў замок і падштурхнуў Красуню ўсярэдзіну. Яна падышла да Валацугі, які паспеў падняцца з падлогі, абняла яго і доўга не адпускала. Гэтыя абдымкі трошкі палепшылі настрой дзіваку, і ён запытаўся:

— А цябе чаго сюды? Няўжо адбіла яшчэ адзін палец ідалу?

— Не, — шчыра ўсміхнулася Красуня, — мая справа іншая.

— Дык расказывай!

— Пайшла я ў лес, — пачала дзяўчына, — каб сабраць зёлкі, з якіх матуля розныя стравы ды гарбату гатуе. Калі быў поўны кошык, пачала вяртацца ў горад, але раптоўна на мяне ззаду наваліўся вартаўнік, які сачыў за тым, каб я не ўцякла. Збіў з ног і, пакуль я намагалася зразумець, што здарылася, звязаў мне рукі лінай. Пасля гэтага я пачала крычаць. Ён націснуў каленам на спіну, ды так, што аж дыхаць стала цяжка. Звязаў ногі, закінуў мяне на плячо і панёс у горад. Я брыкалася і крычала, але гэта не дапамагло, бо, калі мы падышлі да лагера, ён сказаў аднаму з паслоў Магістра, што я намагалася ўцячы і што мяне трэба перадаць дружыне, каб яны адвезлі мяне ў Старую вежу. І вось я тут.

— Што за халера?

Здалося, што пакуль Красуня распавядала сваю гісторыю, на галаве Валацугі з'явілася некалькі новых сівых валасоў.

— Не ведаю, дзядзька!

Упершыню за доўгі час Красуня адчула сябе бездапаможнай. Апошнім разам такое было, калі яна даведалася пра тое, што Рада збіраецца ўвесці падатак на бяздзетнасць. Менавіта тады на кухні аўстэрыі яна паабяцала сабе, што больш ніколі не будзе слабой. Але зараз яе розум не жадаў слухацца, у сэрцы было столькі адчаю, а ўнутры ўсё дрыжэла, што яна не вытрымала і заплакала, апусціўшы твар на плячо Валацугі.

Ён нічога не сказаў, бо разумеў, што яна павінна даць выйсце ўсім негатыўным эмоцыям. Праз некалькі хвілін

дзяўчына супакоілася. Яна яшчэ раз моцна абняла дзівака, а потым села на лаву і аб нечым моцна задумалася.

Хутка ў пакой зайшоў капітан Таўна і сказаў, што Красуні трэба перайсці ў іншае месца. Выходзячы з пакоя, дзяўчына пяшчотна дакранулася да спіны Валацугі, які працягваў расказваць бунтарам легенды. Ён павярнуўся і ўсміхнуўся ёй услед.

Так званы жаночы пакой быў удвая меншы. І гэта было адзінае яго адрозненне ад таго, дзе сядзелі мужчыны. Красуня заняла ложак, што стаяў у куце. Праз два дні дружыннік прывёў жанчыну з абадранымі рукамі. Яна расказала, што паспрабавала збегчы, але зачапілася ў лесе за карэнне, павалілася на зямлю ды страціла прытомнасць. А калі ачуняла, вартаўнік валок яе за ногі па лесе. Добра, што не тварам уніз, інакш падрала бы не толькі рукі са спінаю.

На працягу тыдня ў жаночым пакоі апынуліся яшчэ пяць дзяўчат. У кожнай з іх была свая гісторыя, але яны ўсе ў адрозненне ад Красуні насамрэч намагаліся ўцячы. Жоўты канцлер памыляўся, калі казаў, што не знойдзецца ніводнай дурніцы, якае наважыцца збегчы. Выявілася, што некаторыя людзі гатовы рызыкаваць, калі адчуваюць, што ім больш не хапае паветра.

Ротмістр называў усіх дзяўчат разам «сваімі сямю перлінамі». Ён казаў, што іх асудзяць першымі, бо нельга такім прыгожым паненкам сядзець за кратамі ды сумаваць. Усе дзяўчаты палічылі гэта за праяву міласэрнасці. Красуня — за здзек.

Кіраўнік дружыны выканаў абяцанне. Валацуга і дванаццаць бунтароў, якіх затрымалі раней за Красуню, яшчэ чакалі сваёй чаргі, калі Рада пачала разглядаць яе справу. Месцам, дзе вырашаліся спрэчкі, да якіх мелі дачыненне жыхары Таўна, быў Стары палац. Таму дзяўчыне не трэба было нікуды ехаць, каб даведацца, які лёс яе чакае.

## *Раздзел XIX.*
## *Пра тое, як судзілі Красуню*

У Вялікай зале сабралася шмат народу. Некаторым людзям нават нехапіла лаваў, таму яны стаялі. Красуня была першай, каго абвінавацілі ў тым, што яна намагалася сысці з горада, не выканаўшы ўмоў новага закона. Ці, папросту, збегчы. Цікавасці дадавала яшчэ тое, што гэта была не звычайная дзяўчына, а тая самая, што змагалася супраць новай Рады і яе артыкулаў.

Карчмар і Гаспадыня таксама прысутнічалі ў зале. Яны кожны дзень наведвалі прыёмную дачку — падтрымлівалі, верылі, але разумелі, што наўрад ці хоць штосьці яе ўратуе. Нават Карчмар страціў надзею, калі даведаўся, што хворы Магістр, нягледзячы на тое што жыве ў Старым палацы і што разглядам вялікіх спраў займаецца менавіта ён, дэлегаваў свае паўнамоцтвы Беламу канцлеру. Красуня мела паўночныя карані, а гэта азначала, што ў адсутнасць Магістра прадстаўнік паўночнага бора робіцца адказным за вырашэнне яе справы.

У зале стала ціха, калі прывялі дзяўчыну. Кожны рад, дзе сядзелі гледачы, складаўся з адной доўгай лавы. Той, дзе месціліся людзі, якія бралі ўдзел ў справе, — з дзвюх невялікіх. Ад усіх астатніх іх аддзяляла прыгожая разная загарода з брамкай пасярэдзіне. Красуня заняла месца на лаве злева. Яна павярнула галаву направа і зазірнула ў вочы вартаўніку, які затрымаў яе. Красуня не ўбачыла ў іх ні кроплі спагады і пачала звыкацца з думкай, што ў хуткім часе будзе вымушана пабрацца шлюбам з незнаёмцам.

— Ці прызнаяце сябе вінаватай? — задаў першае пытанне Белы канцлер.

— Не! — цвёрда адказала Красуня.

— Добра, тады пачнем. Спярша вартаўнік, які ахоўваў дзяўчыну, распавядзе нам сваю версію таго, што адбылося.

Месца на трыбуне заняў худы мужчына. Ён быў высокі, з даўгім носам і запалымі вачамі. У валасах віднелася сівіз-

на. Ён правёў позіркам па вялікім натоўпе, які прыйшоў паглядзець, чым скончыцца справа знакамітай Красуні, і ледзь бачна, задаволена ўсміхнуўся.

— Спачатку яна сказала, што ёй трэба назбіраць шмат розных траў. Потым мы доўга блукалі па лесе. Думаю, яна хацела, каб я замарыўся і страціў пільнасць. Яна ўвесь час адыходзіла ад мяне далей і назірала, што я раблю. Аднак я няспынна сачыў за ёй і заўважаў усё, што яна робіць. Калі ў яе быў амаль што поўны кошык траў, яна, відаць, зразумела, што часу не засталося і трэба бегчы, нягледзячы на тое што я знаходзіўся непадалёк. І яна пабегла, але я хутка дагнаў яе. Яна паспрабавала павыдзіраць мне вочы, але я хлопец спрытны, таму паспеў перахапіць яе рукі і звязаць іх. Потым паваліў на зямлю і звязаў ногі. Закінуў на плячо ды панёс да гарадскога мура, каб там перадаць яе дружыне. Усё рабіў так, як загадалі, калі хтосьці паспрабуе ўцячы. Усё, больш нічога не ведаю.

Ад злосці ў Красуні пачалі трэсціся рукі. Але яна паводзіла сябе стрымана, калі распавядала сваю версію таго, што адбылося ў той дзень. У канцы выступу, каб давесці, што яна не хацела збегчы, дзяўчына сказала, што ўвесь час заклікала людзей дачакацца Вольнага схода. Таму было б дзіўна, калі б яна сама вырашыла ўцячы раней.

Пасля Красуні Белы канцлер выклікаў пасла Магістра, які сустрэў вартаўніка, калі той вынес дзяўчыну з лесу:

— Я пачуў, што хтосьці крычыць і пайшоў паглядзець, што адбываецца. Хутка з лесу выйшаў вартаўнік, у якога на плячы ляжала звязаная дзяўчына. Яна крычала і брыкалася. Я запытаўся, што здарылася. Вартаўнік сказаў мне, што яна хацела збегчы, і распавёў, як гэта было. Потым ён аднёс яе да Галоўнай брамы. Я пайшоў паклікаць дружыннікаў, і яны адвезлі дзяўчыну ў Старую вежу.

— Зразумела, — сказаў Белы канцлер.

Пасля гэтага ён выслухаў яшчэ некалькі чалавек і сышоў з залі на некаторы час, аднак амаль адразу ж вярнуўся. Прадстаўнік паўночнага бора заняў сваё месца і гучна, каб пачулі нават тыя, хто быў у самым канцы залы, абвесціў:

— Дзяўчына прызнаецца вінаватай і будзе пакараная згодна з «Артыкулам аб тым, як правільна сыходзіць з Вольнага горада»! А зараз — перапынак! Хутка Рада працягне разглядаць іншыя справы.

Дзяўчыну вывелі з залі. Яна трымалася годна. Выходзячы, Красуня паспела яшчэ раз паглядзець на вартаўніка, які абылгаў яе. На яго твары не было ні кроплі жалю.

Як толькі Белы канцлер абвесціў вырак, Гаспадыня схапіла Карчмара за кашулю і, рыдаючы, пачала трэсці яго. Яшчэ крыху — і яна вытрасла б са свайго мужа ўсё жыццё, але раптоўна супакоілася, сціснула зубы, сказала, што гэта яшчэ не канец і, адпусціўшы кашулю, спрытна рушыла да дзвярэй. Карчмар, якому спатрэбілася некалькі імгненняў, каб перавесці дух, пайшоў услед за жонкай. У натоўпе ён заўважыў Вандроўніка, які сядзеў нерухома, нібы статуя. Хлопец трымаўся рукамі за галаву, а яго шкляныя вочы, не міргаючы, глядзелі ў нейкую адну кропку на падлозе, нібы жадаючы прабіць яе.

Прысуд дзяўчыны азначаў, што неўзабаве яна павінна будзе пабрацца шлюбам з адным з кандытаў, якія трапілі ў спецыяльны спіс, складзены Радай. У яго меў магчымасць запісацца любы халасты мужчына, які быў гатовы ажаніцца з дзяўчынай, асуджанай за тое, што яна спрабавала збегчы. Ахвотнікаў было шмат, таму Рада вырашыла размеркаваць кандыдатаў у залежнасці ад памеру іх заробку. Першым быў той, хто зарабіў за апошні год больш грошай за астатніх. Канцлеры нават падалі гэта так, што дзяўчатам увогуле не трэба хвалявацца, таму што сістэма,

якую распрацавала Рада, ніколі не дазволіць, каб асуджаныя трапілі ў рукі жабрака ці якога іншага небаракі.

У той жа дзень былі разгледжаныя справы астатніх дзяўчат. Ніводная не адмовілася ад таго, што хацела збегчы, таму кожную з іх адразу ж прызналі вінаватай. Наступным ранкам усіх вызвалілі. Аднак спачатку прывялі ў залу, дзе ўчора яны пачулі свае выракі. Дзяўчат паставілі ў адзін шэраг і загадалі чакаць. Неўзабаве ў зале з'явіліся шэсць мужчынаў. Гэта былі тыя, каму Рада дала дазвол абраць сабе будучую жонку. Кандыдаты хадзілі вакол дзяўчат, аглядалі іх, задавалі ім пытанні ды нават абмяркоўвалі, каму хто больш да спадобы.

Не падыходзілі толькі да Красуні, якая не вытрымала і запыталася:

— Чаго чакаеце? Чаго ўсё круціцеся вакол нас, нібы быдла на рынку выбіраючы?

— Не гожа паненцы такія рэчы казаць, — з усмешкай прамовіў капітан Таўна. — Мы чакаем госця, без якога не можам распачаць апошнюю дзею гэтай справы. Крышачку цярплівасці, калі ласка.

Мужчыны працягнулі аглядаць асуджаных, мінаючы Красуню. Дзяўчына зразумела, што адбываецца нешта дзіўнае і што кандыдаты не проста так нават не глядзяць у яе бок. Сэрца Красуні, якое кахала Вандроўніка, на імгненне спынілася, калі ў залу ўвайшоў Чырвоны канцлер.

# Раздзел XX

## Пра тое, як Лекар спаткаў Біну

Біна працавала кухаркаю на ферме Скватара. Гэта была тая самая кабета, на твары якой яе былы муж калісьці пакінуў адбітак сваёй далоні. Яна не хацела сыходзіць з Вольнага горада, таму вырашыла пайсці жыць на раўніну, бо чула, што сярод фермераў па-ранейшаму пануюць згода і адзінства. Ад мясцовага карчмара яна даведалася, што Скватар шукае кухарку і што ён заўсёды дае прытулак тым, хто стаміўся ад разладу на ўзгорку, што пачаўся пасля абрання новай Рады. Жанчына накіравалася на ферму Скватара, дзе ёй былі вельмі радыя.

З Валацугам Біна пазнаёмілася ў першы дзень яго побыту на ферме. Дзівак распавядаў тутэйшым дзецям смешную гісторыю, яны былі ў захапленні і не адгукаліся на заклікі кабеты, якая вырашыла выйсці ды паглядзець, што адбываецца на вуліцы. Біна таксама была ў захапленні ад легендаў Валацугі. Яна заўсёды была сярод тых жыхароў фермы, якія штовечар збіраліся вакол дзівака, каб паслухаць яго неверагодныя гісторыі.

У вольны час Валацуга любіў дапамагаць Біне на кухні. Яны пасябравалі. Таму, калі дружына кінула дзівака за краты, кабета час ад часу прыходзіла да яго і прыносіла печыва, рэцэпт якога яны разам прыдумалі.

Ротмістр дазволіў упускаць наведвальнікаў у пакой, дзе сядзелі зняволеныя. Ён не баяўся, што сябры якім-небудзь чынам дапамогуць збегчы пасаджаным, бо быў упэўнены, што ўцячы са Старой вежы, якую кругласутачна пільна ахоўвалі найлепшыя дружыннікі, немагчыма.

Сёння Біна расказала апошнія чуткі адносна таго, што канцлеры не ведаюць, што рабіць з Валацугам. Яны хочуць, каб справа была паказальная, але не могуць нічога прыдумаць.

Таксама яна расказала, што Рада плануе цалкам перагледзець сістэму пакаранняў. Пасля прыняцця артыкула «Аб тым, як правільна сыходзіць з Вольнага горада» выгнанне больш не можа заставацца самай цяжкой мерай, таму што людзі, якія прагнуць пакінуць горад, пачнуць наўмысна наносіць яму шкоду, каб іх выгналі. Біна лічыла, што Рада ўвогуле скасуе выгнанне, бо яно супярэчыць іх новай палітыцы ўтрымання людзей у Вольным горадзе.

Паводле чутак, канцлеры хочуць распрацаваць Судзебнік і пабудаваць сапраўдную турму. Некаторыя нават кажуць, што яны ўжо знайшлі адмысловага чалавека і ён ведае, якім павінна быць месца для асуджаных. А пакуль што ўсіх будуць трымаць у Старой вежы.

Гэта азначала, што дванаццаць бунтароў працягнуць сядзець разам з Валацугам. Рада вырашыла, што пакараннем для мужчынаў, якія намагаюцца збегчы з горада, будзе зняволенне на тэрмін, роўны колькасці месяцаў, што яны пражылі ў Вольным горадзе да ўвядзення дзесяціны. Маўляў, колькі вы, няўдзячныя людзі, карысталіся ўсімі выгодамі гэтага краю, столькі і будзеце сядзець за кратамі

за тое, што хочаце сысці, не сплаціўшы кампенсацыю. Гэта азначала, што не злачынец, а звычайны чалавек, які проста прагне свабоды, рызыкуе страціць волю на гады ці нават дзесяцігоддзі.

— Зняволенне — самае бессэнсоўнае пакаранне, — сказаў Валацуга.

— Чаму? — запытала Біна. — Хіба не павінен злачынец атрымаць тое, чаго варты?

— Безумоўна. Але якая карысць ад таго, што ён сядзіць у клетцы? Якая карысць яму? Якая карысць таму, каму ён нанёс шкоду? Якая карысць грамадству?

Кабета нічога не адказала, яна з зацікаўленасцю глядзела на Валацугу і чакала працягу. Як і дванаццаць бунтароў, што былі побач.

— Калі адзін чалавек зламае другому руку, асабліва калі наўмысна, — працягнуў дзівак, — якая пацярпеламу карысць ад таго, што яго крыўднік правядзе некаторы час за кратамі? Чалавек са зламанай рукой не здольны паўнавартасна працаваць, даглядаць свой дом ці дапамагаць родным. Таму ці не лепей было б, калі б крыўднік не сядзеў у клетцы, а дапамагаў таму, каму ён нанёс шкоду, пакуль ахвяра цалкам не ачуняе?

— Але ж яны, хутчэй за ўсё, будуць пакрыўджаны адзін на аднаго, — сказала Біна.

— І гэта яшчэ адна добрая нагода для таго, каб крыўднік не сядзеў бессэнсоўна за кратамі!

Жанчына задумалася. Валацуга маўчаў. Ён з надзеяй зазіраў ёй у вочы і верыў, што яна здолее яго зразумець.

— Ты хочаш сказаць, — павольна пачала кабета, — што супрацоўніцтва павінна прывесці да паразумення і да згоды паміж ахвярай і крыўднікам?

— Так! — радасна адказаў Валацуга. — Бо як першы прабачыць, а другі атрымае прабачэнне, калі ў іх не будзе магчы-

масці гэтага зрабіць? Калі адзін застанецца жыць з крыўдай у сэрцы, а другі змарнуе колькі часу ў клетцы? Як яны гэта зробяць?

— Але што рабіць, калі крыўднік не захоча дапамагаць ці ахвяра адмовіцца ад яго дапамогі?

— У такім выпадку крыўднік павінен атрымаць метку, каб усе людзі ведалі, хто ён такі, і назаўсёды пакінуць месца, дзе ён жыў. Для звычайнага чалавека няма нічога больш страшнага за адзіноту, за разуменне таго, што ты нікому не патрэбен і што ніхто табе не дапаможа.

— А калі ён вернецца і пачне помсціць?

— Тады яго трэба назаўсёды зачыніць у астрогу, каб да самага апошняга дня ён болей ніколі не пачуў чалавечага голасу.

— Назаўсёды? Ці не занадта гэта сувора?

— Навошта здароваму грамадству чалавек, які не жадае выправіць шкоду, што ён зрабіў?

— Зразумела. А што наконт ахвяры, якая не хоча, каб крыўднік дапамагаў ёй?

— Навошта здароваму грамадству чалавек, які не здольны дараваць?

— Аднак не ўсе дрэнныя ўчынкі можна дараваць ці выправіць.

— Да гэтага трэба імкнуцца. На жаль, на працягу шматлікіх стагоддзяў значная частка чалавецтва была засяроджаная толькі на помсце і на тым, каб атрымліваць ад яе асалоду. Таму людзі так і не навучыліся па-сапраўднаму даравать, а розныя народы так і не ведаюць, як жыць у згодзе адзін з адным. Але горш за ўсё тое, што жаданне помсціць так глыбока пусціла свае карані, што людзі больш не ведаюць, як існаваць без жорсткасці. І калі ты прапануеш ім пакінуць бязлітаснасць продкам, яны глядзяць на цябе,

як на вар'ята, які намагаецца адабраць у іх тое, без чаго іх жыццё зробіцца непаўнавартасным.

— Але што рабіць маці, чыё дзіця забілі?

— Наўмысна?

— Так.

— Ці варта існавання тое грамадства, дзе наўмысна забіваюць людзей?

Краты загрымелі. Усярэдзіну ўпусцілі Лекара, які прыйшоў даведацца пра стан дзівака. Пасля збіцця ў таго пачала круціцца і балець галава. Некаторыя дружыннікі нават груба жартавалі, што Валацуга заразіўся ад Магістра, які жыў у гэтым жа будынку і аднойчы прыйшоў паглядзець на вар'ята, што зрабіў шмат шкоды гораду.

Лекар увайшоў і адразу заўважыў Біну. Ён захапіўся кабетай у той самы момант, калі яна назвала свайго былога мужа дурнем. Лекар увесь час думаў пра яе, шукаў у Жоўтым бора і Таўне, але нават не здагадваўся, што з таго часу яна жыве на ферме. Ён гнаў ад сябе думкі, што быццам яму толькі падалося, што гэтая жанчына разважлівая, а насамрэч яна адна з тых, хто хутка стаў паслядоўнікам Чорнай змяі, якая паспела абвіць сваім целам увесь горад, і зараз поўзае на каленях перад ідалам ці ўвогуле сышла ў манастыр. Калі галоўны жрэц зразумеў, што яго культ ужо не спыніць, ён набыў будынак побач са свяцілішчам і зрабіў яго манастыром для жанчын. Усе, хто меў адвагу далучыцца да яго, станавіліся жонкамі галоўнага жраца. Прадстаўнік паўднёвага бора больш не саромеўся свайго хваста, таму вырашыў, што надышоў час нагнаць упушчанае. І ён зрабіў гэта, заснаваўшы, па сутнасці, гарэм.

На шчасце, першае ўражанне Лекара не было памылковае. Ён спадзяваўся, што кабета застанецца і дачакаецца, калі ён скончыць агляд, каб потым пазнаёміцца, але Біна

сказала Валацугу, што ёй трэба вяртацца на ферму, і, развітаўшыся, сышла.

Заўважыўшы смутак на твары Лекара, дзівак захацеў даведацца, што здарылася:

— Калі ты ўвайшоў у пакой, мне падалося, што я бачу самага шчаслівага чалавека ў свеце, але зараз ён кудысьці знік.

Спачатку Лекар не хацеў распавядаць Валацугу пра свае пачуцці да Біны, тым больш што побач былі чужыя людзі, аднак вырашыў, што і так чакаў шмат часу і што нельга губляць магчымасць, тым больш што ніхто не ведаў, які лёс чакае дзівака. Таму ён расказаў Валацугу, як першы раз пабачыў кабету і што з таго моманту толькі пра яе і думае.

Дзіваку падабалася, калі ён бачыў у вачах людзей шчырыя пачуцці, таму ён вырашыў дапамагчы Лекару і падказаў яму, дзе знайсці Біну. Ужо наступным днём Лекар быў на ферме Скватара. Усю дарогу ён намагаўся знайсці добрую нагоду, якая яго сюды прывяла. Урэшце ён надумаў сказаць праўду і запрасіць Біну ў Тэатр гумару, куды яму параіў схадзіць Валацуга. І яна пагадзілася. Яны схадзілі, а потым разам падзякавалі сябру.

Лекар запытаў у Біны, што здарылася з яе былым мужам. Тады яна яшчэ мела магчымасць зрабіць так, каб яго выгналі з горада, бо менавіта такім было пакаранне за любую праяву гвалту. І наўрад ці ён уратаваўся б, бо сведкам сваркі быў не толькі Лекар. Аднак кабета вырашыла прабачыць былога мужа, палічыўшы, што развод — дастатковае для яго пакаранне. Пазней ён неяк даведаўся, дзе жыве Біна, і прыйшоў прасіць, каб яна яму даравала. Яна адказала, што даўно гэта зрабіла. Тады ён запытаўся, чаму яна не вярнулася. А яна пацалавала яго ў шчаку ды пайшла на кухню. Больш ён не прыязджаў. Лекар сказаў, што гэта найлепшы канец, які толькі мог быць. Біна пагадзілася.

*Раздзел XX.*
*Пра тое, як Лекар спаткаў Біну*

Яны пачалі спаткацца часцей. Закахаліся. Праз нейкі час яна даведалася, што чакае дзіця. Калісьці гэтая тэма была падставай для таго, каб пасварыцца з мужам ды сысці ад яго. Зараз гэта стала навіной, якая прынесла вялікую радасць. Бо часам справа не ў традыцыях ды меркаваннях, а ў тым, хто побач.

# Раздзел XXI

## Пра тое, як Чырвоны канцлер ажаніўся з Красуняй

Красуня адразу зразумела, чаму ніхто з кандыдатаў не глядзеў на яе — яна прызначалася Чырвонаму канцлеру. Пра гэта ведалі загадзя, таму ўся ўвага жаніхоў была засяроджаная на іншых дзяўчатах. Красуня ніколі ў жыцці не адчувала сябе настолькі брыдка, як у той момант. Яна была не проста як бяспраўнае быдла, а як быдла, чый лёс быў даўно вырашаны. Як парсюк, якога гадуюць толькі для таго, каб потым з'есці. Аднак дзяўчына не збіралася здавацца. Яна вырашыла, што пакуль яна дыхае, яна не скарыцца чалавеку, які падманам збіраецца зрабіць яе сваёй жонкай.

Пра падман адразу ж падумаў і Карчмар, калі даведаўся, з кім павінна пабрацца шлюбам яго прыёмная дачка. Ён успомніў словы, якія сказаў Чырвоны канцлер, калі п'яным сыходзіў з аўстэрыі. Ён расказаў пра гэта Гаспадыні. Яна была ўпэўненая, што муж мае рацыю, але ніхто з іх не ведаў, як дапамагчы Красуні.

Не ведаў гэтага і Вандроўнік. Спачатку не спраўдзіліся яго надзеі даказаць, што Белы канцлер калісьці адлупца-

ваў Валацугу. У той момант каля недабудаванага Палаца Волі нікога не было, таму ён спадзяваўся адшукаць сведкаў сярод жыхароў тых дамоў, якія стаяць побач. Аднак амаль ніхто з дружыннікаў не пагадзіўся дапамагчы Вандроўніку. А тыя, хто захацеў, хутка адмовіліся, бо Ротмістр загадаў ім гэтага не рабіць, бо не верыў, што такі паважаны чалавек, як Белы канцлер апусціўся б да таго, каб лупцаваць нейкага жабрака, хай і разумнага. Кіраўнік дружыны сказаў Вандроўніку, што той, хутчэй за ўсё, памыліўся, і злачынцу ўжо не знайсці.

Пасля гэтай няўдачы хлопца чакала яшчэ адна. Ён паспрабаваў даведацца, навошта вартаўнік абылгаў Красуню. Але нічога новага ад яго не пачуў. Тады ён звярнуўся да капітана Таўна, каб той правёў расследаванне. Хутка да Вандроўніка прыйшоў раз'юшаны Ротмістр. Гэта быў першы раз, калі яго падначаленыя бачылі свайго кіраўніка ў такім стане. Ён выказаў хлопцу думку, што той чамусьці не любіць Белага канцлера і жадае яму ліха. Маўляў, спачатку хлопец абвінавачвае прадстаўніка паўднёвага бора ў гвалтаванні, а потым ставіць пад сумнеў яго прафесійныя навыкі, кажучы, што той вынес няправільны прысуд дзяўчыне. Ротмістр папярэдзіў Вандроўніка, што калі ён не скончыць абражаць гонар аднаго з сяброў Рады, то хутка апынецца там, дзе і яго кашлаты прыяцель.

Увесь вольны час хлопец бавіў у заезных дамах. Калі Карчмар адмовіўся прадаваць яму Шалёны напой, Вандроўнік пайшоў у іншую карчму. Калі яму і там перасталі наліваць алкагольныя напоі, ён рушыў у наступную. Хлопец бадзяўся па шынках, напіваўся ды распавядаў тым, хто быў гатовы трываць яго жальбы, што ён памыліўся, калі не прыслухаўся да Валацугі. Што яму не трэба было ісці ў горад, тады б ён не знайшоў і не страціў сябра і каханую, не адчуў бы сябе бездапаможным і канчаткова не расчараваў-

ся б у чалавецтве: маючы ўсё, што трэба, жыхары Вольнага горада ўзнялі ў сябе над галовамі сцягі мінулых часоў, пад цяжарам якіх і сканала вера ў лепшы свет.

Аднойчы Карчмар сказаў Вандроўніку, што той не мае права так сябе паводзіць, бо калі Красуня, апынуўшыся ў горшай сітуацыі, вырашыла змагацца да канца, то і хлопец таксама павінен гэта рабіць, бо наступны Вольны сход ужо блізка.

Тым часам Красуня вярнулася ў аўстэрыю і з жахам назірала за тым, як Чырвоны канцлер рыхтуецца да вяселля. У Вольным горадзе не існавала традыцыі ладзіць пышныя шлюбныя цырымоніі. Аднак прадстаўнік Захаду быў упэўнены, што ён, як чалавек заможны і які да таго ж мае ўладу, павінен яшчэ раз нагадаць жыхарам краю пра сваё становішча.

Ён арганізаваў вялікую працэсію і загадаў насельнікам Чырвонага бора, якія ў гэты дзень «працавалі на карысць горада», прысутнічаць на ёй. Большасць іх спачувалі Красуні, але былі і тыя, хто жартаваў: хто пераможа ў ложку — бунтарка ці сябар Рады?

Каб яшчэ больш зганьбіць дзяўчыну, Чырвоны канцлер вырашыў, што шлюбная цырымонія будзе праводзіцца ў адпаведнасці з патрыярхальнай традыцыяй. На галаву Красуні апранулі доўгі белы вэлюм, які спераду прыкрываў яе твар. Калі дзяўчына наблізілася да пасла Магістра, які рэгістраваў шлюб, да яе падышоў Карчмар. Ён зняў з яе вэлюм і перадаў яго Чырвонаму канцлеру як сімвал таго, што ад гэтага часу лёс дзяўчыны належыць не бацьку, хоць і прыёмнаму, а мужу. Карчмар з нянавісцю глядзеў на прадстаўніка заходняга бора, але мусіў удзельнічаць у гэтым, як ён казаў, ганебным абрадзе, інакш Чырвоны канцлер паабяцаў, што зробіць жыццё Красуні нясцерпным.

Якое адразу ж і стала такім.

Пасля вялікай працэсіі, што ахапіла ўвесь заходні бора, яго прадстаўнік прывёз жонку ў «Шалёны напой». Ён наўмысна зрабіў гэта, бо хацеў, каб іх першая сумесная ноч прайшла менавіта тут. Ён жадаў, каб Карчмар і Гаспадыня ведалі, што зараз адбываецца ў іх доме. Ён прагнуў, каб гэтая ноч сцерла ўсе добрыя ўспаміны Красуні пра аўстэрыю, дзе яна пражыла значную частку свайго жыцця. Ён планаваў забараніць ёй наведваць гэтае месца і быў у захапленні ад адной толькі думкі, што яе апошнім успамінам пра «Шалёны напой» будзе менавіта гэтая ноч.

Дзяўчына сядзела каля вакна ў сваім пакоі.

— Ідзі да мяне, — сказаў Чырвоны канцлер і лег на ложак.

— Ты прымусіў мяне пабрацца з табой шлюбам, аднак гэта ўсё, на што ты можаш спадзявацца.

— Не забывай, што ў нас традыцыйны шлюб і ты павінна выконваць усё, што я загадаю.

— А хто мяне прымусіць?

На твары мужчыны ўзнікла крывая ўсмешка. Ён падняўся з ложка, падышоў да дзяўчыны і ласкава дакрануўся да яе галавы. Красуня адхінулася.

— Калі ты не будзеш руплівая, я буду вымушаны размаўляць з табой іншай мовай, — голас Чырвонага канцлера дагэтуль быў спакойным.

Дзяўчына адвярнулася ад яго.

Ён зноў дакрануўся да яе галавы, правёў рукой па валасах, рэзкім рухам наматаў іх на далонь і пацягнуў угору. Красуня ўскрыкнула хутчэй ад нечаканасці, чым ад болю. Яна была вымушана падняцца. Канцлер, не адпускаючы валасоў, павярнуў яе да сябе.

— Мы ўсё яшчэ можам дамовіцца, — сказаў ён, дакрануўшыся другой рукой да сцягна дзяўчыны.

Яна з нянавісцю зазірнула яму ў вочы і плюнула ў твар. У адказ канцлер з такой моцай крутануў дзяўчыну, што яна

спачатку выцялася аб камоду, а потым паваліласа на ложак. У яго ж руцэ засталася пасма рудых валасоў. Скарыстаўшыся разгубленасцю Красуні, прадстаўнік Захаду адным крокам наблізіўся да яе, павярнуў на жывот і задраў начную кашулю. Праз імгненне дзяўчына зноў ускрыкнула.

На грукат прыйшоў Карчмар. Ён пачаў стукаць у дзверы:

— У вас усё добра?

— Усё добра, татачка, — адказала дзяўчына, ледзьве стрымліваючы слёзы.

Канцлер адразу працягнуў свой рух, нават не пачакаўшы, каб гаспадар аўстэрыі аддаліўся. Праз некалькі імгненняў сябар Рады аддаў новы загад:

— Скажы імя свайго каханага.

Красуня маўчала, глытаючы слёзы.

Канцлер узяў яе за горла і пачаў сціскаць яго.

— Я хачу пачуць імя твайго каханага, — зласліва, расцягваючы словы, прамовіў ён.

Дзяўчына пачала хрыпець і задыхацца, але маўчала. Прадстаўнік заходняга бора яшчэ мацней сціснуў ёй горла. Аднак усё роўна нічога не пачуў. Зразумеўшы, што яна хутчэй загіне, чым штосьці скажа, ён расслабіў пальцы і пачаў рухацца жвавей...

...Канцлер апрануўся і сышоў, пакінуўшы Красуню ў адзіноце. Слёзы беглі па яе шчаках, а ў галаве была толькі адна думка: «Я ніколі не скаруся табе».

Хутка ў дзяўчыны павінны былі распачацца тыя дні, падчас якіх штомесяц моцна пакутуюць жанчыны. Аднак гэтага не адбылося.

# Раздзел XXII

## Пра тое,
## як у Вольным горадзе
## здарылася першае забойства

Мур паміж Чорным і Чырвоным бора быў амаль гатовы. Беламу канцлеру ўсё ж такі ўдалося пераканаць Раду, што ўсе часткі загароды трэба будаваць разам. Першым адрэзкам стаў той, які адмяжоўваў Поўдзень ад Захаду. Белы і Чырвоны канцлеры настаялі на гэтым, таму што хацелі як мага хутчэй адгарадзіцца ад культу Чорнай змяі. Жоўты быў не супраць. Ён не баяўся святароў гэтага культу, бо меў уласных — паплечнікаў, якія так добра авалодалі прыёмамі пераканання, што пераважная колькасць жыхароў усходняга бора давяралі свайму прадстаўніку нават больш, чым самім сабе.

Спачатку Чорны канцлер паспрабаваў набыць у кожным бора маёмасць, каб аддзяленні яго культу былі паўсюль. Аднак зрабіць яму гэтага не ўдалося. Амаль уся маёмасць належала гораду. І каб штосьці набыць у іншых бора, трэба было дамаўляцца з іх прадстаўнікамі. Да грашовай рэфор-

мы людзі проста будавалі дамы і жылі ў іх. Яны ніколі не думалі, што ім давядзецца набываць гэтыя будынкі. Жытло было ў кожнага, і яно ўсё было добрае.

Сітуацыя змянілася пасля ўвядзення грошай. З'явілася дзесяціна, якую можна лічыць своеасаблівай платай за арэнду будынкаў. Каб дом стаў маёмасцю чалавека, яго трэба набыць. Толькі Магістр, канцлеры ды іх памагатыя мелі магчымасць зрабіць гэта, бо кошты былі спецыяльна завышаны.

У сваіх бора яго прадстаўнікі спакойна набывалі любы будынак: ім не трэба было ні з кім дамаўляцца. І яшчэ таму, што ўсе грошы ішлі ў казну Рады, якая і была гаманцом канцлераў. У выпадку з іншымі бора перашкодай маглі стаць не грошы, якія заўсёды заставаліся ў казне, а тое, што трэба было дамаўляцца з прадстаўніком той часткі горада, дзе знаходзіўся будынак. Кожны канцлер адказваў за свой бора, Магістр — за Таўн і фермы.

Канцлеры разумелі, навошта Чорнаму спатрэбіліся будынкі на іх тэрыторыі, таму і адмовіліся прадаваць яму хоць штосьці. Заможныя людзі таксама не хацелі гэтага рабіць. А ствараць аддзяленні ў Таўне і на фермах было бессэнсоўна: у цэнтральнай частцы людзі не шанавалі ідалаў, а на раўніне амаль усе ненавідзелі новых канцлераў.

Таму пакуль мур канчаткова не аддзяліў Захад ад Поўдня, галоўны жрэц вырашыў скарыстацца апошняй магчымасцю спакойна распаўсюдзіць свой культ.

Чорны канцлер наладзіў вытворчасць розных атрыбутаў: палотнішчаў, балваноў і нават кніг. Святары, якіх ён накіраваў ва ўсе часткі горада, распаўюджвалі гэтыя рэчы. Аднак галоўным артэфактам быў залаты палец ідала, які Валацуга адбіў вазонам. Чорны канцлер загадаў не прырабляць яго назад, а выкарыстоўваць у якасці святыні. Паводле легенды, прыдуманай кемлівым гандляром вечнага

жыцця, гэты палец быў абмыты крывёй галоўнага жраца і меў гаючыя ўласцівасці. Прадстаўнік Поўдня, як заўсёды, не забыўся падстрахавацца: чалавек, які пацалуе залаты палец, вылечыцца толькі ў тым выпадку, калі мае моцную веру. Не забыўся ён і на падстаўных калек, што адразу ж рабіліся здаровымі.

Гэта ўсё не падабалася астатнім канцлерам, але яны трывалі. У адрозненне ад некаторых жыхароў Вольнага горада, якія шанавалі старых ідалаў. Валацуга меў рацыю: Рада загнала сябе ў кут. Абураныя людзі пачалі спрачацца са святарамі, з пасламі Магістра, з дружыннікамі і з самімі канцлерамі. Яны разумелі, чаму культ Чорнай змяі атрымаў права свабодна распаўсюджваць свае ідэі, аднак яны не хацелі ўспрымаць гэта. Яны таксама жадалі бачыць на вуліцах горада сваіх ідалаў, сваіх святароў і свае капішчы. Канцлеры не маглі гэтага дазволіць, нават адгарадзіўшыся мурам адзін ад аднаго. Паслядоўнікі Чорнай змяі былі ўжо паўсюль, і яны выступалі супраць адраджэння старых ідалаў. У выніку Рада вырашыла падтрымаць новы культ, бо не жадала змагацца супраць усіх разам.

Аднойчы спрэчка паміж святарамі Чорнай змяі, якія ладзілі сход паслядоўнікаў у Чырвоным бора, і прыхільнікамі аднарогага ідала, што тут жылі, ператварылася ў сапраўдную бойку — першую ў гісторыі Вольнага горада. Падставай для яе стаў той самы залаты палец. Першыя выкарыстоўвалі яго падчас абраду, другія не хацелі, каб каля іх дамоў знаходзіўся артэфакт чужога культу.

Галоўны жрэц Чорнай змяі быў побач, але ён вырашыў назіраць за дзеяй на бяспечнай адлегласці. Каб разагнаць раз’юшаны натоўп, былі выкліканы дружыннікі Таўна, бо мясцовы капітан баяўся, што яго падначаленыя зоймуць бок прыхільнікаў аднарогага ідала, чый культ з’яўляўся традыцыйным для Захаду.

Даведаўшыся пра бойку, Чырвоны канцлер хутка прыехаў на плошчу, дзе яна адбывалася. Ён заўважыў, што прадстаўнік Поўдня не імкнецца патушыць полымя, таму наблізіўся да яго і запытаўся:

— Чаму ты не даеш загад, каб тvае дурні адступілі?!

— Ты не бачыш, што іх ужо не спыніць? — з усмешкай адказаў галоўны жрэц.

Гэта раззлавала прадстаўніка Захаду.

— Я не памятаю, каб мы дамаўляліся пра тое, што твае паслядоўнікі будуць мець права збіваць жыхароў майго бора! — пачаў крычаць Чырвоны канцлер.

— Мае паслядоўнікі ніколі не былі ініцыятарамі спрэчак, — спакойна сказаў Чорны. — Яны проста ладзяць сходы і нікога не чапаюць.

— Калі ты зараз не прыпыніш гэтую бойку, я дачакаюся маіх дружыннікаў і аддам ім загад ужыць зброю супраць тваіх вар'ятаў!

У гэты момант на плошчы з'явілася частка дружыны з Таўна. Каля дваццаці чалавек на конях адразу ж накіраваліся ў натоўп. Сярод іх быў і Вандроўнік.

Чырвоны канцлер усё-ткі вырашыў далучыцца да разгону. Ён з асуджэннем паглядзеў на Чорнага і таксама накіраваўся ў натоўп. Жыхары Вольнага горада ніколі не мелі зброі. Бойка была на кулаках. Дружыннікі мелі зброю, але не ўжывалі яе. Яны імкнуліся разагнаць людзей, распіхваючы іх пры дапамозе коней. Аднак галоўны жрэц меў рацыю: натоўп быў настолькі раз'юшаны, што яго было немагчыма спыніць. Нягледзячы на гэта, уся дзея нагадвала мурашнік, сачыць за якім было не вельмі цікава. Хутка нуда пачала ахопліваць Чорнага канцлера. І ён нават збіраўся з'ехаць, але затрымаўся, калі заўважыў, як Вандроўнік кінуўся на прадстаўніка Захаду і паваліў таго з каня. Раптоўна ўсе спыніліся і абступілі месца, дзе

адбылося падзенне. Галоўны жрэц вырашыў пад’ехаць бліжэй, каб даведацца, што здарылася.

Праз некалькі імгненняў ён убачыў на бруку двух непрытомных мужчынаў. У аднаго з іх была разбітая галава.

# Раздзел XXIII

## Пра тое, як Рада абмяркоўвала стварэнне Судзебніка

Новыя канцлеры былі ўпэўненыя, што надышоў час развітацца з адноснай беззаконнасцю, якая панавала ў Вольным горадзе на працягу траціны стагоддзя. Артыкулы Статута, дзякуючы якім вырашаліся спрэчкі, больш не працавалі. З улікам новых умоў выгнанне больш не магло з'яўляцца самым жорсткім пакараннем і ўвогуле павінна быць канчаткова скасавана. Рада мае ператварыцца ў чыста палітычны інстытут, а вырашэннем спрэчак абавязаны займацца іншыя людзі, напрыклад паслы Магістра, якія і так гэтым займаюцца на самым нізкім узроўні. Надышоў час пашырыць іх паўнамоцтвы.

Аднак канцлеры хацелі пакінуць за сабой апошняе слова ў самых складаных справах. У спрэчках паміж жыхарамі аднаго бора кожны канцлер сам выносіў бы прысуд. У выпадку, калі трэба было б вырашыць пытанне паміж

людзьмі з розных частак горада, Рада выносіла б прысуд калегіяльна. У Таўне і на фермах за гэта быў бы адказны Магістр.

Рада пачала абмяркоўваць стварэнне Судзебніка яшчэ да бойкі паміж паслядоўнікамі культу Чорнай змяі і прыхільнікамі аднарогага ідала, якая пазней унесла вялікую змену ў першапачатковыя планы канцлераў.

— Трэба адразу ж зазначыць, што любое злачынства супраць горада павінна карацца мацней, чым аналагічнае злачынства супраць звычайнага чалавека, — сказаў прадстаўнік паўночнага бора.

— Што ты маеш на ўвазе? — запытаў Жоўты канцлер.

— Напрыклад, калі злодзей скрадзе што-небудзь у звычайнага жыхара, то атрымае за гэта год зняволення. Калі скрадзе якую-небудзь рэч, што выкарыстоўваецца для будаўніцтва мура, — два.

— Зразумела. Але чаму?

— Калі хтосьці робіць шкоду жыхару, то ад гэтага пакутуе толькі адзін чалавек. Калі гораду — усё насельніцтва, — упэўнена адказаў Белы канцлер.

— Яшчэ было б добра, каб злачынствы супраць сяброў Рады таксама мелі больш цяжкія наступствы, чым супраць звычайных людзей. Нельга, каб насельніцтва без павагі ставілася да тых, кто ім кіруе, — дадаў Чырвоны.

— Згодзен! — падтрымаў яго Жоўты.

Астатнія станоўча кіўнулі галовамі.

— Я маю яшчэ адну прапанову, — працягнуў прадстаўнік паўночнага бора. — Каб трапіць у іншыя часткі горада, жыхары Таўна павінны будуць атрымаць пісьмовы дазвол ад канцлера таго бора, куды яны збіраюцца пайсці ці праз які яны хочуць прайсці, калі накіроўваюцца на фермы. Не так даўно мы хацелі ўвогуле забараніць ім пакідаць сваю частку горада і толькі дазваляць сыхо-

дзіць назаўсёды. Але зараз іншыя ўмовы, і трэба паказаць, што мы таксама дбаем і пра тых, хто жыве ў цэнтры. А каб пазбегнуць распаўсюду вальнадумства, увядзём пісьмовы дазвол на выхад. Тыя, хто паспрабуе выйсці з Таўна без яго ці не вернецца назад у азначаны час, будуць пакараныя.

— А калі жыхары іншых частак горада захочуць трапіць у Таўн?

— Вартаўнікі будуць выдаваць ім пропускі. Кожны будзе мець магчымасць трапіць у Таўн. Аднак не думаю, што ахвотнікаў будзе шмат, бо што там рабіць?!

— А што наконт гандлёвых пунктаў, якія мы хацелі пабудаваць на мяжы з Таўнам? — запытаў Жоўты канцлер. — Калі яго жыхары будуць мець магчымасць хадзіць на фермы, то ім не спатрэбіцца набываць у нас ежу.

— Не хвалюйся, — з хітрай усмешкай адказаў Белы, — выходзіць яны будуць толькі для таго, каб наведаць сяброў ці родных.

— Я таксама маю прапанову наконт вальнадумства, якое распаўсюджваецца не толькі падчас мітынгаў, — сказаў прадстаўнік Захаду. — Газеты пачалі пісаць бязглуздзіцу, якую калісьці казала мая жонка. Да таго ж Тэатр гумару, які мае аддзяленні ва ўсіх бора, высмейвае дзеянні Рады, а некаторыя мастакі малююць абразлівыя выявы канцлераў, якія выглядаюць на іх, як пачвары! У апошні час праявы вальнадумства можна заўважыць паўсюль, і гэта трэба прыпыніць. Таму я прапаную стварыць адмысловую камісію, якая будзе караць за вальнадумства ў мастацтве і журналістыцы. Бо калі гэтага не зрабіць, вельмі хутка нашаму гораду будзе нанесена шмат шкоды.

— Аднак з мітынгамі таксама трэба разабрацца, — дадаў Жоўты канцлер. — Да насельніцтва трэба давесці, што пратэсты псуюць падмурак грамадства. Што людзі, якія

ладзяць іх, выступаюць супраць Вольнага горада. Што бунтары не задаволены законамі новай Рады, якую абралі жыхары нашага краю, а гэта значыць, што яны не задаволены краем і жадаюць зруйнаваць яго. Таму іх трэба спыніць і пакараць.

— Маеш рацыю, — адказаў Чырвоны канцлер. Але не хвалюйся, мая жонка больш не будзе ладзіць мітынгі, я забараніў ёй гэта рабіць. А той жабрак, які дапамагаў Красуні, ужо колькі часу сядзіць за кратамі і таксама не здольны ўчыніць штосьці дрэннае.

— Дарэчы, што будзем рабіць з ім? — запытаўся прадстаўнік Усходу. — Было б добра нарэшце вырашыць гэтае пытанне.

— Пачакайце, — перапыніў Жоўтага канцлера Чорны. — Па-першае, бачу, што хтосьці адчуў хараство традыцыйнага шлюбу, падпарадкаваўшы сабе жонку і разам з гэтым пазбавіўшы нас ад галаўнога болю, які яна выклікала, калі яшчэ была вольнай птушачкай.

Чырвоны канцлер з задавальненнем усміхнуўся.

— Па-другое, — працягнуў Чорны, — я таксама маю прапанову!

— Ты зноў будзеш мучыць нас сваім вар'яцкім культам? — незадаволена запытаў прадстаўнік паўночнага бора. — Няўжо табе замала таго, што ты ўжо маеш? Няўжо ты не бачыш, да чаго прывяла нас твая бязглуздая ідэя?

— Бачу! І прагну спыніць варожасць. Таму хачу прапанаваць закон, згодна з якім будуць карацца тыя, хто выступае супраць чужога культу ці ганьбіць яго. Бо кожны чалавек мае права спакойна ўшаноўваць тых ідалаў, якія яму больш даспадобы.

— Так, пагроза пакарання павінна прымусіць прыхільнікаў старых ідалаў супакоіцца, — Чырвоны канцлер падтрымаў Чорнага.

— Колькі ўжо можна патураць гэтаму нахабніку?! — раззлаваўся прадстаўнік Поўначы. — Я больш не хачу гэтага рабіць!

— Ну а я не хачу займацца вашым Судзебнікам, — спакойна прамовіў Чорны канцлер. — У маім бора і так усё добра.

— Супакойцеся, — Жоўты, як заўжды, вырашыў прыпыніць патэнцыйную спрэчку да таго, як яна ахопіць полымем усю Раду, — зараз мы проста выслухоўваем прапановы. Вырашаць будзем потым.

— Вяртаючыся да жабрака, — да размовы далучыўся Магістр, які, нягледзячы на хваробу, вырашыў узяць удзел у стварэнні Судзебніка, бо не хацеў, каб новыя канцлеры канчаткова загубілі Вольны горад. На сконе дзён стары жадаў прынесці карысць краю, які любіў усім сэрцам, аднак атрымлівалася ў яго гэта не вельмі добра.

— Так, ёсць прапановы наконт таго, што з ім рабіць? — запытаў прадстаўнік усходняга бора.

— Нядаўна я ўспомніў, як калісьці на маёй радзіме абыходзіліся з тымі, хто рабіў шмат шкоды грамадству.

Канцлеры з цікаўнасцю паглядзелі на Магістра. Пра традыцыі свайго роднага краю стары ўспамінаў толькі ў самыя цяжкія перыяды хваробы. Тады, калі яна цалкам авалодвала ім.

— Нашы ўладары, — працягнуў ён, — аддавалі загад пасадзіць злачынца ў клетку і цэлы дзень вазіць яго па горадзе, каб мясцовыя жыхары абражалі і ўсяляк здзекваліся з яго. Гэтым уладары хацелі прадэманстраваць, якім не павінен быць добры чалавек і што здарыцца з тым, хто абярэ крымінальны шлях. Да клеткі прыбівалі дошчачкі, на якіх было напісана, якую шкоду зрабіў асуджаны. Далёка не ўсе былі пісьменныя і не кожны разумеў, што напісана на дошчачках, але гэтага і не трэба было ведаць, бо калі

ўладар загадваў пасадзіць чалавека ў клетку — значыць, на гэта былі падставы. Народ лічыў, што ўладар не можа памыляцца, таму спакойна выконваў тое, што ад яго чакалі: біў па клетцы палкамі, пляваў у злачынцу, кідаў у яго сапсаванай ежай ды ўвогуле па-рознаму выказваў сваю нянавісць да асуджанага.

— Добра ідэя! — Чырвоны канцлер пасміхнуўся. — Але няўжо мы яго потым адпусцім?

— Не, — адказаў Магістр. — Ён будзе апошні, каго мы выганім з Вольнага горада. Няма сэнсу трымаць гэтага жабрака за кратамі. Я бачыў яго — такіх людзей немагчыма перавыхаваць. Ён працягне чыніць шкоду нашаму грамадству пасля таго, як скончыцца яго пакаранне.

— Дык, можа, патрымаем яго за кратамі год ці два, а ўжо потым выганем? — запытаўся прадстаўнік усходняга бора.

— Навошта псаваць на яго сродкі? — адказаў Магістр. — Хай пасля клеткі ідзе куды захоча.

Усе пагадзіліся са старым...

...Аднак забойства Чырвонага канцлера змяніла меркаванне Рады. Пасля трагічнай падзеі было неадкладна склікана пасяджэнне, падчас якога вырашалі прызначыць Валацугу іншы вырак.

— Мы павінны ўвесці смяротнае пакаранне, каб такога больш ніколі не паўтарылася! — пачаў Белы канцлер, які страціў прытомнасць, калі даведаўся пра тое, што здарылася. — Людзі павінны разумець, што іх чакае, калі яны вырашаць забіць аднаго з сябраў Рады!

— Так! — пагадзіўся Жоўты. — Судзебнік ужо складзены, дадамо да яго апошні артыкул і ўхвалім!

— Пачакайце, — Магістр перапыніў узбуджаных канцлераў. — Гэта вельмі сур'ёзнае пакаранне, і нам трэба вырашыць, згодна з якім крытэрыем яно павінна выносіцца.

Прадстаўнік усходняга бора супакоіўся першым. Ён адразу зразумеў, што стары мае рацыю. Смяротнае пакаранне — вельмі сур'ёзны прысуд, таму трэба з усёй адказнасцю падысці да яго прыняцця.

— Добра, якія ёсць прапановы? — запытаў ён.

— Я зараз не ў стане цвяроза разважаць, аднак дакладна ведаю, што за забойства сябра Рады трэба караць смерцю! — сказаў прадстаўнік паўночнага бора, рукі якога так трусіліся, што ён нават не мог адпіць віна з кубка, каб хоць трохі супакоіцца.

— Гэта і так зразумела, — адказаў Жоўты канцлер, з жалем паглядзеўшы на Белага. — Мне падаецца, што будзе справядліва караць смерцю за смерць. Нягледзячы на тое, наўмысна чалавек забіў іншага ці не.

— Можа, крэўная помста будзе лепей? — запытаў Чорны, задуменна паглядзеўшы на шэрае неба, якое прадвяшчала дождж. — Забіў сына — аддай свайго. Няма сына — аддай дачку. Няма дзяцей — аддай жонку. Калі і яе няма, тады ўжо сам лезь у пятлю. Ці яшчэ якія варыянты.

— Ніхто не павінен несці адказнасць за тое, што зрабіў іншы чалавек, і ніхто не павінен страчваць жыццё за тое, што ненаўмысна адняў яго, бо гэта выпадкова можа здарыцца з кожным з нас! — цвёрда сказаў Магістр.

— Добра, — Чорны канцлер падняў рукі ўгору. — Я проста прапанаваў, бо ўспомніў, што ў адной з паўднёвых краін ёсць такі закон.

— Аднак смяротнае пакаранне можна выносіць не толькі за забойства, а таксама і па сукупнасці іншых цяжкіх злачынстваў, — працягнуў Магістр, не звярнуўшы ўвагі на крыўлянне прадстаўніка Поўдня. — Пасля трагічнай падзеі я лічу, што справу жабрака, які сядзіць у Старой вежы, усё ж такі будзе лепей разглядаць згодна з гэтай часткай артыкула, калі мы яе зацвердзім. І на тым я настойваю, бо

менавіта яго дзеянні паўплывалі на тое, што быў забіты адзін з сяброў Рады!

— Тады прапаную ўхваліць наступнае: прызначаць смяротнае пакаранне за наўмыснае забойства жыхара Вольнага горада, за забойства сябра Рады, а таксама калі сукупнасць іншых цяжкіх злачынстваў перавышае дапушчальныя нормы, — прапанаваў Жоўты канцлер.

Усе пагадзіліся, вырашыўшы не пазначаць у Судзебніку межы дапушчальных нормаў, а пакінуць гэта на водкуп тым, хто будзе выносіць прысуд.

# Раздзел XXIV

## Пра тое, як выбіралі новага Чырвонага канцлера

Канцлеры вырашылі, што суд над Вандроўнікам павінен распачацца неадкладна. Аднак Магістр нагадаў ім, што згодна са Статутам абранне новага сябра Рады з’яўляецца прыярытэтнай справай у выпадку, калі той сыходзіць ці памірае і калі пасля гэтай падзеі да наступнага Вольнага схода застаецца не менш чым сем тыдняў. Зараз жа заставалася на адзін больш. Гэта азначала, што канцлеры не толькі не маглі распачаць суд, але і павінны былі адкласці прыняцце Судзебніка.

Канцлеры былі раззлаваныя, аднак не рызыкнулі адкрыта парушыць закон. Тым больш што тая частка насельніцтва, якая павінна была абраць сабе новага прадстаўніка ў Радзе, адразу ж пачала абмяркоўваць магчымыя кандыдатуры...

...Красуня адчула сябе самым шчаслівым чалавекам у свеце, калі даведалася, што яна зноў свабодная. Дзяўчына памятала словы Валацугі, які калісьці сказаў ёй, што

нельга радавацца смерці чалавека, нават самага дрэннага. Таму што гэтая радасць, якая здаецца праведнай, насамрэч з'яўляецца зернем злосці, што аднойчы можа вырасці ў дрэва нянавісці. І тады чалавек пачне ўспрымаць любога, хто з ім не згодны, як ворага. І сам ператворыцца ў пачвару.

Яна гэта памятала, таму вырашыла назаўсёды забыць злодзея, які зрабіў ёй шмат шкоды, і проста радавацца свабодзе.

Пасля смерці Чырвонага канцлера Красуня атрымала ў спадчыну ўсё, што яму належала. Вывучыўшы дакументы, кемлівая дзяўчына адразу зразумела, што заможнасць новых канцлераў грунтуецца на шматлікіх парушэннях Статута, што казна Рады з'яўляецца іх бяздонным гаманцом і што яны злоўжываюць пасадамі кіраўнікоў манетнага двара. Усё гэтую інфармацыю Красуня планавала выкарыстаць падчас наступнага Вольнага схода. Таксама яна жадала расказаць пра сваю знаходку Вандроўніку, аднак Ротмістр назваў хлопца «злачынцам вышэйшага гатунку», пасадзіў яго ў асобны пакой і забараніў любыя візіты, акрамя тых, якія кіраўнік дружыны лічыў неабходнымі...

...Карчмар і Гаспадыня нават выказалі падзяку ідалам, якіх ніколі не шанавалі, калі даведаліся, што Чырвоны канцлер загінуў. Красуня расказала сваім прыёмным бацькам пра словы Валацугі, што нельга радавацца чужой смерці. Гаспадыня на імгненне задумалася, а потым сказала:

— Далёка не кожны здольны быць такім, як гэты дзівак.

— Аднак жа ён мае рацыю, — вымавіў Карчмар, пачасаўшы патыліцу.

— Ты што, не рады, што дачка з палону вызвалілася? — запыталася ў яго жонка, зрабіўшы вялікія вочы.

— Рады, але...

— Ну, вось і цудоўна! — кабета рашуча перапыніла мужа.

Красуня расказала прыёмным бацькам пра злачынствы Рады і пра тое, што збіраецца выкрыць новых канцлераў падчас наступнага Вольнага схода. Гаспадыня раз'юшылася і параіла зрабіць гэта зараз, перад выбарамі на пасаду прадстаўніка Чырвонага бора. Пасля невялікай спрэчкі дзяўчыне і Карчмару ўдалося пераканаць кабету, што трэба яшчэ трошкі пачакаць.

— Добра, — здалася тая. — Ты мне лепей скажы, ці чакаць нам унука? Мы яго ўсё роўна любіць будзем, нягледзячы на тое што яго бацька мярзотнік. Выгадуем добрага хлопца, аднойчы заменіць дзеда ў аўстэрыі.

— Не, мамачка, — усміхнулася Красуня, — не гэтым разам. Здаецца мне, што я так моцна знервавалася, што маё цела не вытрымала ды пачало паводзіць сябе незвычайна. Аднак хутка ўсё наладзілася.

— Так яшчэ лепей! — узрадавалася Гаспадыня. — Калі-небудзь займееш дзіця ад добрага чалавека, а не ад мярзотніка. А калі не займееш, дык для сябе пажывеш. Шкада толькі, што Вандроўнік мярзотніка забіў, а не хто іншы. Добры хлопец, і мужам добрым табе стаў бы. А зараз не вядома, што з ім зробяць.

— Не кажы так, даражэнькая! — сказаў Карчмар. — Мо гэта не ён забіў. Там яшчэ не вядома нічога. Да яго ж нікога не пускаюць.

— Так, — самотна прамовіла Красуня, — я хадзіла некалькі разоў да Старой вежы і нават з Ротмістрам гутарыла.

— А ён што? — пацікавілася Гаспадыня.

— Сказаў, што мне належыць быць добрай удавой ды ў жалобе хадзіць, а не да злачынца заляцацца.

— Хай сам у жалобе па гэтым мярзотніку ходзіць! — Кабета грукнула кулаком па стале. — Лепей бы дакладна вы-

значыў, што насамрэч адбылося падчас той бойкі, а не парадамі сваімі людзям галовы тлуміў...

...Суд над Вандроўнікам павінен быў адбыцца адразу пасля абрання новага Чырвонага канцлера. Жыхары Вольнага горада, якія мелі заходнія карані, вельмі актыўна пачалі шукаць таго, хто быў бы здольны па-сапраўднаму бараніць іх інтарэсы ў Радзе. Папярэдні прадстаўнік Захаду быў абраны выпадкова, праз страх, абыякавасць і хцівасць большасці сенатараў, якія падвялі тых, хто ім даверыўся.

Гэта быў першы раз у гісторыі краю, калі канцлер абіраўся не падчас Вольнага схода. Аднак працэс выбараў быў такі самы. Усё насельніцтва падзялялася на чатыры часткі адпаведна паходжанню. Потым кожная частка вылучала сенатараў — па адным на сто чалавек. Пасля гэтага сенатары збіраліся ў агромністым Палацы Адзінства, які месціўся на раўніне і ў якім адначасова маглі пражываць да паўтары тысячы чалавек. Звычайна яны абмяркоўвалі дасягненні дзейнага канцлера, рабілі прапановы, частку з якіх ухвалялі. Канцлер абяцаў іх выканаць, пасля чаго сенатары перавыбіралі яго. Так было на працягу трыццаці трох гадоў.

Падчас апошняга Вольнага схода адпрацаваная сістэма дала збой. Сенатараў, якія прадстаўлялі патрыярхальныя колы, абурыла прапанова рэфармаваць Раду. Яны адмовіліся падтрымаць дзейных канцлераў і вылучылі сваіх кандыдатаў. Пасля гэтага пачаліся спрэчкі, якія цягнуліся некалькі тыдняў. У выніку гучная меншасць дзякуючы запалохванням, нядзейсным абяцанням і абыякавасці некаторых сенатараў, што не былі гатовыя да працяглых перамоў і пакінулі сход яшчэ да галасавання, дамаглася свайго, прасунуўшы на ўсе пасады ўласных кандыдатаў.

Гэтым разам заходнікі даверылі свой лёс двумстам дзесяці чалавекам, кожны з якіх быў гатовы змагацца да апошняга. Патрыярхальныя колы мелі самую невялікую падтрымку сярод людзей, якія паходзілі з Захаду. Менш як траціна сенатараў, шэсцьдзесят чалавек, прадстаўлялі іх інтарэсы.

Былі вылучаныя два кандыдаты. Юракан ад патрыярхальных колаў, і Гэндэнвіта ад тых, хто ім супрацьстаяў. Першы прытрымліваўся радыкальных поглядаў. Ён казаў, што розныя народы ніколі не стануць адным, таму што вымруць, калі пачнуць мяшацца. Таксама ён быў упэўнены, што Таўн і фермы трэба падзяліць паміж бора, пасля чаго надаць кожнаму з іх аўтаномію.

Гэндэнвіта выступала за скасаванне ўсіх законаў, якія ўхвалілі новыя канцлеры. Яна казала, што трэба зруйнаваць мур паміж часткамі Вольнага горада: горад быў пабудаваны на прынцыпах адзінства і ён павінен рухацца менавіта ў гэтым кірунку. Усім жа, хто хоча жыць паводле патрыярхальных традыцый, яна параіла сысці і вярнуцца на радзіму. Акрамя таго, яна збіралася зрабіць культ Чорнай змяі не публічным, каб ён быў «хатні», як і ўсе астатнія.

Пачалася барацьба. Ніхто не хацеў саступаць. Штодзень сенатары абмяркоўвалі, спрачаліся, а потым сварыліся. Прадстаўнікі патрыярхальных колаў нават падумвалі пра тое, каб падкупіць праціўнікаў, але хутка адмовіліся ад гэтай ідэі, бо ўсіх падкупіць усё роўна не атрымаецца. А менавіта так, аднагалосна, згодна са Статутам абіраліся канцлеры. У свой час Заснавальнік і Магістр вырашылі, што жыхары Вольнага горада павінны ўмець дамаўляцца, калі яны хочуць жыць у згодзе, таму ўсе пытанні трэба вырашаць не большасцю, а адзінствам.

Аднак цяпер Вольны горад не быў у стане гэтага зрабіць. Запалохванні і пустыя абяцанкі, якія спрацавалі мінулым

разам, больш не дапамагалі патрыярхальным сенатарам, як і тое, што за тры тыдні спрэчак ніводзін чалавек не з'ехаў з Палаца Адзінства. Гэта раздражняла канцлераў. Яны прагнулі помсты і хацелі як мага хутчэй распачаць суд над Вандроўнікам. Было відавочна, што заходнія сенатары не дамовяцца, а гэта азначала, што суд адбудзецца ўжо пасля Вольнага схода. Згодна са Статутам за месяц да яго канцлеры складваюць паўнамоцтвы і пачынаюць рыхтавацца да пераабрання. У гэты прамежак часу Магістр і яго паслы працягваюць працаваць, але вырашаюць толькі самыя неадкладныя справы.

У канцлераў заставаўся ўсяго тыдзень на тое, каб распачаць суд над Вандроўнікам. Таму яны вырашылі папрасіць дапамогі ў патрыярхальных колаў. Канцлеры паабяцалі, што ў выпадку іх пераабрання, яны будуць ухваляць выключна тыя законы, якія патрэбны іх саюзнікам, і больш не прымуць ніводнага рашэння без іх згоды.

Кіраўнікі патрыярхальных колаў прынялі прапанову канцлераў, пасля чаго загадалі сваім заходнім сенатарам адступіцца. Спачатку тыя не хацелі, бо былі не супраць таго, каб першыя пазачарговыя выбары ператварыліся ў звычайныя. Менавіта гэта і здарылася б, але патрырхальныя сенатары саступілі і ўхвалілі кандыдатуру Гэндэнвіты пасля таго, як кіраўнікі прыгразілі адлучыць іх ад удзелу ў Вольным сходзе.

Новы Чырвоны канцлер павінен быў скласці паўнамоцтвы праз некалькі дзён, каб пачаць рыхтавацца да наступнай, больш лютай бітвы.

Аднак ніхто не здольны прадказаць свой лёс...

# Раздзел XXV

## Пра тое, як Вандроўніка і Валацугу прыгаварылі да смяротнага пакарання

Канцлеры толькі часткова дамагліся свайго. У іх быў час, каб правесці суд, але, каб гэты суд адбыўся, ім трэба было ўхваліць Судзебнік. Сябры Рады прыйшлі да Гэндэнвіты напярэдадні яе прысягі. Яны хацелі дамовіцца з кабетай яшчэ да таго, як яна афіцыйна ўступіць на пасаду, каб потым не траціць на гэта час. Такім чынам, пасля яе прысягі ў іх засталося б яшчэ тры дні для таго, каб зацвердзіць Судзебнік і завершыць справу Вандроўніка. Гэтага было дастаткова.

— Я ніколі не ўхвалю ніводнай вашай прапановы, — смеючыся, сказала Гэндэнвіта. — Хіба вы гэтага не ведаеце?

— Калі ты не ўхваліш Судзебнік, то страціш прыхільнасць насельніцтва, — пачаў ціснуць Жоўты канцлер.

— Што ты вярзеш? Мяне толькі што абралі! І якраз для таго, каб я не дазваляла вам прымаць дурныя законы.

— Добра, твая праўда, — лагодна сказаў прадстаўнік усходняга бора. — Але ты павінна разумець, што калі мы не зацвердзім Судзебнік, хаос апануе горадам. Тыя артыкулы Статута, якімі раней карысталіся для вырашэння спрэчак, больш не працуюць. Каб захаваць ў Вольным горадзе спакой, нам трэба правесці гэтую рэформу.

— Досыць напышлівых словаў! — Гэндэнвіта зноў пачала смяяцца. — Я не веру вам. Падчас Вольнага схода вас пагоняць з пасад — і горад адродзіцца. Статут зноў запрацуе, і адновіцца ўсё, што вы паспелі зруйнаваць!

Канцлеры паглядзелі адзін на аднаго.

— На гэтым вашыя аргументы скончыліся? — з усмешкай запыталася кабета. — Ха, а мяне пужалі тым, што з вамі страшна мець справу.

— Відаць, нам не засталося нічога іншага, — сказаў Чорны канцлер, яшчэ раз паглядзеўшы на сваіх калег.

— Так, — задумліва адказаў Жоўты.

Некалькі імгненняў у пакоі стаяла цішыня, якую парушыў прадстаўнік паўночнага бора:

— Калі ты ўхваліш Судзебнік, мы гатовыя ўвесці пасаду Вярхоўнага суддзі і аддаць яе табе. Аднак мы хочам, каб ты не пераабіралася ў якасці канцлера.

— І што мне дасць пасада Вярхоўнага суддзі?

— Ты будзеш разглядаць справы паміж жыхарамі розных частак горада.

— А што наконт спрэчак паміж жыхарамі ў межах аднаго бора?

— Гаспадыня, калі ласка, — з усмешкай сказаў Жоўты канцлер, — пакіньце нам вырашаць справы на нашай тэрыторыі. Мы і без таго пакідаем вам вялікі кавалак.

— Аднак калі я пагаджуся не пераабірацца, то страчу магчымасць уплываць на прыняцце законаў. А гэты кавалак значна большы, чым той, што вы мне прапануеце.

— А што, калі Вярхоўны суддзя будзе мець уплыў на прыняцце новых і змяненне старых артыкулаў Судзебніка?

— А Статут?

— Грамадзянскія законы пакіньце Радзе, — з сур’ёзным выразам твару адказаў Жоўты канцлер.

— Гэта яшчэ з кім тут цяжка мець справу? — жартаўліва запытаўся Белы.

— Я падумаю. І дашліце мне сёння Судзебнік. Я хачу вывучыць яго.

Канцлеры задаволена паглядзелі адзін на аднаго.

— І яшчэ, — раптоўна сказала Гэндэнвіта.

Сябры Рады, якія былі ўжо на выхадзе, прыпыніліся. Зараз яны выглядалі занепакоенымі.

— Колькі часу будзе чалавек мець права займаць пасаду Вярхоўнага суддзі? І перад кім ён будзе справаздачны?

— А колькі ты хочаш? — з хітрай усмешкай запытаўся Белы канцлер.

— Я хачу, каб усё было законна! — сярдзіта адказала кабета.

— Вось і паразважай над гэтымі пытаннямі. Няхай гэта будзе тваё першае выпрабаванне. Зрабі ўсё справядліва, а мы заўтра паглядзім, як у цябе атрымалася, — у голасе ўсходняга канцлера не было ніводнай ноты здзеку.

Гэндэнвіта зразумела гэта і станоўча кіўнула галавою.

Наступным днём канцлеры прыехалі да кабеты зранку, каб мець магчымасць спакойна абмеркаваць учорашнюю прапанову.

— Я згодна, — сказала Гэндэнвіта, якая неўзабаве павінна была стаць не толькі першай жанчынай-канцлерам, але і першым Вярхоўным суддзёй Вольнага горада. — Аднак я ўжо скарысталася магчымасцю ўплываць на артыкулы Судзебніка.

— Хто б сумняваўся, — трохі раздражнёна прамовіў прадстаўнік паўночнага бора.

— Я ўнесла змены ў артыкул аб смяротным пакаранні.

— Ці не занадта для першага разу? — Белы канцлер быў гатовы выбухнуць.

— Пачакай, — спакойна сказаў Жоўты, — давай паслухаем.

— Смяротнае пакаранне не павінна прысуджацца толькі за тое, што чалавек кагосьці забіў. Трэба ўлічваць усе абставіны. Наўмысна — не заўсёды значыць, што ён планаваў зрабіць гэта і што потым не раскаяўся.

— Спадзяюся, пасада сябра Рады ўсё яшчэ з'яўляецца важкай акалічнасцю? — нервова запытаўся Белы канцлер.

— Безумоўна, але...

— Ніякіх але! — не вытрымаў прадстаўнік Поўначы.

Гэндэнвіта вырашыла не спрачацца, таму што трэба было абмеркаваць і папярэдне зацвердзіць шэраг іншых паправак. Кабета і канцлеры накіраваліся да Старога палаца, дзе яна дала прысягу і афіцыйна стала прадстаўніком заходняга бора...

...Магістр вывучыў апошнюю версію Судзебніка і пагадзіўся ўхваліць яго. Наступным днём Рада зацвердзіла новы дакумент. А яшчэ праз дзень распачаўся суд не толькі над Вандроўнікам, але і над Валацугам. На гэтым настойваў Магістр, які жадаў, каб горад пазбавіўся ад галоўнага злачынца да Вольнага схода, бо лічыў, што нельга пачынаць новы гістарычны адрэзак са старымі праблемамі.

Гэтыя працэсы выклікалі яшчэ большую цікавасць, чым справа Красуні. Вакол Старога палаца сабралася столькі людзей, што дружыннікі мусілі вызваляць дарогу перад канцлерамі і магістрам. Натоўп хацеў даведацца, не толькі як пакараюць галоўнага злачынцу і першага забойцу

ў Вольным горадзе, але і што ўяўляе з сябе новы Чырвоны канцлер, які адразу ж быў прызначаны Вярхоўным суддзёй.

Гэндэнвіта спазнялася. Людзям надакучыла яе чакаць. Некаторыя пачалі жартаваць, што яшчэ крышачку — і ўжо яе саму трэба будзе судзіць за марнаванне чужога часу. Чорны канцлер наблізіўся да сваіх калег і шэптам сказаў:

— Справа зроблена.

Праз імгненне на сярэдзіну пярэдняй часткі залы выйшаў Ротмістр, які гучна абвесціў, што нейкі вар'ят забіў Вярхоўнага суддзю, калі яна накіроўвалася да Старога палаца. Людзі пачалі жвава абмяркоўваць нечаканую навіну. У зале стаяў такі гул, што Ротмістру не адразу ўдалося перакрычаць яго. Калі натоўп зразумеў, што трэба сціхнуць, і зрабіў гэта, кіраўнік дружыны голасна сказаў, што суд усё роўна адбудзецца. Таксама ён паведаміў, што яго падначаленыя ўжо пачалі высвятляць абставіны забойства.

Згодна з артыкулам, які прапанавала сама Гэндэнвіта, намеснікам Вярхоўнага суддзі з'яўляўся Магістр. Ён браў на сябе ўсе абавязкі ў выпадку смерці ці недзеяздольнасці кіраўніка Інкантола — менавіта такую назву атрымала новая ўстанова, якая стала найвышэйшым судом Вольнага горада.

Магістр заняў месца Вярхоўнага суддзі. Першым выклікалі Вандроўніка. Яму прапанавалі распавесці сваю версію таго, што адбылося на плошчы падчас бойкі.

— Калі мы разганялі натоўп, у мяне выпала зброя, — пачаў хлопец. — Я не адразу заўважыў гэта і працягнуў супакойваць раз'юшаных людзей. Праз некаторы час я заўважыў чалавека, у руках якога была зброя. Я пацягнуўся рукою да пояса, каб праверыць, ці на месце мая, аднак адразу ж зразумеў, што не. Гэты чалавек павольна, нібы змоўшчык, набліжаўся да Чырвонага канцлера, чый конь хістаўся на адным месцы. Ён захраснуў у натоўпе і не мог

выбрацца. Здавалася, што ніхто не заўважае незнаёмца са зброяй. Я накіраваў свайго каня ўбок канцлера і, калі зразумеў, што загадкавы чалавек збіраецца нанесці ўдар, кінуўся на сябра Рады, каб ратаваць яго. Больш нічога не памятаю. Ачуўся ў Старой вежы. Мне сказалі, што я забіў прадстаўніка Чырвонага бора.

Ніхто з таго вялікага натоўпу не заўважыў, як і чаму Вандроўнік кінуўся на канцлера. Акрамя галоўнага жраца культу Чорнай змяі, які назіраў за бойкай на адлегласці. Ён пацвердзіў, што хлопец кінуўся на яго былога калегу, але сказаў, што не бачыў ніякага загадкавага чалавека са зброяй.

Ротмістр пацвердзіў, што ў Вандроўніка не было зброі, калі дружыннікі паднялі яго, каб адвезці ў Старую вежу. Зброя ляжала побач з канём канцлера. Чырвоны ж загінуў, моцна ўдарыўшыся галавою аб брук. Аднак кіраўнік дружыны быў упэўнены, што не існавала ніякага загадкавага чалавека і што зброя выпаліся, калі хлопец кінуўся на канцлера. А потым, каб выратаваць сябе, Вандроўнік прыдумаў гісторыю з містычным незнаёмцам.

— Тады адкуль я ведаю, што ў мяне не было зброі? — запытаўся хлопец.

— Мабыць, ты адчуў, як яна вывалілася, калі кінуўся забіваць канцлера. Ці які дружыннік потым расказаў табе, што яна ляжала побач. Не ведаю, гэта не істотна, — упэўнена адказаў Ротмістр.

Ніводзін з дружыннікаў, якія разганялі натоўп, не памятаў, ці казаў ён Вандроўніку, што ў таго выпала зброя. Аднак ніхто з іх не адмаўляў таго, што мог гэта зрабіць.

Пасля справы хлопца адразу пачалі вырашаць лёс Валацугі. Дзівак меў усё такую ж кудлатую бараду і кашлатыя валасы. Ён адмовіўся ад прапановы Ротмістра пагаліцца перад судом і зайшоў у залу, дзе адбывалася пасяджэнне,

маючы свой звыклы выгляд. Некаторыя людзі, якія раней не бачылі Валацугу, пачалі перашэптвацца і грэбліва разглядаць дзівака. А ён толькі лагодна ўсміхаўся ў адказ.

Магістр зачытаў спіс злачынстваў, што здзейсніў дзівак:

— Першае: псаваў грамадскую ўласнасць падчас будаўніцтва мура. Другое: хаваўся ад правасуддзя. Трэцяе: дапамагаў ладзіць мітынгі і падбухторваў насельніцтва, што магло прывесці да бунту. Чацвёртае: сапсаваў уласную маёмасць культу Чорнай змяі, пазней адламаны кавалак ідала стаў прычынай бойкі, якая прывяла да забойства аднаго з сяброў Рады. Ці прызнаеш ты сябе вінаватым у гэтых злачынствах?

— Я прызнаю, што зрабіў усё гэта. Але ці можна называць ката сабакам?

Магістр аслупянеў ад такога адказу. Ён углядаўся ў дзівака, зазіраў яму ў вочы і маўчаў.

— Ці маю я магчымасць аспрэчыць некаторыя дэталі абвінавачванняў? — запытаўся Валацуга, зразумеўшы, што Магістр не збіраецца нічога адказваць на яго папярэдняе пытанне.

— Безумоўна! — цвёрда адказаў кіраўнік Рады, які на імгненне перастаў углядацца ў дзівака.

— Першае. Ці трэба караць старога няўмеку за тое, што ў яго ўсё валіцца з рук?

Па зале прабег ледзьве чутны смех.

— Другое. Ці мае сэнс хавацца чалавеку, у якога на галаве такія цудоўныя пасмы? — Валацуга жартаўліва патузаў сваю бараду і валасы. Паглядзеўшы ў залу, ён дадаў: — Ці сталі б вы хаваць пудзіла ў поле з жытам, спадзеючыся, што яго ніхто не знойдзе?

На гэты раз смех было чуваць добра.

— Трэцяе. Статут не забараняе ладзіць мітынгі.

— Судзебнік, які Рада афіцыйна зацвердзіла ўчора, забараняе ладзіць мітынгі, на якіх людзей падбухторваюць да непаслушэнства, — сказаў Магістр, які дагэтуль угледаўся ў дзівака.

— Але ж я дапамагаў ладзіць мітынгі яшчэ да таго, як шаноўная Рада ўхваліла Судзебнік.

— Аднак судзім мы цябе зараз! — рашуча вымавіў Магістр.

— Рыхтуйцеся! — Валацуга зноў звяртаўся да людзей у зале. — Вы ўсе таксама маеце магчымасць хутка апынуцца за кратамі, бо хто ведае, што Рада збіраецца ўхваліць заўтра? Бойцеся тыя, хто апранае штаны не праз галаву, аднойчы вас таксама назавуць злачынцамі!

У некаторых месцах смех перарос у рогат. Магістр зразумеў, што дзівак намагаецца ператварыць судзебнае пасяджэнне ў камічную дзею. Гэта вельмі абурыла старога. Ён падняўся са свайго месца і грукнуў кулаком па стале. Валацуга ажно падскочыў ад нечаканасці і ці то наўмысна, ці то не вылаяўся:

— Раздзяўбі цябе трохрогі ідал! Навошта так пужаць?

Аднак, пабачыўшы ў вачах Магістра нянавісць, дзівак пакорліва ўціснуў галаву ў плечы і ціха вымавіў:

— Прабачце, ваша міласць.

Але ён усё роўна зрабіў гэта тэатральна. На яго шчасце, намеснік Вярхоўнага судзі не заўважыў гэтага.

— Калі вы не будзеце паважаць суд, я загадаю дружыне павыганяць вас усіх! — Магістр звярнуўся да натоўпу, які адразу ж заціх.

Каб людзі зразумелі, што дружына гатова выканаць гэты загад, Ротмістр, які стаяў у пярэдняй частцы залы, зрабіў некалькі крокаў наперад і паклаў руку на пояс, дзе была зброя.

— Працягвай, — Магістр звярнуўся да Валацугі, — калі маеш што яшчэ сказаць. Але спярша хачу дадаць, што пасля Вольнага схода будуць асуджаны ўсе астатнія, хто падбухторваў насельніцтва да непаслушэнства. Таму сапраўды рыхтуйцеся, калі вы бралі ў гэтым удзел!

Лёгкі гул прабег па зале. Аднак людзі адразу ж засяродзіліся на падсудным, калі той зноў пачаў гаварыць:

— Чацвёртае. Перапыніўшы мяне, шаноўны пан Магістр трохі павялічыў працягласць пасяджэння. Гэта відавочна, ці не так?

Валацуга пытальна ўтаропіўся ў намесніка Вярхоўнага суддзі.

— Так, — адказаў той. — І што з таго? Мне трэба было супакоіць балаган, які ты тут учыніў.

— Безумоўна, — усміхнуўся дзівак, павярнуўшы галаву да людзей. — А зараз уявіце, што аднаму з тых, хто сёння прысутнічае ў гэтай зале, звалілася на галаву цэгла, калі ён вяртаўся дамоў пасля суда. Кавалак раптоўна адшчапіўся ад старога будынка ды трах — і забіў небараку! Адкажыце мне, ці трэба вінаваціць у гэтым пана Магістра, які павялічыў працягласць пасяджэння? Бо зразумела, што калі б ён гэтага не зрабіў, цэгла бы звалілася на зямлю, а не на галаву чалавека.

Натоўп зноў выбухнуў.

— Вяртаючыся дахаты, асцерагайцеся і глядзіце ўгору, а не пад ногі, бо хто ведае, магчыма, гэта вы загінеце сёння па віне пана Магістра!

Валацуга пачаў рагатаць, яшчэ больш распаляючы людзей.

— Ну, хопіць! — не вытрымаў стары. — Выведзіце гэтага вар'ята з залы! І супакойце натоўп!

Магістр паглядзеў на Ротмістра, які адразу загадаў дружыннікам навесці парадак у зале. Калі зноў стала ціха, кіраўнік Рады працягнуў:

— Падсудны адразу прызнаў, што зрабіў усё, у чым яго абвінавачваюць, пасля чаго пачаў абразліва сябе паводзіць. Я даў яму магчымасць выказацца. Ён меў дастаткова часу, каб абараніць сябе, але вырашыў учыніць балаган. Суд больш не збіраецца трываць такіх паводзін. На гэтым пасяджэнне абвяшчаецца скончаным. У хуткім часе будзе вынесены вырак абодвум падсудным.

І Магістр выйшаў з залы ў суправаджэнні сваіх паслоў.

Увечары на ўсіх заезных дамах вісела аб’ява пра тое, што галоўны злачынец і першы забойца Вольнага горада прыгавораны да смяротнага пакарання.

# Раздзел XXVI

## Пра тое, як у Вольным горадзе адбылося першае самазабойства

Канцлеры ведалі, што ім будзе цяжка перацягнуць Гэндэнвіту на свой бок, таму яны распрацавалі дадатковы план дзеянняў, які потым і выкарысталі. Яны зрабілі кабеце прапанову, ад якой было цяжка адмовіцца. Аднак зрабілі гэта асцярожна, каб жанчына нічога не западозрыла. Белы канцлер выканаў ролю таго, хто не хоча ісці на саступкі. Жоўты — таго, хто не супраць перамоў. З прадстаўніка Поўначы нават пачалі трохі здзекавацца — настолькі добра ён выканаў ролю істэрычнага сябра Рады.

Канец у гэтага плана быў сумны. Чорны канцлер нацкаваў аднаго звар'яцелага паслядоўніка свайго культу, каб той забіў Гэндэнвіту. Галоўны жрэц сказаў, што кабета з'яўляецца пагрозай для Чорнай змяі, бо хоча забараніць культ. Гэта была хлусня: Гэндэнвіта жадала прыраўняць яго да астатніх, а не забараніць. Аднак фанатычныя лю-

дзі ніколі не былі сярод тых, хто шукае праўду. Ім заўсёды дастаткова толькі таго, што кажуць іх уладары.

Чорны канцлер сказаў звар'яцеламу паслядоўніку, што забойства ворага культу з'яўляецца вышэйшай дабрадзейнасцю, за якую душа адразу атрымлівае вечнае заможнае жыццё — пакуль не згасне свет. Прадстаўнік Поўдня не баяўся, што ягоны культ абвінавацяць у тым, што ён добра ставіцца да гвалту. Вар'яты былі заўсёды і паўсюль, што з іх возьмеш? Пазней галоўны жрэц увогуле разлічваў давесці небараку да самазабойства, аднак гэтага не спатрэбілася. Конь Гэндэнвіты так спужаўся, што да смерці затаптаў вар'ята пасля таго, як той забіў жанчыну.

Канцлеры ўсё ўлічылі. Гэндэнвіта сама прапанавала зрабіць Магістра намеснікам Вярхоўнага судзі. Яна, як і ўсе, ведала пра хваробу старога, аднак не здагадвалася, наколькі ўсё дрэнна. Апошнім часам у кіраўніка Рады было толькі два станы: першы — хворы, калі ён ляжаў у ложку, другі — злы, калі ён ненавідзеў увесь свет. Таму канцлеры не сумняваліся, што прысуд Магістра, які ён вынесе Вандроўніку і Валацугу, цалкам іх задаволіць.

Канцлерам не трэба было пераносіць разгляд спраў. Зараз ужо нішто не абавязвала іх рабіць гэта. Новага Вярхоўнага суддзю Рада павінна прызначаць цягам трох тыдняў — гэта таксама была прапанова Гэндэнвіты, якую канцлеры з задавальненнем ухвалілі. На выбары новага прадстаўніка Чырвонага бора не было часу, бо да наступнага Вольнага схода заставалася менш за сем тыдняў. Нішто не замінала сябрам Рады адпомсціць Вандроўніку і Валацугу, якіх яны лічылі сваімі ворагамі.

Здзейсніць прысуд вырашылі наступным днём на рынкавай плошчы Таўна. Ахвотнікаў паглядзець было шмат. На мяжы з цэнтральнай часткай Вольнага горада ўтварыліся вялікія чэргі, і вартаўнікі не паспявалі выдаваць

пропускі. Карчмар і Гаспадыня адгаворвалі Красуню хадзіць туды:

— Дачушка, не трэба табе глядзець на гэтае вар'яцтва, — сумна сказаў прыёмны бацька дзяўчыны.

— Мабыць, Магістр перадумае! Татачка, ты ж памятаеш, што ён калісьці быў вельмі добры чалавек.

Надзея жыла ў сэрцы Красуні.

Карчмар толькі пахістаў галавою. Нават ён канчаткова страціў веру ў лепшае. Гаспадыня была раз'юшаная, як ніколі раней. Яна амаль усю ноч біла кулакамі ў сцены і дзверы свайго пакоя, не даючы мужу спаць. Пад раніцу жанчына супакоілася і заснула, але зараз яна зноў была ўзбуджаная.

— А што, калі ты выкарыстаеш тыя дакументы, што знайшла ў доме мярзотніка? — запытала яна Красуню.

— У гэтым няма сэнсу. Канцлеры не маюць ніякага дачынення да прысуду.

— А Магістр? Няўжо гэты стары дурань нічога дрэннага не зрабіў? Ён жа зусім розум страціў! — Гаспадыня грукнула кулаком па стале.

— На жаль, не, — уздыхаючы, адказала дзяўчына. — Трэба збірацца, я ўсё ж такі паеду на плошчу, бо ўсё яшчэ веру...

...На памосце ўсталявалі шыбеніцу. Магістр палічыў, што працей за ўсё будзе павесіць асуджаных. Каб выканаць гэта, патрэбен толькі адзін чалавек. Кіраўнік Рады вырашыў, што сам здзейсніць прысуд, які ён і вынес.

Натоўп заціх, калі дружыннікі вывелі на памост Вандроўніка і Валацугу. Некаторыя людзі глядзелі на іх і не маглі паверыць, што ўсё гэта адбываецца насамрэч. Што яны па-ранейшаму знаходзяцца ў Вольным горадзе, а не ў адной з краін, адкуль калісьці сышлі. Белы канцлер пачаў зачытваць прамову, якую падрыхтаваў самастойна:

— Спадарства! Сёння самы журботны дзень у гісторыі нашага краю. Смяротнае пакаранне — гэта вынік дзейнасці старой Рады, якая заахвочвала вальнадумства і мела намер правесці рэформу, якая прывяла б да дзясяткаў падобных прысудаў. Толькі дзякуючы нам, новым канцлерам, адзін з якіх стаў ахвярай злачынцы, якога вы зараз бачыце перад сабою, удалося перадухіліць катастрофу. Аднак мы не ўсёмагутныя...

— А што наконт Чорнага канцлера? — нехта жартаўліва выкрыкнуў з натоўпа.

На твары Валацугі з'явілася ўсмешка.

— Аднак мы не ўсёмагутныя, — працягнуў прадстаўнік паўночнага бора, — і не можам адразу выправіць усе хібы, прычына якіх — вальнадумства. Каб выратаваць наш бласлаўлёны край і каб сённяшнія смяротныя пакаранні былі першыя і апошнія, вы павінны зноў падтрымаць нас падчас Вольнага схода, як зрабілі гэта год таму. Паглядзіце на нашыя...

У гэты момант да Магістра наблізіўся задыханы Ротмістр. Ён нешта сказаў яму, пасля чаго кіраўнік Рады стрымана кіўнуў. Стары дачакаўся, калі Белы канцлер сконча прамову, пасля чаго заняў яго месца і голасна сказаў:

— Нам сталі вядомы новыя абставіны ў справе чалавека, які быў асуджаны за забойства прадстаўніка заходняга бора. Зараз мы вымушаны часова яго вызваліць, аднак пазней яго справа будзе перагледжаная.

Натоўп загуў. Ротмістр падышоў да Вандроўніка, паляпаў яго па плячы і правёў да лесвіцы. Хлопец спусціўся з памоста і праціснуўся да Красуні, якая стаяла непадалёк ад галоўнага месца дзеі. Ён моцна абняў яе, аднак адразу ж працверазеў ад пачуцця радасці, якое на некалькі імгненняў авалодала ім. Самотныя вочы яго каханай глядзелі ўбок Валацугі, які застаўся стаяць на памосце.

Слёзы пабеглі з вачэй Вандроўніка, калі ён зразумеў, што нічым не можа дапамагчы сябру. Калі яны стаялі побач, ён адчуваў злосць і страх, але прысутнасць дзівака надавала хлопцу моцы, і ён трымаўся. Зараз жа, калі ён уратаваўся, яго ахапіла сапраўднае бяссілле і асуджанасць. Яму хацелася ўпасці на зямлю і пачаць дзерці яе, пакуль гразь не заб'ецца пад пазногці і кроў не пачне цячы з ран. І ён зрабіў бы гэта, калі б не натоўп, які шчыльна абкружыў яго з усіх бакоў.

Магістр падышоў да Валацугі. Ён зноў пачаў угледацца ў твар дзівака, які было цяжка разгледзець за кудлатай барадой і кашлатымі валасамі. Хтосьці з натоўпу выкрыкнуў: «Літасці!» Гэта раззлавала кіраўніка Рады. Ён перавёў позірк на людзей і паспрабаваў знайсці таго, хто выкрыкнуў гэтае слова, але не змог. Ён узяў у рукі чорную торбу, павярнуўся да Валацугі і сказаў:

— Ці ёсць табе, што сказаць? Якой будзе твая апошняя воля?

— Пан Магістр, — аксамітавы голас дзівака гучаў спакойна, — калі дазволіш, няхай мой сябар, якога ты зараз вызваліў, забярэ маё цела ды падрыхтуе яго да пахавання. Не хачу, каб мяне, як бяздомнага сабаку, закапалі ў якой канаве. Я нарадзіўся прыгожанькім і сысці таксама хачу прыгожанькім.

Валацуга ўсміхнуўся. А разам з ім і тая частка людзей, якая прагнула, каб усё, што зараз адбываецца, апынулася злым жартам.

— Хай ён мяне падстрыжэ ды паголіць, — працягнуў дзівак, — бо не хачу, каб і зямелька, як і людзі, адмовілася прыняць такое пудзіла.

Ён зноў усміхнуўся, пасля чаго падняўся на шыбеніцу. Магістр накіраваўся за ім...

...Галава Рады выканаў апошнюю волю Валацугі і аддаў яго цела Вандроўніку, сказаўшы, што жаданне дзівака насамрэч было добрае, бо наўрад ці знайшоўся б чалавек, які б захацеў яго нармальна пахаваць. Хлопец прывёз цела ў «Шалёны напой», аднёс у пакой, які Карчмар выдзеліў бясплатна, і пачаў прыводзіць у парадак. Калі ён скончыў, то заўважыў, што насамрэч яго сябар мае прыгожы твар нават пасля таго, як смерць пакінула на ім свой адбітак. І што ён не такі стары, якім здаваўся.

Пачало цямнець. Вандроўнік не выходзіў з пакоя і Гаспадыня вырашыла даведацца, ці не хоча хлопец чаго паесці ці папіць. Яна пагрукала ў дзверы і, не дачакаўшыся адказу, увайшла. Праз імгненне з пакоя данёсся жаночы крык...

...Калі Ротмістр прыехаў у Стары палац, Магістр рыхтаваўся да сну. Кіраўнік дружыны быў вельмі разгублены і ўвесь час паўтараў толькі адну фразу: «Хутчэй, гэта трэба пабачыць!».

Магістр, як і Гаспадыня, ускрыкнуў, калі ўбачыў твар Валацугі пасля таго, як Вандроўнік прывёў яго ў парадак. Перад старым ляжаў яго самы лепшы сябар, разам з якім яны калісьці заснавалі Вольны горад. Вандроўнік ніколі не бачыў гэтага чалавека, таму ніяк і не адрэагаваў на яго чыстае аблічча.

Але Гаспадыня, як і тысячы іншых жыхароў горада, ведала, як выглядае Заснавальнік. Яна адразу паклікала Карчмара і Красуню, і тыя таксама пазналі ў мёртвым дзіваку чалавека, дзякуючы якому апынуліся ў гэтым краі. Потым Гаспадыня выбегла на вуліцу і знайшла дружынніка, загадаўшы таму прывесці Ротмістра. Спачатку ён адмовіўся, бо не разумеў, навошта гэта спатрэбілася жанчыне, але спрачацца з ёю было немагчыма.

У кіраўніка дружыны адняло мову, калі ён убачыў Заснавальніка. Гаспадыня пачала пхаць яго ў плечы ды казаць, каб ён хутчэй прывёз Магістра, які не толькі прыгаварыў свайго найлепшага сябра да смяротнага пакарання, але і сам яго здзейсніў.

Усведамленне гэтай думкі дабіла старога. Ён усю ноч правёў каля сябра, а потым знік. Рада арганізавала ўрачыстае пахаванне. Жалоба апанавала Вольны горад. Здавалася, у той дзень на могілках, што месцяцца каля падножжа адной з гор, сабраліся ўсе насельнікі краю.

Усе, акрамя аднаго, які назіраў за пахаваннем з гары. Было сонечна, і ён радаваўся гэтаму. Але не як іншыя. Не таму, што сонца саграває і дае жыццё. Сёння яно ачысціла яго ад злосці, сёння ён зразумеў, што надышоў час развітацца. Што ён зруйнаваў усё, што калісьці меў. Што ён не пазнаў таго, каго любіў больш за ўсіх на свеце. Што даравацьможна кожнаму, але не сабе. Ён углядаўся і прыслухоўваўся, аднак не здолеў разгледзець і не захацеў паверыць, што голас, які ён чуў на працягу дзесяцігоддзяў, можа так хутка змяніцца да непазнавальнасці.

Калі пахаванне скончылася — скончыўся і ён.

Магістр ляжаў на зямлі. Здавалася, што яго шкляныя вочы зазіраюць за далягляд, нібы прагнуць адшукаць там кагосьці і папрасіць прабачэння. За ўсё...

# Раздзел XXVII

## Пра тое, як Красуня дамовілася з Радай

Дружына хутка даведалася, хто забіў Гэндэнвіту. Пра гэтага паслядоўніка культу Чорнай змяі добра ведалі не толькі ў паўднёвым бора, дзе ён жыў, але і ў заходнім, куды часта прыходзіў, каб браць удзел у сходах. Адметнай рысай гэтага чалавека было тое, што ён увесь час цёхкаў, нібы птушка, і паводзіў сябе як спалоханая жывёла, якая не ведае, у які бок лепш кінуцца. Сведкі забойства расказалі пра дзіўныя паводзіны злачынца, што дапамагло дружыннікам хутка адшукаць дом, дзе ён жыў.

Там яны знайшлі дзённік вар'ята, у якім было напісана, што ён нарэшце атрымаў магчымасць забіць Чырвонага канцлера, не выкарыстаў яе, аднак у выніку ўсё склалася так, як ён і хацеў. Калі ён быў гатовы нанесці смяротны ўдар зброяй, якую паслаў яму сам ідал, нейкі дружыннік заўважыў гэта і кінуўся на прадстаўніка заходняга бора. Удар вар'ята прыняло на сябе сядло, на якім застаўся пісаг. Здавалася, што дружыннік уратаваў канцлера, аднак ідал

дапамог — Чырвоны загінуў. Вар'ят таксама напісаў, што ненавідзеў нябожчыка за тое, што той перашкаджаў распаўсюджваць культ Чорнай змяі.

Такім чынам, было даказана, што Вандроўнік не хлусіў і насамрэч хацеў ўратаваць Чырвонага канцлера, а не забіць яго. Наступным днём пасля таго, як хлопца вызвалілі, Ротмістр прыйшоў да Красуні, каб даведацца, ці захавала яна сядло, якое было на кані яе былога мужа ў дзень яго пагібелі. Яна адказала, што нічога не знішчыла, дазволіўшы дружыннікам адшукаць сядло. Пісаг быў на месцы. Ротмістр падзякаваў дзяўчыне і сказаў, што знайшлі дзённік вар'ята, які забіў Гэндэнвіту, — цудоўна, інакш загінуў бы добры чалавек.

Аднак гэта не азначала, што Вандроўніку больш нічога не пагражае. Канцлеры спадзяваліся, што іх пераабяруць і пасля Вольнага схода яны ўсё роўна адпомсцяць хлопцу...

...Праз некалькі дзён пасля пахавання на магіле Заснавальніка быў усталяваны вялікі валун. На ім былі пазначаны толькі імя і гады жыцця таго, хто пад ім ляжыць, а таксама надрапана аблічча з усмешкай. У свой час Заснавальнік склаў тастамент — дадатак да Статута, дзе ён пазначыў, што надмагільным помнікам яму павінен быць гэты валун і што ўвесь вялікі край, што яму належаў, пераходзіць пасля яго смерці ў спадчыну Вольнаму гораду, за які Рада афіцыйна мае адказнасць.

Вандроўнік і Красуня сядзелі каля валуна, узяўшыся за рукі.

— Чаму ён не ўратаваў сябе? Чаму не сказаў, што ён Заснавальнік? — запытала дзяўчына.

— Магчыма, таму што ён канчаткова страціў надзею? Магчыма, таму што спадзяваўся, што яго найлепшы сябар пазнае яго? У апошнюю ноч ён сказаў мне, што яму пада-

ецца, што Магістр — увасабленне Вольнага горада, а дрэннае надвор'е — гэта ўсяго толькі няўдалая спроба людзей і самога старога абгрунтаваць яго хваробу. Насамрэч Магістр быў адлюстраваннем таго, што адбываецца ў горадзе. Усе тыя прыступы, якія з'явіліся ў яго да абрання новых канцлераў, нагадвалі спрэчкі, якія ён з лёгкасцю вырашаў. У той час ён з такой самай лёгкасцю спраўляўся і са сваёй хваробай. Аднак потым усё змянілася. Урэшце стары стаў люты, як і гэты горад.

— Думаеш, Заснавальнік не хацеў змагацца і вырашыў падпарадкавацца лёсу?

— У тую ноч я задаў яму падобнае пытанне. Я не ведаў, што гэта Заснавальнік, перада мною быў Валацуга, таму я проста запытаўся, ці варты Вольны горад таго, каб за яго змагацца да канца.

— І што ён адказаў?

— Ён сказаў, што ў свеце ніколі не было такой краіны, за якую трэба змагацца да канца. Вольны горад мог бы стаць такім месцам, але ён не здужаў. Абваліўся пад цяжарам чалавечых заган і хутка загіне. Ён сказаў, што бараніць трэба толькі той край, які цалкам вольны ад галечы.

— Але тут няма галечы.

— Ці не ёсць галечай тое, што тутэйшы жыхар больш сам сабе не гаспадар? Такі быў яго адказ.

— Ведаеш, мабыць, ахвяруючы сябе, ён хацеў прадэманстраваць жыхарам Вольнага горада, у якую багну іх завяла палітыка новай Рады? Мабыць, ён думаў, што толькі так можна выратаваць горад? Што яго смерць — гэта і ёсць апошняя надзея? Што яна працвярэзіць тутэйшы народ? Мабыць, ён усё ж такі змагаўся?

Красуня задумліва паглядзела ўдалечыню. Праз некалькі імгненняў яна павярнулася тварам да Вандроўніка і з усмешкай спытала яго:

— Як атрымалася, што ў апошнюю ноч вы размаўлялі?

— Ротмістр вырашыў, што чалавек не павінен праводзіць апошнія гадзіны жыцця ў адзіноце і дазволіў мне перайсці ў пакой, дзе сядзеў Заснавальнік. Кіраўнік дружыны хоць і вузкалобы, але ўсё ж такі міласэрны.

Дзяўчына паклала галаву на плячо хлопца.

— Што яшчэ Заснавальнік казаў у тую ноч?

— Ён расказваў мне розныя легенды.

— Я любіла слухаць яго легенды, — па шчацэ Красуні прабегла сляза. — Пра што былі апошнія?

— Сэнс першай быў у тым, што людзі баяцца таго, з чым рэдка сутыкаюцца ці што ніколі не бачылі. Нібы малыя дзеці, напалоханыя пачварамі, што жывуць толькі ў казках ці ў іх уяўленні. Ён казаў, што патрыярхальныя колы выкарысталі гэты страх, запужалі сенатараў і перамагалі старых канцлераў, якія страцілі пільнасць.

— А сэнс другой?

— Ён казаў, што большасці людзей не ўласціва думаць пра будучыню. Ім добра тут і зараз. Нават некаторыя з тых, хто прагне змен, калі-небудзь спыняцца. Паслы Магістра не маглі гэтага ўлічыць, калі выдавалі запрашэнні. Бо ніхто не ведае, калі чалавек вырашыць, што больш не трэба рухацца наперад. Аднойчы «тут і зараз» ператвараецца ў мінулае, а тыя, хто жывуць мінулым, не здольныя падтрымліваць жыццядзейнасць такога месца, якім калісьці быў Вольны горад. Рух наперад пачынае замінаць тым, хто спыніўся, яны адчуваюць сябе дрэнна і мараць пра былыя часы.

— Ці не здаецца табе, што Вольны горад быў асуджаны на пагібель ад самага пачатку?

— Магчыма, але чалавецтва нічога не дамаглося б, калі б тыя, каго яно лічыць дзівакамі, не спрабавалі б увесь час стварыць што-небудзь неверагоднае.

Красуня мацней прытулілася да Вандроўніка.

— А сэнс трэцяй?

— Трэцюю ён не паспеў расказаць цалкам. Яна была пра тое, што людзям з розных частак свету цяжка зразумець адзін аднаго і што, каб гэта здарылася, трэба стварыць не новы, а іншы свет. Ён пачаў казаць, што Вольны горад павінен быў стаць падмуркам для гэтага, але за намі прыйшлі, і ён не паспеў скончыць...

...Калі Красуня расказала Вандроўніку, што знайшла дакументы, здольныя знішчыць карумпаваных канцлераў, хлопец адразу ж пагадзіўся з тым, каб дзяўчына зрабіла гэта, але праз некаторы час прапанаваў ёй іншы варыянт:

— Ты можаш абмяняць гэтыя дакументы на свабоду. Скажы ім, што згодна аддаць іх, калі Рада дазволіць пакінуць горад усім, хто пажадае гэта зрабіць.

— Але што будзе з тымі, хто застанецца?

Вандроўнік не любіў, калі Красуня хвалявалася, але ён быў у захапленні ад таго, як у гэтыя моманты, калі яна штосьці казала, кончык яе носа пачынаў ледзьве прыметна рухацца. Яна заўважыла, як хлопец з усмешкай глядзіць на яго, лёганька штурхнула каханага ў бок і сказала:

— Хопіць на мяне так глядзець! Я сур’ёзна: што будзе з тымі, хто застанецца?

Хлопец разумеў, што зараз не лепшы час для жартаў, таму адразу прыбраў усмешку са свайго твару.

— Заснавальнік заўсёды казаў, што не трэба дапамагаць тым, хто не хоча сам сябе ўратаваць, бо такія людзі хутка пачынаюць ненавідзець тых, хто працягнуў ім руку.

— А як жа мы пакінем месца, дзе пахаваны наш сябар — чалавек, якога мы так любілі?

— Не мае значэння, дзе нарадзіўся мастак. Не мае значэння, дзе ён працаваў. Не мае значэння, дзё ён памёр.

Галоўнае тое, дзе людзі памятаюць пра яго і дзе шануюць яго памяць. А мы будзем рабіць гэта паўсюль і заўсёды!

Красуня пагадзілася. Але ёй усё роўна было цяжка ад адной толькі думкі, што хутка давядзецца пакінуць родны край і выправіцца ў вялікае падарожжа, не ведаючы, што яе чакае наперадзе.

Аднак спачатку Красуня і Вандроўнік вырашылі трохі пачакаць і паглядзець, чым скончыцца Вольны сход. Яны спадзяваліся, што ахвяра Заснавальніка ўсё ж такі працверазіла мясцовы народ. Але памыліліся. Цягам тыдняў сенатары не маглі дамовіцца. Гэта азначала, што адзінства зрабілася нечым недасяжным і ніхто не ведаў, чым усё скончыцца...

...Канцлеры вырашылі прыняць прапанову Красуні. Згодна са Статутам у адсутнасць магістра ім часова — да заканчэння Вольнага схода — былі вернуты паўнамоцтвы для таго, каб горад не застаўся без кіраўніцтва.

Спачатку прадстаўнік паўночнага бора імкнуўся пераканаць астатніх, што ім удасца з дапамогай падману вырашыць гэтую справу. Ён больш за іншых прагнуў помсты і жадаў, каб Вандроўніка пакаралі. Аднак Жоўты канцлер не хацеў рызыкаваць. Ён заручыўся падтрымкай Чорнага, паабяцаўшы, што святары яго культу будуць мець свабодны доступ ва ўсходняе бора. У Белага больш не засталося шанцаў на перамогу ў гэтай спрэчцы.

На здзіўленне Вандроўніка і Красуні, мала хто скарыстаўся магчымасцю сысці з горада. Вырашылі застацца і Карчмар з Гаспадыняй. Прыёмныя бацькі дзяўчыны сказалі, што ўжо даўно мінуў той час, калі яны былі гатовыя блукаць па свеце ў пошуках лепшай долі. Свой лёс яны знайшлі тут і застануцца тут да канца, як бы цяжка ні было ў будучыні.

Тыя ж, хто сышоў разам з Красуняй і Вандроўнікам, а сярод іх былі Скватар і Біна з Лекарам, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў хадзілі па вялікім краі, які калісьці належаў Заснавальніку. Былыя жыхары Вольнага горада доўга шукалі прыдатнае месца для таго, каб заснаваць новы вольны горад, але так і не знайшлі яго. Разыходзячыся па свеце, яны паўсюль раскідвалі апошняе сапраўднае зерне свабоды. Аднойчы з'явіцца той, хто здолее пазбіраць усе плады ў адзін вялікі стог, з якога і пачнецца Іншы свет...

Калісьці даўно ў сонечны край
Здалёку прыйшлі маразы.
А людзі падумалі: «Хутка сыдуць,
Не будзем хаваць мы насы».

Але не сыходзілі тыя зусім –
Трашчалі, шчыпалі, пяклі!
Пад вопратку лезлі, у сенцы, дамы
Ды ў пашчу сабе валаклі.

Стаміліся людзі ў холадзе жыць,
Хацелася сонейка зноў.
Паклікалі тройчы — прасілі іх край
Пазбавіць ад злых маразоў.

І сонейка выйшла, аднак не змагло
Змагацца са сцюжаю лютай,
Якая так моцна скавала зямлю,
Што стала жыццё ўсім пакутай.

Не здольны былі таго людзі трываць,
Глядзелі яны ўбок чужыны,

Дзе сонейка свеціць, дзе менш маразоў
Такіх, каб аж гнуліся спіны.

Аднойчы паціху, адзін за адным
Усе смельчакі разышліся.
У краі ж, дзе сцюжа пануе даўно,
Курганы адны засталіся.

* * *

...Да вялікага валуна, на якім надрапана ўсмешка і вакол якога квітнее пустазелле, наблізіўся сівы згорблены чалавек. Ён прыпыніўся побач з магільным каменем, з усмешкай паглядзеў на прыгожы клён, што рос за валуном, дастаў з кішэні брудна-шэрую сутжку, якая калісьці мела малочны колер, і спаліў яе.

Гэта была апошняя рэч, што нагадвала яму пра месца, якое шмат гадоў таму было найлепшым у свеце, а цяпер ляжала ў руінах.

Аднак прыйшоў ён сюды не таму, што настальгія прымусіла зрабіць яго гэта, а таму, што жывыя павінны час ад часу наведваць мёртвых.

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Тамарыч** Васіль

# ВОЛЬНЫ ГОРАД

Раман

Камп'ютарны дызайн, вёрстка *А. Нявінская*
Дызайн вокладкі *А. Свірыдзенка*
Карэктар *М. Шавыркіна*

Падпісана да друку 25.02.2020. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 12,5. Улік.-выд. арк. 7,4.
Наклад 500 ас. Замова 12247.




Выдавец і паліграфічнае выкананне:
таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/142 ад 09.01.2014. № 2/34 ад 23.12.2013.
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.
www.medisont.by